# БЕЛАРУСКІ
# КАЗАЧНЫ ЭПАС



Складальнік
*У. В. Анічэнка*

**Мінск**
**Выдавецтва БДУ**
**імя У. І. Леніна**
**1976**

# Ад складальніка

Беларускі казачны эпас складаюць разнастайныя па зместу і форме вусна-паэтычныя і празаічныя творы, створаныя ў розны час на рознай тэрыторыі Беларусі. Асабліва вызначаецца ў гэтых адносінах дарэвалюцыйнае беларускае Палессе, якое доўгі час лічылася адсталай правінцыяй царскай Расіі. Гэта давала падставу некаторым вучоным гаварыць у свой час пра непастаянную заселенасць лясных і балотных масіваў палескай тэрыторыі, пра частую міграцыю і неаўтахтоннасць беларусаў-палешукоў і інш. І толькі савецкія даследчыкі пераканаўча даказалі старажытнасць і ўстойлівасць славянскага насельніцтва палескага краю, яго побыт і культуру. Пра гэта сведчыць не толькі захаванне тут багатай старажытнай археалагічнай, але і духоўнай культуры з разнароднымі дыялектнымі асаблівасцямі.

На Палессі здаўна ствараліся і бытавалі ў вуснай перадачы самабытныя казачныя матывы і мясцовыя варыянты агульнавядомых казак. Многія з іх запісаны і апублікаваны яшчэ ў дарэвалюцыйны час, а некаторыя вядомы пакуль што ў рукапісах, якія захоўваюцца ў біб-

ліятэках, размешчаных за межамі нашай рэспублікі. Па гэтай прычыне яны фактычна недаступны масаваму чытачу, а між тым маюць вялікае не толькі пазнавальнае, але і навуковае значэнне для гісторыкаў, літаратараў і асабліва для даследчыкаў беларускай мовы.

Да ліку яшчэ не апублікаваных, але значных і цікавых казачных твораў XIX ст. адносіцца фальклорны зборнік, выяўлены ў 1973 г. у бібліятэцы Польскай Акадэміі навук у Кракаве. У зборніку змешчана звыш 60 казак на беларускай мове з вёсак былых Мазырскага, Рэчыцкага і Навагрудскага паветаў. Казкі запісаны лацінскай графікай тагачаснай польскай мадыфікацыі.

На першай старонцы зборніка ёсць дзве прыпіскі. У адной з іх гаворыцца, што беларускія казкі запісала Эма з Яленскіх Дмухоўская, а ў другой — адрас: Вільна, праспект С. Ерскі, дом Гульбінскага. У канцы зборніка стаіць пячатка, на якой значыцца дата 25. X. 1898 г.

Магчыма, Эма Дмухоўская была дачкой вядомага ўраджэнца Мазырскага павета І. Яленскага, які ў канцы XVIII ст. выступаў у абарону беларускага і рускага сялянства супраць прыгону, за раўнапраўе народаў незалежна ад іх сацыяльнага становішча. Дата на пячатцы, відаць, сведчыць аб тым, што рукапіс зборніка трапіў у Кракаў з Вільні ў 1898 г.

Фальклорныя тэксты, якія налічваюць 150 рукапісных старонак, насычаны глыбокім сацыяльным зместам. Сярод іх найбольш папулярнымі былі сацыяльна-бытавыя, чарадзейныя казкі, казкі пра дамашніх і дзікіх жывёл і інш. Казачны рэпертуар зборніка разнастайны і ў тых адносінах, што ў ім нярэдка сустракаюцца варыянты адных і тых жа казак, напрыклад, тэксты казак «Парабак і бусел» — «Парабак і бусел», «Кароль і каралева» — «Бацька і дачка», «Дочкі» — «Дочкі», запісаныя ў Рэчыцкім, Мазырскім і Навагрудскім паветах, у якіх аднолькавы змест перадаецца па-свойму. Усё гэта надае

беларускім казкам непаўторны кампазіцыйны і моўна-стылістычны каларыт.

Паасобныя палескія казкі ўключаны ў зборнік з дарэвалюцыйных польскіх выданняў В. Вярыгі, С. Хэтхоўскага, Я. Карловіча: «Былінка і верабей», «Муж і жонка», «Нешчаслівая доля», «Чалавек з розумам».

Гэта ў значнай меры дапаўняе палескія сюжэтныя матывы новым зместам і рэгіянальным каларытам.

Асобнае месца займаюць у зборніку казкі, у якіх адзначана месца іх стварэння на беларускай тэрыторыі, дзе яны запісваліся і адкуль пашыраліся сярод вясковага насельніцтва. Яркім узорам у гэтых адносінах з'яўляюцца казкі з вёскі Сянежыцы Навагрудскага павета «Кот і певень», «Чорт». У першай з іх упамінаецца вёска («Дай жывуць аны і жывуць з петушком — от тут недалечко за Сянажыцамі — і цяпер жывуць»), а ў другой — павет («Падзі ты, дзедухно, до города — до Навагрудка — мо што почуеш?»).

Беларускія казкі, сістэматызаваныя ў фальклорным зборніку, былі прызначаны для польскага чытача. Аб гэтым сведчыць не толькі тое, што тэксты напісаны польскай графікай, але тлумачэнне не зразумелых для польскага чытача паасобных рэгіянальных слоў у падрадковых заўвагах адпаведнымі польскімі лексічнымі эквівалентамі, напрыклад: *арабіна* — jarzębina, *доўбня* — buława, obuch, *богатыр* — bogacz, *малашэбніца* — znacharka, *трасца* — febra, *сцельнік* — plaster miodu, *шлях* — droga, *ценято* — sieć і інш.

Казачны матэрыял захоўвае цікавыя факты для разважання аб моўнай спецыфіцы беларускіх народных гаворак. Асабліва паказальнымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца казкі, запісаныя ў вёсках былых Мазырскага і Рэчыцкага паветаў. Тут захаваліся такія рэдкія ў наш час фанетычныя з'явы, як вымаўленне дыфтонга *уо* на месцы спрадвечнага галоснага *о* пасля цвёрдых зычных у закрытых складах *(груоб, гуод, двуор, дуом, нуожкі,*

*негуодный*); наяўнасць *у* замест этымалагічнага *ы* (*була, запруг, путае*); мясцовае вымаўленне зычнага гука *ф* спалучэннямі *хв, хф* (*хвузея, хфурман, шахфа*); пераход ѣ ў *і* (*дзівок, кобіта, сій*); змяшэнне *і-ы* (*паныч, упалы, хыба*).

У галіне марфалогіі казачныя тэксты характарызуюцца захаваннем канчатка *-мо* ў дзеясловах першай асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу і загаднага ладу (*даймо, ежмо, забіемо, уцікаймо, вазьмімо, адведаймо, едзьмо, влезьмо, іграймо, ляжмо, сядзьмо, напоймо, поменяймо, адправмо, разчыньмо*); ужываннем рэштак старажытных форм парнага ліку (*дзве капе, дзве паніхідзе*); утварэннем клічных форм на *-о, -у* і слоў пры дапамозе памяншальна-ласкальных суфіксаў (*бацюхно, маменько, дзедухно, Іванко, яблушко, кулешык, дзеравіна, чоўночэк, гускі, варобейка, дочухна*). І што асабліва важна падкрэсліць, многія казкі адлюстроўваюць рэдкую старажытную з'яву — так званае саканне, характэрнае для зваротных дзеясловаў: *ашукайса, прызнайса*. Зваротныя дзеясловы з часціцай *-са* ўжываюцца да апошняга часу на захадзе Гомельскай і Гродзенскай абласцей, а таксама на ўсходзе Брэстчыны і поўдні Міншчыны.

Сінтаксічная сістэма казачнай мовы вызначаецца многімі даўнімі спецыфічнымі мясцовымі рысамі. Найчасцей тут паўтараюцца традыцыйныя прыназоўнікавыя словазлучэнні тыпу *клічэ на дочку, чэкаць на воўка, пашла по госьці, вернуўсе по лапці, горшый ад усіх, разумней ад цебе*. Характэрная асаблівасць сінтаксісу казачных твораў — гэта зварот з прамым дапаўненнем у форме назоўнага склону для абазначэння адушаўлёных прадметаў (*ходзіць коні стада, сьвіні воўкі ловяць, запёр сьвіні до клеці, трапіў на воўкі*), а ў форме роднага склону для абазначэння неадушаўлёных прадметаў (*войстрыць ножа, побегу лапцей узяць, взяў он гарбуза*); ужыванне паасобных канструкцый з формамі назоўнага-віна-

вальнага склонаў назоўнікаў замест творнага (*пайду на цебе людзі, ты будзеш маю жонку, завязаў хусточку очы*) і інш.

Адметную асаблівасць беларускіх казак складае шырокае ўжыванне форм будучага часу дзеясловаў у значэнні прошлага: *Так ана вночы пойдзе, так аны выйдуць з ім, дай прыдуць до господы, поглянуць да ложка, дай полюбуюцса і поцешацса. Так он пойдзе, а она за ім, заведзе его в могілу, і адчыніцса гроб его, і он влезе в труну.* Такая замена прошлага часу будучым часам вядома беларускай пісьменнасці з XV ст. і з'яўляецца звычайнай з'явай размоўнага стылю многіх сучасных беларускіх гаворак.

Лексіка казак насычана словамі і словаўтваральнымі элементамі, якімі карысталіся тады вясковыя жыхары беларускага Палесся і іншай тэрыторыі Беларусі. Структурна-семантычны аналіз дыялектнай лексікі фальклору паказвае, што яна ўяўляе сабой арыгінальную і своеасаблівую сістэму, якая заключаецца ў тым, што трывала захоўвае рэгіянальны каларыт, даволі стойкі сінтэз розных структур. Многія мясцовыя словы ў семантычных адносінах не супадаюць са словамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы, бо заснаваны на розных прыкметах, з'явах і г. д. Пашырэнне семантычнага аб'ёму некаторых дыялектных слоў адбывалася ў выніку ўзнікнення пераносных (метафарычных) значэнняў і ўзмацнення пэўных экспрэсіўных якасцей. Такія лексіка-семантычныя дыялектызмы складаюць агульнанародныя словы, якія ў выніку свядомага ўжывання іх у гаворках прыкметна адрозніваюцца ад аналагічных слоў беларускай літаратурнай мовы: *біць — малаціць; боровый — лясны; віць — месці* (пра завіруху); *кідацца — пераўтварацца; лопнуць — махнуць* (крылом); *мяньціць — мучыць, цягаць; наковаць — навастрыць; прагнаць — перагнаць; публікацыя — ліст; спаляваць — застрэліць; товарыства — чарада; чоўнок — човен; чыніць — начыняць.*

У казачным эпасе нярэдка сустракаюцца словы, для якіх адсутнічаюць аднаслоўныя адпаведнікі ў беларускай літаратурнай мове, дзе яны раўназначны словаспалучэнням або апісальным зваротам: *двойка — два разы, зглошыцса — унесці прапанову, імпер'ял — залатая манета* (дзесяць рублёў серабром), *лошак — гадавалае жарабя, полкватэркі — конаўка* (паўчвэрць літра), *укленчыць — пастаяць на каленях.*

У творах казачнага зместу захавалася нямала слоў, якім у нашай літаратурнай мове адпавядаюць лексічныя паралелі іншай каранёвай структуры: *адселене — водшыб, ворухаты — паваротлівы, кавеня — палка, кеп — дурань, кічка — дубец, коча — экіпаж, кукаўка — зязюля, латун — абадранец, палаш — шабля, порухаты — паршывы, прасечка — палонка, сцягнуць — сцебануць, трактоваць — частаваць, учоўкаць — з'есці, хаба — завіруха, замець.*

Фальклорная лексіка адрозніваецца ад нарматыўнай лексікі спецыфічнай словаўтваральнай сістэмай. Часта словы аднаго і таго ж семантычнага раду ўтвараюцца пры дапамозе розных суфіксаў (*бегнуць — бегчы, жарніца — жароўня, жэноцкі — жаночы, кукаць — кукаваць, лясовы — лясны, паплынуць — паплысці*); прэфіксаў (*запомогчы — дапамагчы, зачаць — пачаць, зблудзіць — заблудзіць, згадываць — адгадваць, одкрасці — украсці, одратоваць — выратаваць, ослухаць — падслухаць, позьміраць — паміраць, поўставаць — уставаць, прыраіць — параіць, уткаць — выткаць*).

Некаторыя назоўнікі ў прастамоўі і літаратурным ужытку часам не супадаюць у формах граматычнага роду (*пасага — пасаг, патопа — патоп*) або маюць розныя зыходныя формы (*клецconfiguration — клець*).

Нягледзячы на тое, што прастамоўная лексіка беларускага народа фарміравалася ў розныя часы на розных асновах, яе развіццё адбывалася паводле ўласных словаўтваральных сродкаў з характэрнымі для яе мя-

сцовымі асаблівасцямі ў кожным канкрэтным выпадку. Аднак кантакты беларускага народа з суседнімі славянскімі і неславянскімі народамі не маглі не прывесці да пэўных запазычанняў і захавання ў мясцовых гаворках лексікі іншамоўнага паходжання.

Характэрна, што ў агульнай лексічнай сістэме беларускіх народных казак запазычаныя словы займаюць нязначнае месца. Многія з іх ужо даўно не ўспрымаюцца як іншамоўныя, бо адлюстроўваюць у сваім саставе спецыфічна беларускія фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці. Нераўнамернасць лексічных запазычанняў уяўляе сабой неаднастайны малюнак, таму ўстанавіць з гэтага пункту погляду пэўныя адносіны вельмі складана. Можна толькі канстатаваць, што найбольш прыкметны струмень у запазычанай лексіцы складаюць паланізмы тыпу *бардзо — вельмі; вроціць — вярнуцца; вшэлякі — усякі, усялякі; ніц — нічога; пацер — малітва; пекны — прыгожы; перэжэгнацса — перахрысціцца; прэндко — хутка; рок — год; строна — бок; ценжа — цяжарнасць; цурка — дачка.*

Важна пры гэтым мець на ўвазе, што некаторыя паланізмы працярпелі на беларускай глебе не толькі ўнутрыструктурныя, але і семантычныя змены. Напрыклад, слова польскай мовы rodzony успрымаецца ў народных казках у форме *рожоный — родны*, а паланізм *страцене* абазначае паняцце *страта.* У польскай мове гэта слова ўжываецца ў значэнні *пакаранне смерцю.*

Тэксты казак, запісаныя польскай графікай, друкуюцца ў кнізе сродкамі беларускай графічнай сістэмы з захаваннем усіх моўных асаблівасцей арыгінала, у тым ліку націску і знакаў прыпынку. Выбухны гук *г* перадаецца праз дыграф г'. Толькі абзацы пры простай мове вызначаны і пунктуацыйна аформлены паводле сучаснага беларускага правапісу. Падрадковыя каментарыі з польскай мовы перакладзены на беларускую. Загалоўкі казак належаць складальніку.

Для палягчэння самастойнай работы чытачоў над тэкстам кніга забяспечана слоўнікам мясцовых слоў і словаўтваральных тыпаў, нехарактэрных для сучаснай беларускай літаратурнай мовы, або слоў, якія адрозніваюцца ад нарматыўнай лексікі сваім значэннем або адценнямі значэнняў.

Знаёмства з беларускім казачным эпасам паказвае, што ён з'яўляецца важнай крыніцай вывучэння не толькі вуснай народнай творчасці, яе вытокаў і традыцый, мінулага нашага народа, яго побыту, культуры, свядомай барацьбы сялянства за сваё вызваленне ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, але і дае нагляднае ўяўленне аб тым, як развівалася гутарковае слова ў яго разнастайных форма- і словаўтваральных варыянтах. Пры гэтым заўважаецца, што адной з істотных асаблівасцей мовы беларускага дарэвалюцыйнага фальклору было падпарадкаванне яго ўнармаванай гукавой, граматычнай і лексічнай сістэме, якая дае магчымасць даволі выразна характарызаваць моўнае развіццё на Беларусі ў XIX ст. не толькі за кошт уласных сродкаў, але сувязі і ўзаемадзеяння з іншымі ўсходнеславянскімі і некаторымі заходнеславянскімі мовамі. Усё гэта азначае, што фальклорныя традыцыі ў дарэвалюцыйнай Беларусі былі даволі ўстойлівымі і дасягнулі высокага майстэрства.

*У. В. Анічэнка*

# Беларускія казкі ў запісах Эмы Дмухоўскай

Беларускія казкі займаюць пачэснае месца ў казачным эпасе ўсходнеславянскіх народаў. Яны характарызуюцца разнастайнасцю сюжэтных тыпаў, мастацкай дасканаласцю лепшых узораў. Гэтыя якасці беларускіх казак былі заўважаны даследчыкамі вуснай народнай творчасці яшчэ ў дарэвалюцыйны час. У даследаванні «Русская народная сказка» (1914) С. В. Саўчанка пісаў, што «па жывасці і прыгажосці апавядання беларускія казкі не маюць сабе роўных. Нават лепшыя казкі Анчукова і Сакаловых уступаюць ім у гэтых адносінах, хаця пераўзыходзяць у строгасці эпічнай канструкцыі» [1].

Сучасны савецкі даследчык М. У. Новікаў у пацвярджэнне думкі аб сюжэтнай разнастайнасці ўсходнеславянскіх чарадзейна-фантастычных казак налічвае 144 сюжэтныя тыпы ў рускім рэпертуары, 187 — ва ўкраінскім і 230 — у беларускім [2].

[1] *Савченко С. В.* Русская народная сказка. История собирания и изучения. Киев, с. 245—246.

[2] *Новиков Н. В.* Образы восточнославянской волшебной сказки. Л., 1974, с. 23.

Інтэнсіўны запіс беларускіх казак пачаўся ў XIX стагоддзі, асабліва ў другой палавіне стагоддзя. Найбольшы ўклад у іх збіранне ўнеслі П. Шэйн, Е. Раманаў, У. Дабравольскі, М. Федароўскі, А. Сержпутоўскі. Апублікаваныя зборнікі гэтых фалькларыстаў раскрылі велізарнае багацце казачнага эпасу беларусаў. Але апублікавана толькі частка твораў, якія бытавалі ў народзе ў той час. Сведчаннем гэтаму з'яўляюцца шматлікія рукапісныя зборы, якія захоўваюцца ў розных архівах і сховішчах Савецкага Саюза і іншых краін. Зборнік Эмы Дмухоўскай, які захоўваецца ў бібліятэцы Польскай Акадэміі навук у Кракаве, вылучаецца з іншых збораў. Нягледзячы на тое, што амаль усе сюжэты казак зборніка вядомы па ранейшых запісах іншых фалькларыстаў, змешчаныя тут тэксты ўяўляюць сабой цікавыя варыянты беларускіх казак. Яны даюць магчымасць устанавіць сюжэтна-казачны рэпертуар беларускай вёскі другой палавіны XIX стагоддзя, даследаваць светапогляд і настроі сялян, а таксама сацыяльныя адносіны ў дарэвалюцыйнай Расіі. Таму зборнік мае навуковую каштоўнасць.

Жанравы склад сабраных Э. Дмухоўскай тэкстаў казак характарызуецца разнастайнасцю груп. Пераважаюць у зборніку чарадзейныя казкі (іх 45, 7 казак пра жывёл, 11 сацыяльна-бытавых, адзін анекдот і адна кумулятыўная казка). Вялікая розніца ў колькасці чарадзейных і сацыяльна-бытавых казак тлумачыцца перш за ўсё не тым, што чарадзейных казак было больш у рэпертуары казачнікаў, а большай увагай да іх фалькларыстаў таго часу, якія лічылі чарадзейныя казкі самымі старажытнымі і самымі каштоўнымі. Але каштоўнасць чарадзейнай казкі вызначаецца галоўным чынам адлюстраваннем у ёй ідэалаў народа. Героі чарадзейных казак — мужныя і смелыя людзі, якія змагаюцца са злымі цёмнымі сіламі за праўду і справядлівасць.

Як і казкі іншых народаў, беларускія казкі цесна звя-

заны з рэчаіснасцю і адлюстроўваюць сацыяльныя супярэчнасці, імкненні і мары працоўных. У іх ярка адлюстраваны пратэст супраць сацыяльнай няроўнасці, выкрываецца несправядлівы цар, жорсткі пан, крывадушны поп (або ксёндз), скупы багач і г. д.

Народныя казкі — мастацкія творы, у якіх сацыяльныя адносіны, надзеі і спадзяванні працоўных адлюстроўваюцца ў мастацкай форме, у сістэме казачных вобразаў. Персанажы казак выяўляюць свае рысы і якасці часцей за ўсё ў дынаміцы дзеянняў, характар якіх пераважна фантастычны, незвычайны. Фантастыка кожнай жанравай разнавіднасці мае сваю спецыфіку.

У некаторых іншых чарадзейных казках зборніка сцвярджаюцца высакародныя ідэалы працоўных: асуджаецца скупасць багацеяў (казкі «Скупасць не радасць», «Пан», «Мужык»), ухваляецца каханне, незалежнае ад сацыяльнага становішча («Любоў да смерці»), выказваецца пратэст супраць жорсткай эксплуатацыі («Народ і паны»). Аднак у гэтых казках адбілася і гістарычна абумоўленая абмежаванасць светапогляду сялян таго часу: яны не ведалі правільнага шляху барацьбы з прыгнятальнікамі, многія з іх верылі ў бога і спадзяваліся на яго справядлівасць. У выніку гэтага ў радзе казак бог карае багацеяў, спачувае і дапамагае беднякам («Скупасць не радасць», «Мужык»).

Абмежаванасць светапогляду сялян выяўляецца таксама ў казках, галоўнымі персанажамі якіх выступаюць каралі, цар.

Дэспатычныя манархі нярэдка паказваюцца дабрадзеямі працоўных, караюць крыўдзіцеляў, абдорваюць бедных. Але бывалі і такія казкі, у якіх цар маляваўся негатыўна. У казцы пра цара і Хвядона — храбрага салдата, змешчанай у зборніку Дмухоўскай, цар зайздрослівы і вераломны. Спадабалася яму жонка Хвядона, і ён загадвае паслаць салдата ў такое небяспечнае месца, адкуль бы ён не вярнуўся. Аднак Хвядон з дапамогай

жонкі выконвае ўсе загады цара. Тым не менш цар забірае жонку салдата ў палац. Войска, якое выскаквае з дзівоснай скрынкі Хвядона, перамагае царскую армію. Салдат перамог цара! «Да як Хвядон у цара служыў, так цяпер цар у Хвядона служыць»,— гэтымі словамі заканчваецца казка. Падобнае шчаслівае завяршэнне канфлікту — важнейшая асаблівасць народных казак.

У многіх казках гучыць заклік да змагання з ворагамі без ніякай літасці. У казцы пра Андрушку герой перамагае дванаццаць шматгаловых змеяў, але пашкадаваў апошняга змея і пакінуў цэлай адну галаву. Праз гэту мяккасць характару ён і гіне. Ыратоўвае яго верная сяброўка, якая ажыўляе Андрушку жывучай вадой. Асобныя эпізоды гэтай казкі арыгінальныя, раней яны ў беларускіх казках не сустракаліся. Заканчваецца казка таксама шчасліва: злыя антычалавечыя сілы і здрада караюцца. Але дасягае гэтай перамогі герой не сам, як і ў папярэдняй казцы, а дзякуючы цудоўнай памочніцы, якая валодае звышнатуральнай сілай. Жанчыны-памочніцы ў многіх казках выконваюць за герояў самыя цяжкія заданні, выратоўваюць іх ад гібелі. Вобразы гэтых жанчын надзяляюцца не толькі фізічнай сілай і прыгажосцю, але і маральнай чысцінёй, самаахвярнай аддансцю каханаму, працавітасцю.

Герой шэрага казак — дурань. Яго лічаць няздольным да сур'ёзных і важных спраў. Але гэта не так. У казцы са зборніка Дмухоўскай ён здолеў набыць лятучы карабель, ляціць у ім і па шляху бярэ з сабой цудоўных памочнікаў — скарахода, трапнага стралка, які за тысячу вёрст забівае звера, чалавека, здольнага пачуць, што адбываецца на тым свеце, «апівалу», «аб'ядалу» і інш. З дапамогай цудоўных памочнікаў ён пераадольвае ўсе самыя цяжкія выпрабаванні караля і жэніцца на яго дачцы. Такім чынам, дурань толькі знешне здаецца неразумным, на самай справе ён разумнейшы за іншых людзей і таму лёгка перамагае ўсе перашкоды на сваім

шляху. А браты, якія раней пацяшаліся з яго, самі застаюцца ў дурнях.

Паводле асобных казак, чалавек правяраецца ў працы, якая з'яўляецца асноўным крытэрыем ацэнкі чалавека. Прыгожая дзяўчына выбрала сабе мужа не з асяроддзя багата апранутых гультаёў, а працавітага селяніна, хоць і быў ён у латанай вопратцы. У выпрабаванні здольнасці да працы ён зрабіў усё, што было сказана, хутчэй за іншых прэтэндэнтаў на шлюб. Чалавек прыгожы ў працы — такі вывад можна зрабіць з казкі «Беднасць не загана».

На змест многіх чарадзейных казак зборніка аказала ўплыў вера нашых продкаў у магчымасць чалавека ператварыцца ў звяроў, птушак. Таму персанажамі такіх казак з'яўляюцца ваўкалакі, а таксама людзі, ператвораныя ў мядзведзяў і іншых звяроў.

У народных творах шырока асвятляюцца складаныя праблемы сямейнага жыцця дакастрычніцкага часу.

Нянавісцю да злой мачахі і сімпатыяй да сціплай і высакароднай падчарыцы прасякнуты казкі, прысвечаныя паказу іх узаемаадносін. Народ заўсёды спачувае бедным і бяспраўным і пратэстуе супраць дэспатызму, свавольства і здзекаў з абяздоленых людзей.

Філасофскі роздум пакладзены ў аснову казак пра Шчасце і Долю («Бяда», «Купец», «Шчасце і доля»). Ва ўмовах жорсткай эксплуатацыі сяляне ў гэтых казках выступалі своеасаблівымі фаталістамі, на іх думку толькі Шчасце, у спалучэнні з добрай Доляй, можа забяспечыць удачу ў жыцці і ніякія асабістыя намаганні чалавека не могуць змяніць яго лёс. Але такіх казак нямнога. У большасці народных твораў чалавек дасягае поспехаў толькі ў барацьбе. Гэтыя творы прасякнуты жыццесцвярджальным аптымізмам, верай у перамогу Праўды над Крыўдай.

Дыдактычную функцыю выконвала казка «Залатая рыбка». У ёй высмейваліся непамерныя прэтэнзіі праг-

ных да багацця і ўлады людзей. Бязмежная прагнасць караецца: жадаючы быць вышэй царыцы і рыбкі, бабуля застаецца без нічога — з адным разбітым карытам.

Не многа месца адводзіцца ў зборніку казкам пра жывёл, але і сярод іх ёсць творы, сюжэты якіх невядомы або мала вядомы ў беларускім фальклоры (як зайчык і вожык бегалі навыперадкі; састарэлыя конь, кот і сабака сталі музыкантамі і выгналі ў лесе разбойнікаў з хаты; вайна лісіцы з ваўком). У гэтых казках слабыя звяры лёгка перамагаюць моцных: лісіца ашуквае ваўка або мядзведзя, вожык — зайца, кот перамагае не толькі лісу, але і забівае дачок ведзьмы. У своеасаблівых канфліктах паміж персанажамі-жывёламі яскрава праглядваюцца сацыяльныя канфлікты, ў грамадстве.

На форму і змест фантастычнай выдумкі казак пра жывёл у старажытныя часы ўплывалі антрапамарфічныя і анімістычныя ўяўленні людзей, а таксама татэмістычныя вераванні. Аднак сувязь гэтых казак са старажытнымі рэлігійнымі вераваннямі і міфалогіяй у час запісу твораў зборніка ўжо страцілася. Галоўныя функцыі казак пра жывёл у XIX стагоддзі — дыдактычная і эстэтычна-пацешлівая. Асабліва выразна выяўляецца адсутнасць сувязі з рознымі рэлігійнымі вераваннямі ў казках, якія ўслаўляюць розум чалавека («Чалавек, лісіца і мядзведзь», «Чалавек, воўк і лось»). Персанаж адной з гэтых казак воўк папярэджвае сваіх лясных сяброў мядзведзя і лася, што чалавек, якога яны хацелі забіць, сваім розумам усіх «перавядзе». Так адбылося і на самай справе, сцвярджаецца ў казцы. У пазнейшы перыяд бытавання жывёльнага эпасу ў значнай меры змяніліся і жанравыя прыкметы: частка казак пра жывёл па форме і зместу нагадвае анекдоты або байкі («Чалавек, лісіца і мядзведзь», «Заяц і вожык»), некаторыя ж з іх прыблізіліся да этыялагічных легенд і чарадзейных казак. І ўсё ж большасць казак пра жывёл характары-

зусцца эстэтычнай цэласнасцю, шырокай сэнсавай асацыятыўнасцю, якая праяўляецца ў мудрым іншасказальным змесце.

Змешчаныя ў зборніку бытавыя казкі вызначаюцца гумарыстычна-сатырычнай накіраванасцю. Увогуле бытавыя казкі ў параўнанні з чарадзейнымі больш ярка і праўдзіва адлюстроўваюць сацыяльныя адносіны, класавую барацьбу ў дарэвалюцыйнай Расіі. Але ў зборніку Э. Дмухоўскай іх змешчана мала. Адлюстраванне сацыяльнага жыцця абмяжоўваецца ў іх раскрыццём толькі бытавых узаемаадносін. Разам з тым і ў бытавых канфліктах нярэдка выяўляецца класавая непрымірымасць. У апошняй казцы зборніка, напрыклад, даюцца тыпы амаральных прыгнятальнікаў сялян: пана, аканома, камісара і цівуна, з якіх хітра кпіць жонка стражніка. Пана яна ставіць голага на куце пад выглядам скульптуры святога. У камічным выглядзе паказваюцца таксама распусныя аканом, камісар і цівун: «голыя, босыя» яны ўцякаюць ад стражніка, каб ён іх не пастраляў.

Як і ў чарадзейных казках, галоўным персанажам у некаторых бытавых казках з'яўляецца дурань. Але яго вобраз у гэтых казках карэнным чынам адрозніваецца: ён выступае ў ролі хітрага жартаўніка, які, трапіўшы ў мяшок, крычыць, што яго гвалтоўна вязуць на пасаду караля, вызваляецца і топіць сваіх прагных праціўнікаў («Чалавек з розумам»); ён аказваецца больш здольны, чым разумныя браты, на працы ў купца («Дурань выйшаў у людзі»); дурань перахітрае багатага гаспадара, які адрэзаў насы яго братам, узбагачаецца за яго кошт і адрэзвае яму самому нос («Сквапны гаспадар»). Разам з тым у асобных бытавых казках ён сапраўдны дурань (напрыклад, замазвае маслам паколатую зямлю, абварвае дзяцей, кладзе іх на воз, прыціскае рублём і вязе на вяселле да бацькоў — «Мужыцкая шчодрасць і хітрасць»).

Асноўная функцыя бытавых казак пра дурня — пацешлівая. Дасягаецца гэта галоўным чынам праз камізм дзеянняў персанажаў. Камічнае ў народных казках найбольш шырока праяўляецца ў форме гумару і сатыры. Беларускі народ і ў дарэвалюцыйны час любіў жарты, смех, які быў для яго своеасаблівым выражэннем аптымістычнага настрою, веры ў лепшае будучае. «У сяброўскай і таварыскай гутарцы, забыўшы вечна існаваўшае сваё гора,— пісаў М. Я. Нікіфароўскі,— беларускі селянін любіць паслухаць ды і сам расказаць што-небудзь такое, ад чаго, па прастадушнаму дапаўненню селяніна, можна «жывот падарваць». Такія апавяданні, за выключэннем цынічных, цікавыя і выражаюць часта глыбокую думку» [3].

Селянін у казцы часам трапна выкарыстоўвае самалюбства і тупасць багацеяў, прыкідваецца прасцяком, дурнем, хаця на самай справе ён хітрэйшы за сваіх працаўнікаў. Камічнае ў гэтых творах праяўляецца ў неадпаведнасці знешняга выгляду ўнутранай сутнасці вобраза.

З'яўляючыся культурнай спадчынай мінулага, казка і сёння захапляе нас мастацкасцю сваіх вобразаў, невычэрпным багаццем выдумкі, смеласцю фантазіі, цікавасцю зместу, мудрай павучальнасцю. Гэтыя якасці характэрны і для многіх казак, сабраных Э. Дмухоўскай.

*А. С. Фядосік*

---

[3] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 2. Спб, 1893, с. 470.

# Як Іванка ашукаў ведзьму

Павет Мазырскі, з-пад Турава

Быў сабе́ дзед і ба́ба. Не было́ ў іх дзеце́й. Дак яна́ ка́жэ:

— Дзе́духно мой, соко́ліку, пайдзі́ ты ў лес, вы́рубай там целе́шку!

Так он пашо́ў, дай прынёс — а ана́ жэ вложы́ла ў колы́ску і колышэ́:

— А, а, а, целе́шыку! Навару́ табе́ куле́шыку.

Ужэ́ стая́ць нуо́жкі, ужэ́ ру́чкі, і ўсё ўжэ. Но, так ужэ́ он выро́с, і про́сіць у ба́цькі:

— Ба́цюхно ты мой, пайдзі́ ў лес, вы́рубай дзерэві́нку, чоўно́чэк зрабі́, так я пое́ду ры́бку ловіць, а ма́ма мне абе́д прынесе́.

Пое́хаў он ры́бку лові́ць, а ма́мка абе́д прынесла́.

— Іва́нко, Іва́нко, сыно́чку, ці по мо́ру е́дзеш, ці ры́бку ло́віш, блі́жэй чоўно́чку к берэ́жэчку!

А ве́дзьма то́е почу́ла. Он абе́д зьеў, ры́бку адда́ў і зноў пое́хаў. Дай ве́дзьма ідзе́:

— Іва́нко, Іва́нко, сыно́чку, чы по мо́ру е́дзеш, чы ры́бку ло́віш, блі́жэй чоўно́чку к берэ́жэчку!

Дай он ка́жэ:

— Ці то мая́ ма́мка клі́чэ, ці то ве́дзьма пога́на? Да́лей чоўно́чку од берэ́жэчку!

Так ве́дзьма ковалёў позва́ла.

— Ковалі́, ковалі́, наку́йце мне я́зык як у Іва́нковой ма́ці.

Накова́лі ей я́зык, і ана́ прыхо́дзіць зноў.

— Іва́нко, Іва́нко, сыно́чку, ці по мо́ру е́дзеш, ці ры́бку ло́віш, блі́жэй чоўно́чку к берэ́жэчку!

Ашука́ўса он і ве́дзьма схваці́ла его́, дай панесла́ до сваéй ха́ты. Прынесла́ до варо́т і клі́чэ на до́чку:

— Доро́та, Доро́та, адчыні́ варо́та. Веду́ я табе́ Іва́нка. Гледзі ты, паку́ль я іду́ го́сьці прыведу́, штоб ты Іва́нка посекла́, порубáла і звары́ла.

Пашла́ ве́дзьма по го́сьці, а Доро́та пе́чку напалі́ла і ка́жэ:

— Іва́нко, бу́дом грáць у пе́чку; ты сядзь на лопа́це.

А он то бо́ком, то ско́ком, то так і гаво́рыць ей:

— Ой, я не ўме́ю. Вазьмі́ ты, Доро́та, покажы́.

Се́ла ана́ на лопа́ту, да он ее́ ў пе́чку спёк, зварыў, порубáў, да сам на я́вор ізле́з. Ведзе́ ўжэ́ ве́дзьма го́сьці.

— Доро́та, Доро́та, адчыні́ варо́та! Го́сьці веду́! Ой, шэ́льма пашла́ на гуля́не.

Вашлі́ ж аны́ ў ха́ту, дай подъе́лі Доро́цінага мя́са. Ве́дзьма легла́ под я́вором і ка́жэ:

— Покочу́се, поволю́се, Іва́нкого мя́са нае́ўшысе.

Дай Іва́нко з я́вора атвеча́е:

— Поко́цішсе, пова́лішсе, Доро́цінаго мя́са нае́ўшысе.

Спойша́ла ана́ ў го́ру.

— Ковалі́, ковалі́, ску́йце мне секе́рэчку, бу́ду я́вор руба́ць.

Ковалі секе́рэчку ску́лі, ста́ла ана́ я́вор руба́ць Аж леце́лі гу́скі. Да Іва́нко клі́чэ:

— Гу́скі, лебё́дкі, скі́ньце мне по пе́рьечку, то я з ва́мі полечу́.

Скіну́лі аны́ ему́ і полецеў. Прылецеў к атцу́, к ма́тцэ, і сеў з гу́скамі под клё́ткою. Аж там су́чка була́:

— Гаў, гаў, ба́бко, Іва́нко за клё́ткою гу́скі пасе́.

Так дзед ка́жэ:

— Ба́бо, пайдзі́, оба́ч сваго́ Іва́нка.

А ана́ ка́жэ:

— Уй, дзё́духно мой, соко́ліку, нема́ ўж Іва́нка на сьве́це.

Так дзед сам пашо́ў, аж Іва́нко седзі́ць за клё́ткою. Есьць, піць гу́ском далі́, а Іва́нка до ха́ты взялі́.

## Скупасць не радасць

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Колісь було́ ў аднаго́ господара вельмі бага́то добра́, жыта і ўсего́. К нему́ жэ хадзі́ў мір Божый просіць его́ хлеба, а он вельмі быў скупы́й, не даў ніко́му ані г’а́рца. І пагніло́ его́ дабро́ — семнацаць бочэк жыта согніло́. Взяў он, до рэкі́ завё́з і патопіў, а шчэ людзям не даў. Тым часэм, так даў Господ, што попрыко́рчывало ногі і праву руку. Прыходзіць до его́ Господ:

— А што ж, ці будзеш дава́ць чэрні хлеб? Калі будзеш дава́ць чэ́рні хле́б, то я табе́ адпушчу́, а не будзеш дава́ць, будзеш топіць, то я цебе́ самого́ ўтоплю́.

А он не познáў, што Господ. Прыходзіць другíй раз і кажэ:

— А што ж, ці будзеш давáць чэрні хлеб?

А он шчэ не познáў. Прыходзіць трэцій раз і кажэ:

— А што ж, ці будзеш давáць чэрні хлеб?

Тым часэм, он познáў і прызнаўса емý:

— Дзéдухно, да я не познáў, што Господ.

І кажэ:

— Больш не дам як тры бочкі на чэрню.

А Господ емý атвецíў:

— Гледзі, покайса, і больш сваго́ добрá не топí.

Дак он патóм взяў дай роздáў двесьце коп на людзі. Тогды́ емý Господ поміловáў і рукі поотпускалі і ногі. Да он сказáў так:

— Што цепéр Господ мне адпусьцíў, дак погэ́тому буду другíм давáць.

## *Былінка і верабей*

Павет Мазырскі, Агульнавядомая *

Сыў варабéй на былінцэ.

— Былінка, былінка, поколышы́ менé!

А былінка кажэ:

— Не хочу.

— Пастóй жэ ты, былінка, пайдý я на цебé козы. Козы, козы, пайдзіце былінку грысьцí, менé былінка не калышэ́.

А козы кажуць:

— Не хочэм.

* Гэта байка была найчасцей апавядана дзецям пры ўкалыхванні.

— Пастойце ж вы, козы, пайду́ я на вас воўка. Воук, воук, ідзі́ козы душыць. Козы не іду́ць былінку грысьці́, былінка мене́ не калышэ́.

— Не хочу.

— Пасто́й жэ ты, воук, пайду́ я на цебе́ людзі. Людзі, людзі, ідзіце воўка біць, воук не ідзе́ козы душыць, козы не іду́ць былінку грысьці́, былінка мене́ не калышэ́.

— Не хочэм.

— Пастойце ж вы, людзі, пайду́ я на вас агню́. Аго́нь, аго́нь, ідзі́ людзі паліць, людзі не іду́ць воўка біць, воук не ідзе́ козы душыць, козы не іду́ць былінку грысьці́, былінка мене́ не калышэ́.

— Не хочу.

— Пастой жэ ты, агонь, пайду́ я на цебе́ ваду́. Вада́, вада́, ідзі́ аго́нь тушыць, аго́нь не ідзе́ людзі паліць, людзі не іду́ць воўка біць, воук не ідзе́ козы душыць, козы не іду́ць былінку грысьці́, былінка мене́ не калышэ́.

А вада́ кажэ:

— Не хочу.

— Пастой жэ ты, вада́, пайду́ я на цебе вола. Вол, вол, ідзі́ воду піць, вада́ не ідзе́ агня́ тушыць, аго́нь не ідзе́ людзі паліць, людзі не іду́ць воўка біць, воук не ідзе́ козы душыць, козы не іду́ць былінку грысьці́, былінка мене́ не калышэ́.

А вол кажэ:

— Не хочу.

— Пасто́й жэ ты, вол, пайду́ я на цябе́ доўбню*. Доўбня́, доўбня́, ідзі́ вола́ біць, вол не ідзе́ ваду́ піць, вада̀ не ідзе́ агня́ тушыць, аго́нь не ідзе́ людзі паліць, людзі не іду́ць воўка біць, воук не ідзе́ козы душыць, козы не іду́ць былінку грысьці́, былінка мене́ не калышэ́.

* Доўбня́ — булава, абух.

А доўбня́ кажэ:

— Не хочу.

— Пасто́й жэ ты, доўбня́, пайду́ я на цебе́ чэрві. Чэрві, чэрві, ідзіце доўбню́ точыць, доўбня́ не ідзе́ вола́ біць, вол не ідзе́ ваду́ піць, вада́ не ідзе́ агня́ тушыць, аго́нь не ідзе́ людзі паліць, людзі не іду́ць воўка біць, воук не ідзе́ козы душыць, козы не іду́ць былінку грысьці́, былінка мене́ не калышэ́.

А чэрві кажуць:

— Не хочэм.

— Пастойце ж вы, чэрві, пайду́ я на вас курэ́й. Куры,куры,ідзіце чэрві есьці,чэрві не іду́ць доўбню́ точыць, доўбня́ не ідзе́ вола́ біць, вол не ідзе́ ваду́ піць, вада́ не ідзе́ агня тушыць, аго́нь не ідзе́ людзі паліць, людзі не іду́ць воўка біць, воук не ідзе́ козы душыць, козы не іду́ць былінку грысьці́, былінка мене́ не калышэ́.

А куры кажуць:

— Не хочэм.

— Пастойце ж вы, куры, пайду́ я на вас ко́ршака. Коршак, коршак, ідзі́ куры ловіць, куры не іду́ць чэрві есьці, чэрві не іду́ць доўбню́ точыць, доўбня́ не ідзе́ вола́ біць, вол не ідзе́ ваду́ піць, вада́ не ідзе́ агня́ тушыць, аго́нь не ідзе́ людзі паліць, людзі не іду́ць воўка біць, воук не ідзе́ козы душыць, козы не ідуць былінку грысьці́, былінка мене́ не калышэ́.

Так коршак за куры, куры за чэрві, чэрві за доўбню́, доўбня́ за вола́, вол за воду́, вада́ за аго́нь, аго́нь за людзі, людзі за воўка, воук за козы, козы за былінку, а былінка варабейка поколыхала гу, та, та! Гу! Гу! та! Гу!

*W. Weryha.* Podanja Bialoruskie, str. 24.
*S. Chelchowski.* Powiesci i opowiadanie ludowe z okolic Przasnycza, str. 129, № 20.

# Народ і паны

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Колісь не было́ сьвета, то́лькі была́ пато́па, што ўсе пазьміра́лі. Дай Го́спод сьвет нарадзі́ў. І нарадзі́ла Мары́я сынка́, Ісу́са Хрыста́. Тым урэ́мем, згадава́ла ана́ сынка́,даў Бог дзе́вочку. Із таго́ сестра́ з бра́том ме́лі грэх — і пашо́ў сьвет із таго́, з іх. І даў Го́спод сьвет. Ста́лі жыць, і худо́ба ўзяла́се, і даў Го́спод, што стаў наро́д і паны́. Із пано́ў взя́ла па́ні дзьве дзе́ўкі і посла́ла ў недзе́льку, у воскрэ́сный дзень, тра́ву жаць для целя́т. Сам Го́спод ідзе́ даро́гою, ба́чыць, яны́ жнуць тра́ву. Зайшо́ў Го́спод к ім, к дзе́ўкам.

— Што, дзеўча́та, рабі́це?

— Што мы, дзе́духно, рабі́м? Тра́ву жнем целя́ткам.

— А хто вам повелі́ў?

— А хто нам, дзе́духно, повелі́ў? Пані нам веліла.

Да аны жэ хаце́лі вро́ціць, а он каза́ў:

— Жні́це сабе́, дзеўча́та, і несі́це, куды́ трэ́ба.

А сам пашо́ў, улёз до пако́ю, до па́ні, і ка́жэ:

— Дзень до́бры, па́ні. А што ты, па́ні, зрабі́ла, што ў воскрэ́сный дзень тра́ву посла́ла жаць?

Ана́ не позна́ла, дай атвеча́е ана́ ему́:

— А табе́ што за дзе́ло?

— А як жэ мне не дзе́ло, калі́ я сам Го́спод. Як жэ па́ні хцэш: ці хцэш два го́ды на адно́м бо́ку лежэ́ць, ці хцэш два сыны́ ко́рміць?

Ана́ моўчыць, нічо́го не ка́жэ. Дак он другі́й раз пута́е:

— Ці хцэш два го́ды на адно́м бо́ку лежэ́ць, ці хцэш два сыны́ ко́рміць?

Ана́ моўчыць, нічо́го не ка́жэ. Дак он трэ́цій раз путáе:

— Ці хцэш два го́ды на адно́м бо́ку лежэ́ць, ці хцэш два сыны́ ко́рміць?

Ана́ ду́мала, ду́мала, дай ка́жэ:

— Уж, дзе́духно, два сыны́ ко́рміць.

Ана́ мысьля́ла, што ана́ мо́жэ ро́дзіць два сына́. А тым ча́сэм, то́лькі он сказа́ў, так два ву́жы взя́лісь ей за грудзь. І веле́ў ён, што́бы пошы́лі чэрво́ну поду́шэчку. Пошы́лі чэрво́ну поду́шэчку і положы́лі до ло́на, і аны́ як по́ссуць гру́дзі, так позбіва́юцса і лежа́ць на паду́шэчце. Возілі ее́ по велі́кіх до́хторах, а пото́м взя́лі ее́ завезлі́ ў ме́сто і уды́рлі в бараба́н. Трэ́ба ёй ты́е сыны́ погодова́ць два го́ды, пато́м умерці́ трэ́ба. Два го́ды годова́ла, дай по́мерла. Тым ча́сэм, ты́е сыны́ по ей жало́бу задава́лі як дзень так ноч: аны́ запо́ўзуць на гроб і піска́юць, дай піска́юць. Хадзілі аны́ к ёй, паку́ль ана́ ім одпове́дзіла:

— Го́дзі вам хадзі́ць ка мне, бо мне за ва́мі абі́да велі́ка.

Не прыма́е мне Го́спод до себе́.

Покі́нулі аны́ хадзі́ць, стаў Го́спод ее́ прынім́ацць і даў ей прыка́з:

— Гледзі́, што ты сваі́м дзе́ткам з таго́ сьве́та прыка́завала, штоб не рабі́лі ў воскрэ́сный дзень.

І пато́м Го́спод прыня́ў ее́ до себе́ і вовёў ее́ ў субо́тніе крыгі́ і спасі́ў Го́спод душу́ ее́.

# *Любоў да смерці*

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Быў сабé пан і былá ў панáаднá дóчка. І любіласе анá із кýпцовым сы́ном. Хацéлі аны́ шлюб взяць, да пан не схацéў. Патóм взяў он, кýпцовый сын, і памер. І хóдзіць анá як дзень так ноч к емý на могілу, хóдзіць на могілу, дай цяжэнько плáчэ. Стáло емý жáлко вéльмі, устáў і он к ёй.

— Чэгó, пáнна, хцэш?

— Не могý без цебé жыць. Беры́ мне до себé.

То анá як внóчы пóйдзе, то аны́ выйдýць з ім, дай прыдýць до таспóды, полягуць до лóжка, дай полюбýюцса і поцéшацса. Тóлькі емý пéрэд піўнáмі трэ́ба іці́. Так он пóйдзе, а анá за ім. Заведзé егó аж в могілу, і адчы́ніцса гроб егó і он влезé туды́. Булó так емý і ей сем раз — гэ́то так случы́лосе. За вóсьмым рáзом он вышóў — анá ідзé за ім. Тым чáсэм, вот прасьцірáдло мах! мах! Берэ́ пáнну страх! Страх! Страх! І он путáе еé:

— Ці боíшсе, пáнна?

Анá емý атвечáе:

— Не, нічóго не боюсе.

Зайшлі ж аны́ на гроб егó, адчыніўсе гроб і пашлі абóе ў зéмлю.

Тым чáсэм, аглед зеўсе ей бáцько із мáткою, шукáлі ей — немá. Абвесьці́лі попý, абвесьці́лі ўсім: так і так. Да немá ей. Сплаці́лі аны́ попý тры́ццаць карбовáнцоў, штоб поп позволіў разкóпаць гроб купéцкаго сынá, увéдоміць, дзе анá дзéласе, што бэз слы́ху прапáла: немáшака, і чýткі немá. Позволіў поп разкóпаць. Разкóпалі гроб, глядýць, аж аны́ лежáць. Анá по лéву стро-

ну лежыць і на ём лежыць ее́ рука́, і тым ча́сэм як палажы́ла ана́ ру́ку на его́ грудзя́х, дак он цап! ее́ за від, і его́ рука́ на ея́ві́дзе. Так пато́м, як поглядзе́лі, спросіў той аце́ц, штоб чы́сту малітву поп адчыта́ў, і ім папрыкла́дываў абоім ве́ньчыкі. І абоім понакла́далі золоты́е пе́рсьні на ру́кі. Пато́м ужэ́ загрэблі́ і іх паныхі́ду адчыта́лі. І пашла́ на ўве́сь сьвет ока́зья, із таго́, штоб гэ́то бо́лей не було́, штоб велі́каго любо́ўства не було́.

Прышло́ таму́ атцу́ ей: сосьні́лась ана́ ему́.

— Аце́ц мой доро́гій, прашу́ я ва́шэй мі́лосьці, штоб вы по мне наня́лі дзьве́ слу́жбы, штоб поп адслужы́ў.

Адслу́жы́ў поп дзьве слу́жбы да сьніцса ана́ зноў сваму́ атцу́:

— Аце́ц мой доро́гій, цепе́р по мне адслужы́лі, да прашу́ я ва́шэй мі́лосьці, штоб по ём, по му́жу майму́, спра́вілі дзьве паныхі́дзе.

Адчыта́ў поп по ём дзьве паныхі́дзе, і пато́м да́лі ему́ за гэ́то сто педзеся́т рублёў.

## Жаніцьба генерала

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Быў сабе́ купе́ц, вельмі багаты ён быў. Меў он дочку. Залеца́ласе его́ дочка за енерала замуж іці́. Прышлосе так уж ім як іці́ до шлюбу, аж взяла ана́ і захварэла. Сего́ дня захварэла, а поютру́ і по́мерла. Да з чэго́ ж ана́ по́мерла?

Надзела два залатые персьні, і собра́лісе там хлопцы до ее́ і сталі з ей жартова́ць, і хаце́лі зняць тые персьні ў ее́. Тым часэм, ана́ взяла поссувала тые персьні з пальца, дай у рот. Хацелі тые хлопцы

побра́ць ізо рта, ана́ спіра́ласе, не давала, прокулула іх і ўдавіласе.

Собралі до́хтороў, усе́ местэчко зьеха́лосе, да не далі ей рады ніякой. По́мерла, дай годзі!

Тым часэм, ее прыбралі, надзелі зноў два такіе персьні залатые, і поховалі. Там двох хлопцоў ба́чылі, што е персёнкі на ей і вельмі хароша адзежа. Матка з бацькой гатовы ўсё туды́ класьці к ёй. Дак тые хлопцы пашлі́ ў ноцы і одкопалі. Узялі і поздымалі ту адзежу з ей, і персьні поздымалі, дай кінулі ее́ ў гроб. Як кінулі, так персьні повылетывалі із горла. Так ана́ толькі:

— Ох! — Дай гукае:

— Пожалуйце! Хто ето зрабіў? Вынесьце мене́, будзе вам нагорода веліка од майго́ бацькі. І ведзіце мне до майго́ бацькі, не бо́йцесе, вам даду́ць сто рублёў за гэто. Бо мне зробілосе так із чэго́ я по́мерла: адбералі мне персьні, я ўложыла ў рот, дай удавіласе.

Одважы́лісе аны́, повелі́ до бацькі. А дом быў вельмі замчысты, муро́ваны. Прышла́ ана́ под браму і гукае:

— Ацёц мой дорогі́й, адчыні́ мне!

Учула матка і кажэ:

— Про́сіцса наша дочка́.

І зноў ана́ гукае:

— Ацёц мой дорогі́й, адчыні́ мне!

І дзержыць ана́ тые хлопцы ле себе́. Да попужа́лісе ўсе́ ў доме, не хочуць брамы адчыня́ць. Да жонка кажэ:

— Чэго́ ж вы пужа́ецесе? То ж наша дочка просіцса.

Так вышо́ў к браме ацёц і пытае ее́:

— Хто ты такі́й?

— Ацёц мой дорогі́й, я ж ваша цурка, бо я не

по сваёй сьмерці по́мерла, і е ў мене́ тут два хлопцы, што мне одратовалі.

Так ввелі́ іх ў хату ўсё трое. І гаворыць ана́:

— Ма́мочко мая́, бацько мой, сплаціце іх, я ім найменовала сто рублёў, а шчэ яны́ пайду́ць і маю́ хату, труну прынесу́ць сюды́. Поба́чыце яка́ мне сьмерць була́.

Дождалі аны́ дня, пашлі́ і прынесьлі́ ее́ хату. І тые залатые персьні два як выско́чылі з ее́ горла, так аны́ кроўю дужо побрызг’а́лісе і лежа́ць. Цепе́р аце́ц даў ім сто рублёў, почастова́ў іх крэпко. І пато́м пашла́ публікацья к таму́ енералу, што з ёй залецаўсе: «што ана́ не па сва́ёй сьмерці по́мерла, дай ўдаві́ласе персьнямі, цепе́р тра́пілісе такіе два хлопцы, што одратовалі, хацелі персьні здыма́ць і одкінулі ее́, так одбі́лісе тые персьні з ее́ горла і ана́ оджыла. Цепе́р, зяцю, даў я гэтым хлопцам сто рублёў, а ты прыбыва́й, беры́ маю́ дочку ў шлюб».

Вот ён і прыехаў, побра́лісе аны́, і я там була́, мёд, віно́ піла́, по барадзе́ цекло́, і в душы́ нічого не було́.

## *Муж і жонка*

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Муж з жэно́ю сварыўсе. Муж гаворыць:

—Што вы рабіце дома? Гуля́еце, да нічога не рабіце. З вас нія́каго дзела нема́!

Дак жонка кажэ:

— Ой, ты! Трасца тваёй маці!* Зоставайсе дома, а я поеду ў поле ора́ць. Толькі ж ты гледзі́ кабы

* Трасца — ліхаманка. Трасца тваей маці — найбольш ужываны праклён.

мае́ дзела паро́блена було: хлеб разчыні і спечы́, просо стаўчы́, і курца́ з курэня́ткамі гледзі, і масло збій, і сьвіню накармі да ў хлеў зажэні.

Так ён гаворыць на жонку:

— Ну, едзь, я тваё дзело пороблю́.

Так ана́ пое́хала, а он у хаце астаўсе. Взяў хлеб разчыніў, да курэнята попутаў і к старой курцэ прывяза́ў, штоб нігдзе́ не адбегалі; просо нача́ў таукці, да макоцер — та што масло біць — прывяза́ў сабе́ ззаду, што просо будзе таукці і масло біць разэм. Прылецеў коршак, ку́рыцу ўхапіў і курэнятка разэм. Он вы́скочыў адбера́ць ку́рыцу од коршака, аж сьвіня́ ўвско́чыла ў хату, да дзежу разліла́. Он ухапіў за кавеню́, дай погнаўсе сьвіню біць, а сьвіня́ побегла́, ступу обаліла, дай просо разсыпала. Он за ней, да макотра оборваласе, дай масло разлілосе. Прыежае жонка до дому, путае:

— Ці поробіў жэ мае́ дзела, што гаворыш у мне дзела нема́?

— Нешчасье зрабілось! Коршак прылецеў, ку́рыцу ўхапіў.

— А, коршак ку́рыцу ўхапіў! А дзе ж курэня́тка?

— Курэнятка я попутаў, да до ку́рыцы прывяза́ў, дак он іх разэм ухапіў.

— А хлеб спёк?

— Не,—кажэ,— я вы́скочыў ку́рыцу бараніць, а сьвіня ўвско́чыла, дай дзежу разліла́.

— А масло збіў?

— Не,—кажэ,—я макотку сабе́ ззаду прывяза́ў, да за сьвіню́ погнаўсе, макоцер адорваўсе і масло разлілосе.

—А просо стаук?

— Не,—кажэ,—сьвіня́ на ступу ўвско́чыла, да просо разсыпа́лосе.

— А ты ж гаворыш у мене́ дзела нема́! Бач, як поробі́ў. Добрэ табе́ жэноцке дзело рабіць! Мужыка́ за лоб, а он ее́, да началі біцьса.

*S. Chelchowski.* Opowiadanie z Prasnycza, str. 56, №65

## *Нешчаслівая доля*

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Собра́лісе дзеўкі і пашлі́ купацьса. Покупа́лісе і выходяць на берэг адзевацьса. Адна́ начынае адзевацьса, аж у кашулі вуж сідзіць і начынае гаворыць як чолове́к:

— Я табе́ адда́м твою кашулю, як ты скажэш, што будзеш маю́ жонку.

Ана́ кажэ:

— Буду.

Усе́ верну́лісе до дому, а яна́ ужэ́ з ім пашла́ ў морэ. Пашла́ яна́ з ім, жыву́ць да жыву́ць пяць лет разэм. Нажыла́ ана́ з ім трое дзеце́й. На шустый гуод, про́сіцса ана́ сваго́ мужа́, штоб пусьціў ё к матцэ. Ён не хаце́ў ё пусьціць, бо ведаў, што як ана́ пойдзе, то будуць пілнова́ць атку́ль ана́ выйшла́. Но, ана́ его́ прасіла дай прасіла, так он і зг'олосіўсе, позволіў, дай сказа́ў:

— Будзь там пяць дні, толькі не кажы́ нікаму́ атку́ль ты і неха́й цебе́ ніхто́ не праводзіць. Як вернішса к бе́рэгу, так гукні: Якуб! І калі пока́жэцса кроў, то я нежывы́, а калі пока́жэцса пяна, то я жывы́. Пашла́ ана́ до дому з дзецьмі. Булі ей все рады і на́чалі ей путацьса: атку́ль ана́? Дай ана́ не сказала. Так аны́ взялі ста́ршаго хло́пчыка і сталі прасіць его́, штоб сказа́ў: атку́ль аны́? Он не сказа́ў. Да началі его́ мучыць, да он не сказа́ў. Взялі другога і сталі біць вельмі,

штоб ён сказа́ў, да і той не сказа́ў. А найменьша дзе́вушка сказала і павела́ іх на той берэг морскій і навучыла як кліка́ць: Якуб! Такім тонкім го́лоском. Клікнулі аны́. Як почу́ў вуж той голос, то вышо́ў на берэг і аны́ его́ ўбілі. Ана́ тая жонка его́ нічого не знала про ето́. Взяла дзеці на пятый дзень і пашла́ на берэг. І стала гука́ць: Яку́б! На ето гуканье толькі кроў показа́ласе. Запла́кала ана́ дай зарыдала, дай скіну́ласе зяузю́лёю і полецела по лесу́ кука́ючы: Яку́б! І цепе́р шчэ гукае. А сыны́ сталі адзін беро́зою, а другій хвоею, а дочка горкой асіною.

*I. I. Kroczewcki.* Litwa, t. I, str. 416.

## Ваўкалак

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Быў сабе́ старычо́к. У его́ було́ два сыны́. Пашлі́ аны́ на работу, его́ покінулі ў хаце. А ён такій быў змышлёный, што кідаўсе ў воўколака. Пашо́ў до лесу, зрабіўсе воўком. Пашо́ў ён ужэ́ по лесу, пашо́ў дай пашо́ў. Трапіў на воўкі — ужэ́ аны́ в товарыстве ідуць. Ходзіць коні стадо. Ён гаворыць:

— От гэты конь гладкій, вазьмімо его́, покацім жэ ежмо.

Заелі аны́ таго́ коня́. Ідуць да ідуць, прыходзяць до у́гона. Ходзіць стадо сьвіне́й. Ён гаворыць:

— От, то маго́ суседа каба́н гладкій, вазьмімо, задавім. То всё он наш будзе.

Да тые кагуць:

— Ты лепш знаеш, ты захо́дзь, да всё подганя́й на нас, а мы будом ловіць.

Дак ён зайдзе да всё хвостом: топ! Да кабáн: рух! Рух! Да тудь́і ідзé. Патýль он его́ гнаў, пакýль блізко к тым нагнáў. Хапілі кабанá, розорвалі. Гледзелі людзі з селá, што сьвіні воўкі ловяць. Давáй бегці. Як тые воўкі ўгленулі, дак побеглí ў лес. А ён як хацéў бегці, так попáў у погрэ́б, дай упáў. Собрáлісе мушчыны, хацелі его́ ўбіць у погрэбе. А баба була така малашэбніца* познала, што ето не воўк. І свáрыцьса на мушчын:

— Не рушце, не бійце, ето не воўк да чэловéк.

Послалі мушчыны, не білі его́, а анá завелела аднамý:

— Ідзí ты, зсечы́ мне арабіну**.

Пашóў ён і зсек арабіну, а анá стала таго́ біць і стала свáрыцьса.

— Куды ты ето поступíў? Нашто табé ето? Ці табé ето мясо смачне?

Як сцягнула его́ арабіной, стаў он чэлавеком. Повелí его́ ў село́ к сынáм. Сыны́ сталі на его́ свáрыцьса:

— Нашто табé, бацько! Ці табé хлеба не стаé, ці табé солі!

Хацелі его́ селóм накáзываць, да он запрысягсе, што ўжэ́ не будзе так рабíць. Так его́ і пусьцілі.

* Малашэбніца — чараўніца.
Арабіна — рабіна.

# *Чалавек з розумам*

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Було́ ў бацькі тры сыны́, два разумных, а трэці́й дурэнь. Як тые разу́мные од бацькі часьць беру́ць, так і дурэнь берэ́. Тые браты зг'лошы́лісе самі з сабо́й: што мы з ні́м зрабі́м? Да ў ворку завезе́м і на дарозе аставім. Завязалі его́ ў ворку, заве́зьлі до рэкі, дай палажылі пры дарозе ў шля́ку. Едзе купе́ц, такі́й богаты́р*. У его́ сто мільёноў грошы ў возе. Тым часэм, он, той дурэнь, лежы́ць у ворку і кры-чы́ць:

— Го́споды мі́ленькі, я не ўмею ні чыта́ць, ні піса́ць, а мне ў той сьвет везуць на короля́.

Той богаты́р на хфу́рмана кажэ:

— Суні́мі коні.

Сунялі коні. Той купе́ц ізле́з, спра́шывае его́:

— Чэго́ ты крычы́ш?

А он ему́ кажэ:

— Я таго́ крычу́, што не ўмею ні чыта́ць, ні піса́ць, а мне везу́ць на той сьвет на короля́.

Той кажэ на хфу́рмана:

— Розвя́ж его́.

Розвязалі его́, а той купе́ц до ворка ўле́з: дума́ў, што возьмуць его́ на короля́. Да аны́ з хфу́рманом завязалі таго́ купца́, да скі́нулі ў рэку, а той дурэнь взяў, да на воз, да поехаў до бацькі. Заехаў он до бацькі на двуор, так тые браты дзівяцьса, што гэто такое. Путае бацько:

— Атку́ль ты, сыно́к, гэто взяў?

А он кажэ:

* Богатыр — багач.

— Вы ду́малі, што мне ўтопілі, а мне за короля́ на том сьвеце взялі, і от як я прыехаў.

Агледзелі тые браты, што ў его́ богато грошы, дай кажуць:

.— Завяжы́ ты нас і пуска́й до рэкі.

Так он і зрабіў. І за тым дурнём аста́лосе ўсё се́лішчэ, усё богацтво бацькі і таго́ купца́.

*I. Karłowicz.* Bajki i podania na Litwie, № 50, str. 73.

## *Мачыха*

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Була́ ў маткі дочка. Да взяла́ матка ей по́мерла. Бацько побы́ў туг'одні пяць бэз жонкі, дай взяў сабе́ жонку ўдову́. Таксамо́ і ў тое была́ дочка, абедзьве ўроўні. Жыву́ць аны́, жыву́ць, стало ім цесно разэм. Ма́чыха гэта на мужа сваго́ настала:

— Адвезі́ сваю дочку. Калі́ не адвезеш, я цебе́ покіну.

Взяў он ее́ і адвёз до лесу. Адвёз до лесу, у лесе ха́точка, і он там ё покінуў. Взяў для ёй хлеба, і круп, і закрасы.

— Седзі́, мая́ до́чухна, ту́тока, паку́ль я прыеду. Насеку́ я тое да другое на воз і прыеду.

Жджэ, пожджэ — нема́ бацькі. Позме́рклосе — нема́, не едзець.

Ана́ вышла́ на двуор з тое хаткі і гукае:

— Хто ў бору, хто ў лесе, хадзі́ ка мне на ноч!

Адзыва́ецса медзьве́дзь:

— Я ў бору, я ў лесе, я іду́ к табе́ на ноч.

Ажось і прыходзіць медзьведзь. Ана́ спужа́ласе, да ён кажэ:

— Не спужайсе, дзеўка, будом ночова́ць со мною.

Ана і вечэру наварыла бацька ждучы́. Медзьве́дзь прынёс мёду, мо* г'арцо́ў з два. Поселі аны́ вечэраць. Вы́бегла мышка дай кажэ:

— Дзеўка-дзевіца, дай мне крупіцу, я табе́ ўночы велікой буду прыгодзе.

Дзеўка набрала ложку кашы і кі́нула ей под лаву. Повечэ́ралі аны́, да он даў ей ключэ, штобы ана́ бе́гала по хаце, да бра́зг'ала тэмі ключамі. А он набра́ў камені, да лёг на печы: біць ее́ ўжэ ка́менем! Да тая мышка взяла́ од ей ключэ, од дзеўкі, а ее́ ска́зала корыто большое ў хатцэ, і сказала, штобы ана́ под корыто подлезла і наверну́ласе корытом. А мышка з клю́чамі бе́гае по-под ла́вічы. Кіне он ка́менем із печы, а мышка толькі: «Ой»! Он ду́мае, што забі́ў дзеўку. Бе́гала, бе́гала, перэд нем і зціхла. Так он думаў, што ёй убі́ў. Злез з печы, дай пашо́ў у лес. Пашо́ў он у лес; вышла́ дзеўка з-под корыта. А мышка кажэ:

— Да бач, кармі́ мене́, я цебе́ вы́веду.

Назаўтра дзень, сталі перэд ёй стол у хаце, такі́й мулёваный, пекный, і пара крысёл, і стала яблонь перэд хаткой, парасла́ я́блонкамі харо́шымі. (Ана́ сама, тая дзеўка, красіва, просто што глядзе́ць.) Едзе пан багатый вельмі, едзе із сыно́м. Прыежае пан до тое я́блоні і суня́ў коні.

— Хто тут е ў хатцэ?

Выско́чыла ана́ туды́ до пана. Он кажэ:

— Ці то твая́ яблонь?

Сподоба́ласе таму́ панічу́ ана́, заберае он ее́ з сабо́й. Села ана́ ў кочы, ідзе́ яблонь за ею, ідзе́

* Мо — скарочана «можа».

стол, ідýць крыслы за ею. І спрáшывае анá тагó пана:

— Прошэ, пан вельможны, заехаць шчэ до магó бацькі.

Заéхалі аны́ к атцý на двуор, так анá выскóчыла із кочы. Бацько не познáў, думаў нéкая пані. І стала яблонь ле кочы, і стол, і крысла. Вышóў ацец на двуор і скінуў шапку, і вышлá жонка егó, тая што прогнала сваю пачэ́рыцу*. Да кажэ анá:

— Ацéц мой дорогíй, вы дýмалі, што вы мне загýбіце, да от як мне Бог даў.

І пан той злез з возу, і той паніч, і тупаюць по подворье. А анá кажэ:

— Ацец мой дорогíй, штоб мне былó посагі сто рублёў, бо маéй маці веліка посага астáласе.

Мусéў ей ацéц даць сто рублёў посагі. Да захацела тая мáчыха, каб ей як я́блока дастáць — укрáсьць. Дак толькі анá подышла под я́блонь, так пашлí я́блокі ў гору — не достала. Разпрашчáласе анá — тая дзеўка — з бáцькой, апусьцíласе я́блонь, нашчыпала анá я́блок і подавала гасьцінца ўсíм.

— Аставайсе, ацéц, здарóў.

Села і поехала. За ею пашлá і яблонь, і стол, і крысла.

Стала просіць тая жонка ў мужа сваго:

— Везí маю́ дочку туды́.

Взяў он еé дочку, павёз, дай покінуў у той самой хатцэ. Прыходзіць такжэ само медзьведзь к той на ноч. Ждала, ждала óтчыма на ноч, не дождáласе. Наварыла вечэру, поселі аны́ з медзьведзем вечэраць. Зноў мышка ўбéгае.

* Пачэрыца — падчэрыца.

— Дзеўка-дзевіца, дай мне крупіцу, я табе́ ў ночы велікой буду прыгодзе.

То ана́ ўхопіць яку скепку, да мышку бье́. Не дала́ ей есьці. Медзьве́дзь пашо́ў на печ ночова́ць, а ана́ стала з клю́чамі бегаць по хаце. За двойкі ўбіў медзьве́дзь ее́. А та мышка кажэ:

— Погана дзеўка, бач: тая добра була́, дай у паны вышла; а тва́е рэбра неха́й медзьведзь побіе́.

Тым часэм ждала, ждала тая мац — до́чушкі нема́, цэлый тыдзень нема́. Ана́ на господара кажэ:

— Твая́ дочка цэраз ноч прые́хала, а мае́й да нема́ цэлу недзелю. Ту ее́ не туды́ завёз, куды́ сваю́ дочку. Садзімса на волы́ едзьмо, адведаймо ее́.

Зае́халі туды́, аж ана́ лежыць серэд хаткі, і коло́дочкой навалёна. Мац як угледзела, да шчэпіла рукі, да стала голосіць по дочцэ. А мышка вы́бегла:

— Эгэ! Якая ты разумна, такая твая́ дочка разумна! Калі б гэта була́ добра, я б ей ад сьмерці абараніла, я б ей за пана́ выдала.

## *Сёстры*

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Було́ ў маці дзьве дочкі. Пашлі́ аны́ по я́годы, взялі да зблудзілі — адна́ пашла́ ў ту сто́рону, а другая ў ту сто́рону. Аста́ласе ж ана́ ў лесе блудзіць. Ходзіць ана́ по лесе, гукае:

— Хто ў лесе, хто ў бору, хадзі́ ка мне на ноч.

А медзьведзь атвечае:

— Я ў лесе, я ў бору, іду́ я к табе́ на ноч.

Прыходзіць медзьве́дзь до ее́:

— Ну, дзеўка-дзевіца, хадзі́м са мной на ноч. Ведзе́ ё і ведзе́ — завёў до хаткі. Покінуў оп ее́ ў хатцэ.

— Вары́ ж, дзеўко, вечэру.

Дзеўка варыць вечэру, дай плачэ. Вы́бігла мышка, да:

— Дзеўка-дзевіца, кінь мне крупіцу, я табе́ буду ў велікой прыгодзе.

Ана́ і кінула той мышцэ круп.

— Гледзі́ ж, дзеўка-дзевіца, звары́ вечэру, да ляж под корытом, дай наверні́се корытом.

Ана́ і легла і навернýласе. Прыходзіць медзьве́дзь:

— Дзеўка-дзевіца, дай мне вечэру.

Дзеўкі нема́шака. Да мышка под печыю забегае,заскробае — то он ка́менем і кіне.Прасіў он ее́ разóў тры вечэраць, кіда́ў он кіда́ў, затэ́м піўны́ запелі, даў Бог дзень, пашóў он ізнóў у лес. А мышка у́бегла, кажэ:

— Дзеўка-дзевіца, уцікаймо як можна. Я буду ўпе́рэду бегці́, а ты гледзі́ дзе трава ківа́ецса, да ўсё за мною ідзі́.

Бегу́ць аны́, бегу́ць да бегу́ць, чуюць: медзьве́дзь за імі.

— Лезь, дзеўка, на хвою, я схова́юсе ў траве.

Полезла дзеўка на хвою, а мышка ў траве схова́ласе. А медзьве́дзь бега́ў да бега́ў, нюхаў да нюхаў, і промінýў іх, да вернуўсе наза́д. Злезла дзеўка із хвоі, пашлі́ аны́ зноў. Беглі́, беглі́ аж до села́, ýбеглі ў селó, ледво жэ оддыхнулі. Зайшлі́ аны́ до маткі́, да тая ўж не ве́дае, што рабіць, ходзіць, да рукі ломіць.

— Пашлі́ дзеўчата ў лес — нема́ да нема́!..

Дзеўка той мышцэ насыпала круп, штоб подъела. Подъела тая мышка, да кажэ:

— Побегу́ наза́д. Прыдзе́ там сестрыца твая́, да там будзе зноў прыгода.

Забегае ана́ до хаткі, у лесу́, аж там другая дзеўка. Ідзе́ медзьве́дзь, мёду несе́.

— На, табе́, дзеўка, еш! Да не накпі́, так, як тая накпіла з мене́ і ўцекла́.

Медзьве́дзь ушо́ў, да мышка кажэ:

— Дзеўка-дзевіца, дай мне мёду трошкі.

А тая кажэ:

— Хварэла б ты, болела, штоб я табе́ мёду шчэ давала!

— Дзеўка-дзевіца, дай мне мёду трошкі, я табе́ буду ў велікой прыгодзе.

— Якая там прыгода! Толькі, штоб есьць було, што мне!

Прышла́ ноч, медзьве́дзь прышо́ў, повечэ́ралі, сталі ночэва́ць. А то мышка прабегла́ по столе́, да шклянкі, міскі, усё бразь! Бразь! А медзьве́дзь:

— Што ты мае́ шклянкі побіла?

Да ка́менем на дзеўку. Як раз даў, другі́й, так і по дзеўцэ.

А мышка вы́бігла:

— А што, дзеўка-дзевіца, я табе́ казала: дай мёду, я табе́ буду ў велікой прыгодзе. От, знай! Да ты, злодзе́й лесовый, ты хочэш мне ўбіць! Я не ётакіх ба́чыла! Да не ўбіеш, медзьведнік ты! Хіба́ за тым, што ты велікі́й да дурны́й, а я маленька, да разумней ад цебе́!

# Удовін сын

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Была́ ўдова́ сама́ сабе́ ў хатцэ (так як я)*. Мела ана́ напроціў воскрэсенья на всіночну іці́. Прыходзіць до ей Ісу́с Хрысто́с, і ночэваць із ее́ захацеў. Ана́ хочэ іці́ до цэркві на всіночну, а он суняў ее́, не пусціў. І полеглі́ аны́ ў адно́й ложы ночэва́ць, і заночовалі аны́ (прасьці, Божэ, грэхуў сьято́й Недзелькі!)** і зрабілі грэх. І даў Господ, заня́ласе ана́ і родзіла сына́: во лбе месяц, а ў потыліцы соунцэ. Не захацела ана́ его́ годова́ць, што: з мене́ будуць людзі сьмеяцса, што мне такое дзіця́ Бог даў. І скупала ана́ его́ і сповіла́ харошэнько, і по́лочэк навя́зала і пусьціла до мора.

Плыве́ ано́ морэм, плыве́ да плыве̂, выплыло́ так у серэдзіне́ мора. Ідзе́ карабе́ль. Вышло́ ано́, тое дзіцятко, на верх, так і зайзяло ўсё морэ. Той плотнік усхапіўсе із корабля́, і зловіў тое дзіцятко, дай взяў на корабе́ль.

Едуць аны́ морэм тым кораблём цэлы рок. І выро́с ён за рок, той хлопчык, у палавіну чэлавека— не расьце́ годзінамі, да міну́ткамі. Уплылі аны́ на берэг, пудыходзіць купе́ц. Пудышо́ў к кораблю́ — захаце́ў таго́ хлопца к сабе́ на па́робка. Ну, які́й ему́ наро́ў прыходзіць! Не скіне шапкі перэд нікім, а Богу мо́ліцса, так платочком го́лову завяжэ, як пацер гаворыць. Захаце́ў той купе́ц, штоб ён скінуў шапку. Атвечае той хлопчык:

* Расказчыца гэтай байкі была ўдава і жыла адна ў хаце.

** Гэта казка была расказана ў нядзелю. Адсюль такія набожныя звароты.

— Калі будзе мне дзвесьце рублёў, так скіну а не даце дзвесьце рублёў, так я буду твой зяць, а ты мой тесь. За дочку мне прымі.

Пашлі ані до касьцёла і прысягу он прыняў:

— Вазьму цебе за зяця, штоб скінуў шапку.

Як прыняў прысягу, так он прэд попом, прэд людзьмі зняў шапку. Зайзяла цэрков. Зараз удырылі в барабан. Спрашывалі, штоб собралісе пісьменные крэпко і посадзілі пісаць: як Бог даў хлопца такого, што ў лбе месяц, а соўнца ў потыліцы. Дочыталісе до таго, што прышоў к удове сам Ісус Хрыстос ночэваць, і зрабілі грэх (прасьці, Божэ, сьвятой Недзелькі!), і даў Бог ёй сына такого, і соромотоваласе ана годоваць пры сабе, што будуць людзі сьмеяцьса, дак пусьціла на морэ.

Цепер побралісе ані з той купцовой дочку і жывуць два рокі. Хочэцса ему до сваёй маткі доведацьса. Жонка не пускае его.

— Жэна мая, я там бавляцьса не буду, я зараз прыбуду до вас.

Да надзеў он так сабе сьвіточку, купіў каробку як коробейнік, набраў краму і пашоў до маткі. Прышоў он к матцэ; у печы паліцса, вечэру гатуе.

— Бабушка, бабушка, ці не пусьцілі бы мне на ноч?

— Можна, ночуйце сабе.

Заночоваў ён. Ана шчэ малада, от так серэдня кабета. Наварыла вечэру, і он водкі прынёс кварту. Пудпілі ані — такі он ее добрэ пудпоіў. Ложацься ані спаць. Прослала ана ему на лаве, а сабе на полцэ.

— Да што, бабушка, —кажэ,— мы бы поляглі разэм.

Поляглі на однóй пасьцелі, на полцэ; он лёг ад сьцены́, ана́ з краю. Аж, взяўсе за грудзь ў ёй і кажэ:

— Гэто та труба́, што я трубіў.

Далей, взяўсе её ніжэй (прасьці́, Божэ, сьвятой Недзелькі!) да кажэ:

— Гэто тые варота, што я ішóў.

А ана́ не ўга́дывае.

— А то тые г'лаза́, што по мне пла́калі.

Да зняў шапку, дай кажэ:

— Матко мая́ родна, да не ўзналі вы мне. Дарма́, што вы мне малéнькаго брóсілі ў морэ.

Шапку зняў, да хата вся і зайзяла. Матка і обомлела. Он ёй вадóй да кінуў і кажэ:

— Матко мая́ родна, чэгó ж вы млéеце?

Трошкі ана́ одпочынула. Да прышлосе ему́ разставацьсе з маткой, дак он спра́шывае маткі:

— Матко мая́ родна, хóчэце, да я вас заберу́ до себé?

— Сынóк мой дорогі́й, калі́ табé добрэ, калі́ табé Господ даў лёс, жыві́ здоровенько. Уж я аста́нусе ту́така. Да мне, мой сынóк, прысыла́й пісьма́: ці жыва я, ці жыв ты, ці здарóў.

Он даў сколькі було́ ў его́ грошы, і адзежы покінуў, і разпрашчаўсе з ёй.

Матка просьле таго́ жыла́ дзесяць лет, а на адзіна́цатом пóмерла: і попа́ матка прасіла, штоб піса́ў і посла́ў до него́, а её хатку штоб запеча́талі, паку́ль ён прыедзе. Да её ховалі, хатку запеча́талі і послалі пісьмо́. Дак он прыехаў, ма́тчыну хатку прода́ў, да попу даў двадцаць рублёў, штобы паніхіду по матце сьпева́ў.

# Талімон і Хімка

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Быў чэлавек Талімóн, сын Талімона. Жонку взяў Хімку. Тая Хімка хадзіла по воду к свяшчэнніку до студні, а свяшчэннік ее полюбіў. Гаворыць на Талімóна:

— Талімóн, прышóў бы ка мне з сваю жонку Хімку, я б табé закону разказáў, самовáр бы табé настáвіў.

Так он кажэ:

— Добрэ, бáцюшка, я прыдý.

Пашлí аны́ до попá, настáвілі самовáр, пры столе селі. Гаворыць поп на Хімку:

— Хімка, хадзíм, покажý табé маé іконы, што такое есь. Ці табé сподобáецса.

Прывёў Хімку к грошам, да гаворыць:

— Хімка, беры́ сколькі хочэш грошы сабé, да мы с тобóй будом любовацьса. Ці будзеш ты до мене хадзíць, ці буду я до цебé?

Ну, добрэ. Так яны́ погосьцілі і пашлі до дому. Аны́ былí бедны — у ніх не булó нічого. Пашóў Талімóн у карчмý, да мужыкí пьюць за столóм, і Талімона зовýць водку піць. Гаворыць:

— Талімóн, взяў бы і ты якое полкватэркі, погаварыў бы, вы́піў бы седзючы.

— Ей, братцы, у мне немá за што піць. Немá грошы, немá за што водкі браць.

—Ой, Талімóн, взяў бы сена воз, да павёз бы на место продáць, да былі бы грошы.

Пашóў Талімóн до хаты, дай гаворыць:

— Хімка, возьмý я сена воз, повезý на место, продáм, да будуць грошы.

Анá гаворыць:

— Як сабé хочэш, везí.

Он наклáў воз сена, павёз. На мосту вы́скочыў злый, разташчыў сено і разнёс по балоце. Да пабéг к стáршому злому, дай хвáліцса:

— От, што я тамý чэлавеку зрабíў.

Так старшый злый насварыўсе на егó:

—Ой, ты дурэнь. Ідзí емý сено позберáй. Гуод емý послужыш за тое.

Он пашóў, дай гаворыць на Талімона:

— Чэго ты, чэлавечэ, плачэш?

— Ой, чэгó я плачу! Вéдомо, вёз я сено на место продавáць, хваціўсе злый і мне сено по лугу разташчыў.

— Так табé шчэ éтого плакаць? Так мы з табóй позберóм гэто сено і шчэ большый вуоз наложым як быў.

Так аны́ зрабілі.

— Звезём на место, я табé памагý targoвáць.

— Хоця́ б рублёў пяць взяць за вуоз.

— Што, рублёў пяць! Возьмеш двадцаць пяць рублёў.

Павезлі на место, сталі аны́ торговáцьса, взялі двадцаць пяць рублёў. Накуповалі ўсегó, едуць до дому. Он прóсіцса:

— Чэлавечэ, я ў цебé наймусе служы́ць на гуод.

— Ей, дзецінко, у менé немá чэм плоціць. Нічого немá, нечэм плоціць, нічого і есьць.

— Як я буду служы́ць у цебé, так усегó багато будзе. Я ў цебé послужý даром. І твáю Хімку панемецку научý гаворы́ць.

— Но, добрэ, стань, калі Хімка захочэ.

Так аны́ заéхалі до дому, і Талімон кажэ:

— Хімка, гэтый хлопчык хочэ ў нас наняцьса на гуод служы́ць.

Так анá кажэ:

— Да што ж у нас немá нічого.

Так он кажэ:

— Ей, дзя́нночко, што мне трэба! Я і так буду ў вас служы́ць.

— Як сабе́ хочэш, послужы́.

Стаў он служы́ць у іх. Аны́ в месьце понакуплялі чаю, са́хару, усего́, і прывезлі Хімцэ. Дак едуць аны́ ора́ць на поле на цэлу недзелю. Набераюць сабе́ на недзелю ўсего́ і Хімцэ кідаюць:

— Гэто табе́, Хімка, а ето нам.

Так аны́ паехалі. Што трэба за тры дні ора́ць, так аны́ за дзень.

Тым часэм, к Хімцэ прышо́ў поп на ноч, а той паро́бочэк ве́дае, што прышо́ў. Гаворыць:

— Дзе́духно, бег краве́ц, а я з-за ўгла́ шамец! Аж в ушах зазвенело! Побегу́ я ў лужу, помочусь.

Так он кажэ:

— Дзе́точко, е і тут вада́, можна намо́чыцьса.

— Мне трэба ў лужу.

— Бежы́ сабе́ ў лужу.

Дак он не бег ў лужу намо́чыцьса, побе́г просто до дому, і сьвісну́ў, на двуор ўскочыў. Поп гаворыць:

— Хто ето ідзе́?

— Гэто наш паро́бочэк.

— Дзе мне дзецса цяпе́р?

— Лезь на палатку, до цыбулі.

Поле́з там поп.

— Чэго́ ж ты прышо́ў, дзе́точко?

— То мне дзя́дзюшко прысла́ў, штобы я цыбуле перье пробіў.

— Ей, дзе́точко, нашто табе́ абіва́ць. Я ўж сама́ абіла.

— Ей, дзя́нночко, мне дзя́дзюшко прыказа́ў — трэба дзя́дзюшка послуха́ць.

Взяў, як нача́ў біць, так чуць поп жыв астаўсе. І полеце́ў до дзядзькі. Так аны́ з попом гаворaць:

— Ой, які́й паро́бочэк хітрый, чуць мне не ўбіў. Неможна нам з табо́й, Хімка, жыць — хыба ты до мене́ хадзі.

Ана́ кажэ:

— Не, ба́цюшка, прыдзеце на ту ночку, он уж не прыдзе.

Так аны́ ару́ць, ару́ць з дзядзькем, аж паро́бочэк кажэ:

— Ей, дзе́духно, бег краве́ц, а я з-за ўгла́ шамец! Аж в ушах зазвенело! Побегу́ я ў лужу, намочу́сь.

Так ён кажэ:

— Дзе́точко, е і тут вада́, можна намо́чыцьса.

— Мне трэба ў лужу.

— Бежы́ сабе́ ў лужу.

Дак он не бег у лужу намо́чыцьса, побе́г просто до дому, взлеце́ў на двуор і сьвісну́ў. А поп у Хімкі ў хаце. Дай кажэ:

— Нехто ідзе́!

А Хімка кажэ:

— Гэто наш паро́бочэк.

— Дзе ж мне дзецса цепе́р?

— Лезі́ под печку.

Поп уле́з под печку, да паро́бочэк вышо́ў у хату. Хімка путае:

— Чэго́ ты, дзе́точко, прышо́ў?

— То я, дзя́нночко, прышо́ў, мне дзе́душко прысла́ў — тут седзя́ць злыдні под печью, трэба іх угна́ць. Трэ́ба кіпятку нагрэ́ць і выпарыць іх.

Побе́г дроў набра́ў, да ў печы запаліў, ваду́ нагрэ́ў, луну́ў под печу воду. Як луну́ў под печу, так поп упарыўсе, вы́скочыў і побе́г. Так он кажэ:

— Бач, дзя́нночка, былі́ злыдні по́д печью, вы́скочылі і побеглі́.

Дак ён побе́г до дзядзькі.

Ару́ць аны́ цэлый дзень, да паро́бочэк кажэ:

— Ей, дзе́духно, бег краве́ц, а я з-за ўгла́ шамец! Аж в ушах зазвенело! Побегу́ я ў лужу, намочу́сь.

Так он кажэ:

— Ей, дзе́точко, е і тут вада́, можна намочыцьса.

— Мне трэба ў лужу.

— Бежы сабе́ ў лужу.

Так он не бег у лужу, а побе́г просто до дому, взлецеў на двуор і сьвіснуў. А поп у Хімкі ў хаце. Кажэ:

— Нехто ідзе́.

А Хімка кажэ:

— Гэто наш паро́бочэк.

— Дзе ж мне дзецса? Он усё знае, дзе я ховаюсь.

Так ана́ гаворыць:

— Ідзі в овечкі, з овцамі пастоіш. Скінь кошулю і голый з овцамі посто́й, так он не познае.

Поп скінуў кошулю і сховаўсе з овцамі. Хімка па́робка пытае:

— Чэго́ ж ты, дзе́точко, прышо́ў?

— То я, дзя́нночко, прышо́ў, што нашэ овечкі не по́ёны. Трэба іх напоіць.

Дай Хімка кажэ:

— Я ж сама́ напо́іла — не трэба іх поіць.

— Ей, дзя́нночко, мне дзе́душко прыказа́ў, трэба дзе́душка послухаць. І там е баран дужы, такі́й, што овечкі біе́. Трэба его́ выгна́ць.

Пашо́ў, взяў пугу, нача́ў таго́ барана біць, попа́ голаго, без кошулі. Біў, біў — дай побе́г до дзядзькі. Хімка кажэ до попа́:

— Ба́цюшка, прыдзіце на ту ночку.

А он кажэ:

— Не, ужэ́ не прыду́.

— Так прыходзьце хоця́ под акно́.

Прые́халі з поля до дому Талімо́н з паро́бочком. Так Хімка ім па полцэ прасцілае, а сама́ ле окна́ ложыцьса. Так паро́бочэк гаворыць:

— Не, дзя́нночка, мне вельмі горачо, я ле окна́ лягу, вы ложыцесь з дзядзьком.

Ана́ спрацівля́ецса, не хочэ, сподзева́ецса попа́. Да муж ей гаворыць:

— Неха́й он сабе́ ло́жыцьса ле окна́, калі хочэ. Он послушный хлопчык! А ты ложы́сь со мною.

Так і полеглі. Поп прыходзіць, стукае ў акно́ і кажэ:

— Хімка, выйдзі ты ка мне.

А паро́бочэк за Хімку адка́зывае:

— Неможна мне выіці, муж дома. (Тут наступае сцэна, немагчымая для апісання...)

Лежыць. Талімо́н гаворыць:

— Нешто́ ба́цюшкі не відно́. Можэ хворый, ці што! Хімка, зварыла бы ты ему́ да панесла́ б што такое.

А ана́ кажэ:

— Што я ему́ занесу́? Трэба хыба́ курку зарэзаць, да панесьці.

Зарэ́зала курку, зготовала, дай кажэ:

— Сподніца мая́ чорна, не ве́даю, ці так іці, ці нову надзе́ць?

А муж кажэ:

— Прыберысе, дай ідзі.

Пашла́ ў клець адзевацьса, а паро́бочэк вы́хваціў курку з горшка, да там укінуў...

А тою курку з дзядзьком зьелі сабе́. Хімка взяла горшо́к і панесла́ до попа́, дай кажэ:

— Ба́цюшка, встаньце, от росолку я зва́рыла.

Дак он уста́ў, взяў, помешаў — вышло́ на верх. Но, моўчы́ць, нічого не кажэ. Да гаворыць на наймічку:

— Пайдзі, вазьмі мёду, трэба Хімку пачастовàць. Не беры́ таго́, што з краю, а з ку́точка в дзежцэ.

Пашла́ і взяла таго́. Стала Хімка есьці той мёд, воткну́ласе жало ў язы́к — дай заболботала, панемецку загаварыла. Бежы́ць до дому і болбочэ. Паро́бочэк, як побачыць, дай кажэ:

— Цепе́р, дзе́душко, будзьце здаровы! Уж я табе не потрэбен — уж твая́ Хімка па-немецку гаворыць.

## Дурань вышаў у людзі

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Було́ у бацькі тры сыны́ — два разумных, а трэцій дурэнь. Пашлі́ аны в сьвет шчасьья шука́ць. Тые разумные кажуць:

— Куды́ ты, дурны́й, ідзе́ш?

А ён кажэ:

— От, пайду́ в сьвет, ці мне Бог не дась якого шчасьья.

Іду́ць да іду́ць, дурны́й да разумные. Едзе купе́ц, поста́ў он, пытае:

— Куды́ ідзеце́?

Аны́ кажуць:

— Ідзе́м у сьвет, можэ хто найме ў работу.

А купе́ц атвечае:

— Наймiцеса ў мене́.

— Добрэ.

Павёў он іх на рашчо́т, што ў лесе е, штобы рашчо́т знялі. Той жэ дурны́й зняў рашчо́т, а разумные не. Да як прыгледзеўса купе́ц, так той купе́ц адправіў разумных, а дурня аставіў. Так стаў ён жыць у купца́. А дочка була́ ў таго́

купцá вельмі хóроша; так тая дочка вельмі сподобала тагó дурня, сподобала, што он удалы на рашчóт, і просіць анá свагó бацькі, штобы пожэніць іх. Той купéц её не пускае, што, кажэ, волочá, такíй да такíй. А ана кáжэ:

— Што, татко, да я хочу егó вельмі.

Взялі аны́ да пожэнілі іх. Поéхалі аны́ ў госьці до егó бацька. Дак тые брацья разумные позірають, што он такíй прыехаў убраный, да такíм пóяздом, дружбу прывю́з, коні харошы. Да бацько такíй рад, што ўх! Прóсяцса тые разумные ў дурного:

— І мы з табóю, браце, паедом, можэ і нам Бог шчасье ётакое дась.

Паёхалі аны́. Прыёхалі ў той дом купецкі. Так купец кажэ:

— Аткýль аны́, што аны́ будуць рабíць, калі рашчоту не ўмелі зняць.

А анá, тая дочка, кажэ:

— Тáтэчко, поставім іх на воду, лес адвáліваць; нехáй ідýць на прыкáшчыкі.

Пашлі ж аны́ на лес, да сталі на прыкáшчыкі. Як стаў той лес адвáліваццьса ад бéрэгу, так стаў лес круціцса — вéдомо на вадзé. Сталі аны́ крычáць, што млін меле.

— Э, г’валт, млін меле!

Сталі ўсé з тых разумных смеяцьса, што дурэнь да вышóў на людзі, а разýмные да дуракамі астаюцса.

# Беднасць не загана

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Булá ўбацькі дочка вельмі красіва. Прыходзіць к ёй трох кавалеров: два ўбераные, што толькі глядзець, а трэцій у такіх латах, у такіх шатах, што неможна і позірáць. Так сталі аны́ ту паненку сватаць, і той сватае, што ў латах. Так тые ўберáные смéюцса над ём, да кажуць:

— Ты, негуодный! Да латунé ты! Куды́ ты лезеш! Анá, тая паненка, убéрана, хароша, а ты ў латах.

Да толькі ж у егó персьцень зіяе залаты́й, што толькі дзівіцьса. Так гэтая панна дýмае:

— Эх, Божэ мой, Божэ! Як ето мне зрабіць! І тые ўдаюцса, і той у латах удаецса, у егó рука хароша, што персьцень е.

Так той латýн путае ў бацькі паненкі:

— А ці есь у вас, пáненко, гумнó?

І заве тых убéраных панічóў:

— Хадзíм мы ў гумнó — хто пяць коп вымолоціць жыта хучшэ, тагó будзе паненка.

Пашлí аны́ ў гумнó — той сабé насадзíў пяць коп, той сабé насадзíў, да той сабé — і молоцяць аны, і молоцяць... Да той, што ў латах быў, пяць коп вымолоцíў, померыў, і ў бочкі всыпáў. А тые і по копé не вымолоцілі. Да бацько кажэ:

— Шчэ ж не канéц. Ідзецé ў лес, у новіны*, да хто новіну выкопае, і посечэ́, і попаліць — ужэ́ як сеяць — так той мой зяць будзе.

Повёў іх бацько ў новіны і подводзіў іх і сталі аны́ копáць. Дак тые копалі, копалі і по загону не выкопалі.

* Навіна — свежая зямля, выкарчаваная з-пад лесу.

— Э, куды́ ты!

А той і скопа́ў, і попаліў, і поора́ў, і шчэ побороновáў.

Позберáлісе аны́, да бацько кажэ:

— Ну, шчэ не канéц, шчэ работу дам. Ідзецé на чыстое поле: хто выдуне больш шляху*, так той мой зяць будзе.

Так тые сталі дуць. Дулі, дулі — і на поўверсты́ не выдулі. А той у латах як поду́ў, так на сем вёрст здуў, вы́чысьціў — хоць ты кашы положы́! Пашлí ж аны́ туды́ до сваго́ пана — до бацькі таго́. Аж баба на ву́ліцы путае:

— Дзе вы былí?

— Ай, бабко, такая да такая справа.

Тые ўбéраные, а той у лату́ньчыках стаíць. Баба кажэ:

— Я ж табé буду ў по́мочы. Ідзí ж ты,— кажэ,— до покою, сьвісні́й стаўшы на ганку, прыбегнé к табе лошáк — так ты на лошака сядзь — зрабішсе лучшым панічо́м як аны́.

Прышо́ў ён до покою, да на ганку свісну́ў, прыбéг лошáк, сеў на его́, зрабіўсе паніч убраный у срэбро, у зо́лото, укрэсто́ваный, што ах! Вышлá тая панна, позірае на таго́, то на таго́ — а той, што быў у латах, ах які́й харошы! Да персень на пальцу зіяе. Да панна кажэ:

— Ах, татко, мой, татко! Гэто мой муж, я его́ жонка.

* Шлях — дарога.

## *Жаночае шчасце*

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Булá ў мáцеры дочкá. Хацела анá іцí замуж.

— Ат,— кажэ,— годзі ўжэ́ я служыла, пайдý я, сваго́ шчасья попро́бую.

Маць не пускала, не пускала, да ўжэ покой дала:

— Ідзí, калі хочэш.

Пашлá анá шукáючы, дай нашлá сабé панічá. Пашлí аны́ до шлюбу, посталі на шлюб, стаў вéньчыкі ксёндз класьцí — аж не панíч, да медзьвéдзь! Дýмае тая панна, плачэ:

— З кім мне жыць цяпéр?

Поéхалі аны́ од шлюбу, прывя́залі таго́ медзьвéдзя до возу, думае панна:

— Што мне цяпéр рабíць!

Шоў, шоў той медзьвéдзь ле возу — да взяў абернуўсе, да засвістáў, задраўшы го́лову, да зноў зрабіўсе такім панічо́м, што толькі глядзéць. Панна абрадовáласе. Гуляюць аны́, веселье зрабілі, музыканты граюць, понапівáлісе, танцуюць. Ды бацько кажэ:

— Годзі ўжэ́ танцовáць — нехай веселье кончаюць.

Пашлі ж аны́ на спацэр, тая панна з панічо́м сваíм. Ідýць аны, ідýць по саду — то быў панíч, а то зрабіўсе воук. Зноў тое панне страшно стало — невéдомо, што рабíць. Зноў он зрабіўсе чэлавеком. Путае анá его́:

— Як вы рабіце! Як жэ нам на сьвеце жыць! То тым скінéцесе, то тым.

А он ей кажэ:

— Ах, міла мая́, не ўважáй на гэто, што я так

скіда́юсе. Будзеш ты ў мене́ ўсім давольна: і печэньем, і едзеньем, і дзе́ньгамі.

Пашлі́ аны́ до покою.

— Ты ўжэ́, мая́ міла, ложысе спаць, а я пайду́.

Пашо́ў. Як пашо́ў — нема́ і нема́ ўсю ноч. Перэдадне́м ідзе́. Улёз у хату, кіну́ў мех серэд покою.

— Ух, як я замучыўсе.

Вы́сыпаў з меха́ — такая куча грошы!

— Што мы будом рабіць з грошыма?

— Што ж я знаю, што мы будом рабіць!

— Будом печкі лепіць.

— Ах, мой, міленькі, ці нам жэ з дзе́нюшэк печкі лепіць!

— Да дзе ж мы іх подзеном.

Як стаў лепіць, так вы́лепіў цэлый дом з грошы. Хто толькі едзе, дзівіцьса. Назьезджа́лісе купцы в дзе́нешны дом, сталі той дом цэніць. Той кажэ:

— Столькі стоіць.

А другій кажэ:

— Столькі.

А ён сам стоячы кажэ:

— Майго́ дому ніхто́ не купіць, як наложыць грошы поўен дом, да замуруе дзьверы, так той купіць.

Як сталі ехаць, да грошы звозіць, да запаковалі дом, а самі го́лые аста́лісе. А ему́ весь той дом напаковалі. Прода́ў жэ он дом, спакова́лісе з жонкой у брыкі і поехалі.

# *Сквапны гаспадар*

Було́ ў бацькі тры сыны́ — двох разу́мных, а трэцій ду́рэнь. І аны́ бе́дные былі́ — нема́ ім з чэго́ жыць. Пашо́ў адзі́н у сьвет, дзе стаць за па́робка. Ідзе́, да ідзе́, да статіць чэлаве́к на вароце, пута́е:

— Куды́ ты, чэлаве́чэ, ідзе́ш?

— Іду́, —кажэ́, —у сьвет заро́біць, ці хто не на́йме.

— Наймі́се ў мене́, дам табе́ шэ́сьдзесят руб-лёў на гуод.

— Ну, до́брэ.

Пашлі́ аны́. Даў ему́ вечэ́раць — повечэ́рэлі, полеглі́ спаць. Завёў он его́ той господа́р назаўтра мало́ціць. Малоці́ў да малоці́ў он, ужэ́ до поўдня. Нема́ господа́ра, е́сьці не несе́. Да по поўдні прыно́сіць ведро́ вады́ — да е́сьці не дае́. Ён постановіі́ў мало́ціць до ве́чэра. І до ве́чэра нічо́го е́сьці не дае́. Служы́ў он так, служы́ў, да наконе́ц той господа́р нос ему́ адрэзаў, дай прогна́ў. Зайшо́ў той до до́му бэз но́са. Пашо́ў другі́й брат у сьвет, дзе стаць за па́робка. К таму́ са́мому господа́ру і другі́й попа́ўсе, стаў на слу́жбу. І таму́ та́кжэ е́сьці не даў, да ведро́ вады́ занёс. Взяў назаутра дзень, і таму́ нос адрэзаў, і таго́ прогна́ў. Пашо́ў і той до дому бэз носа. Кажэ дурны́й:

— Эй, вы такіе! Пайду́ і я.

Пашо́ў ужэ́ дурны́й. Наняўсе ў таго́ господара за па́робка. Завёў той господа́р его́ ў гумно́ і даў ему́ малоціць. Дак дурны́й не малоці́ў, да огледзе́ў, што ў гумне́, а там по́ўные бочкі пшэніцы, жыта, усякой пашні. Так он не малоціў, да наеўсе і водкі выпіе́, да наберэ́ воз, до сваёй хаты занесе́. У поўдня прыходзіць той пан — господа́р той — і несе́ вады́. А ён кажэ:

— Эх, добрый мой хазяін, што ты несе́ш ва-ды́ — ужэ́ я піць не хочу.

Так як, як помолоціў з недзелю, так поочышчаў тые бочкі і повыносіў до дому. Огледзеўсе той господа́р, што пустые бочкі, прышо́ў до хаты:

— Эй, бабо,—кажэ,—одправмо́ е́таго па́робка—нема́ нічого ў гумне́ — вы́чысціў нам бочкі. Даймо шэсьдзесяць рублёў і одправмо.

Путае дурны́й:

— Калі ж ты мне, паночку, одправіш?

— А калі ж? Як зяузюля закукуе.

Да ён ему́, таму́ дурному, дае́ есьці і водкі ему́ даў, а на бабу кажэ:

— На дворэ́ груша стаіць, то ты ізле́зь на грушу, я ему́ есьці дам, а ты закукуеш.

Баба пашла́ на тою грушу дай села. А ў хаце хву́зея стаяла. Ён бачыць — той дурны́й — што баба ўзлезла́ да будзе кука́ць, да за хву́зіею, вышо́ў, да бабу застрэліў. Да ўле́з у хату.

— От, паночку,— кажэ,— я зяузюлю ўбіў на грушы.

Той господа́р шчэпіў рукі, да кажэ:

— То ж ты бабу ўбіў!

— Не,— кажэ, — паночку, то зяузюля кукала на грушы, да я ё ўбіў.

— На табе́ шэ́сьдзесяць рублёў, і беры́ ету хву́зею, і адчэпісе! Ідзі ты з Богом до дому!

А ён нарыхтоваўсе, да за нож, да таму́ господару нос адрэзаў так, як его́ братом. Да забра́ў тые пенендзы шэ́сьдзесят рублёў, і пашо́ў до дому. От, табе́, дурны́й!

# Чараўнік

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Быў сабе чэлавек. Пашоў он у лес, набіў у пенёк клінкоў, скінуў адзежу і стаў перэкідацьса церэз гэтые клінкі, да зрабіўсе воуком. Пашоў он у лес. Да сусед ето бачыў. Прыдумаў, взяў аднаго клінка, выняў і кінуў у воду. Нема его — таго чэлавека, гуод, нема его і два. Да прыходзіць ён назад. Прышоў к таму пню, перэкідаецса назад. Неможна. Весь чэлавек, да хвост воучый. Думае он, думае — нічога не будзе: нема клінка. Стаў адзежу надзеваць, да ўсё не так. Стаў штаны надзеваць, хвосьцішчэ доўге. Неведомо, што рабіць! Всадзіў он етый хвост сяк-так у штаны впаковаў. Прышоў до дому, дай лёг на лаве. А той сусед пілноваў ужэ, як он прыдзе. Як угледзеў, што уж дома, так пашоў ў карчму і ознайміў людзям:

— Такая і такая ў нас, браткі, справа е. Такій чэлавек, што душыць сьвіні да коні.

Сталі аны путаць як? Што? Да не верылі.

— Ну,—кажэ,—не імайце мне веры, прыведзіце его ў карчму — он із знаком.

Позбералісе дзесятнікі, сотнікі, пашлі его прывелі. Добралісе до его.

— Ты нам кепство робіш!

Взялі его раздзеваць — як поцяглі за штаны, так прыгнуў хвост, так і стаў дуба. Повелі его ў лес, і назорылі, штобы он перэд усімі позабіваў тые кліны. Позабіваў кліны, як стаў перэкідацьса, так зрабіўсе воуком. Аны кажуць:

— Перакідайсе назад, штоб стаў чэлавеком.

Перэкінуусе он назад: весь чэлавек, да хвост воучый. Нема клінка. Што було рабіць — от усе

з хвостом! Так прывелí его́ да хвост адсеклí. Дак ему́ сесьці нельга́ було́, паку́ль он жыв быў. Хадзíў он з етым хвостом адсечоным, хадзíў да хадзíў. Дай пашо́ў у лес.

Найшлí на его́ воукі— бачуць: чэлаве́к ідзе́; поню́хающь — воуком смердзіць. Взялі — да розорвалі.

## Чалавек, лісіца і мядзведзь

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Паехаў чэлаве́к на поле сеяць рэпу. Прышо́ў медзьве́дзь к ему́:

— Што ты, — кажэ, — чэлавечэ, сееш?

— Рэпу.

— Так пасеем мы разэм, у хаўру́з — мне будуць вершкí, а табе́ кара́ньчыкі.

Пасе́ялі аны́ разэм. Да прышлосе прынімáць ету рэпу, так чэлаве́к взяў, у́копаў, кара́ньчыкі сабе́ взяў, а вершкí покінуў. Прышо́ў медзьве́дзь да стаў есьці — несмачнэ его́ вершкí. Знайшо́ў ён рэпы карэньчыкí, зьеў — смачнее. Ду́мае: як прыдзе чэлаве́к другíй раз сеяць, так его́ ўбíе. Прыехаў чэлаве́к.

— Што ты мне, — кажэ, — так ошукáў?

— Як жэ я цебе ошукáў! Табе́ даў вершкí, а сабе́ кара́ньчыкі взяў.

— Ну, так пасеем мы шчэ з табою просо. Да ўжэ́ табе́ будуць вершкí, а мне будуць кара́ньчыкі.

— Ну, добрэ.

Пасе́ялі аны́ просо, поспело — прыехаў чэлаве́к жаць просо. Да пожáў, взяў сабе́ вершкí, а кара́ньчыкі покінуў. Медзьве́дзь прышо́ў, стаў

шукáць, несмачнэ его́ карэ́ньчыкі. Знайшоў он ветку, зьеў — смачнее. Ду́мае: як прыдзе́ чэлаве́к трэці раз сеяць, так его́ ўбіе́.

Прышо́ў чэлаве́к на поле — зберáецса его́ забіць. Чэлаве́к кажэ:

— Почэкáй, я наору два загоны, так тады́ забіе́ш мне і валы́ порэжэш.

— Ну, добрэ.

Чэлаве́к наораў два загоны і з поля зайшоў у лес. Аж бежы́ць лісіца. Стаў он ей гаворыць: так і так, он хочэ мене́ ўбіць. Анá кажэ:

— Я цебе́ одратую. Прыду́, буду путáць, ці не бачыў медзьве́дзя, так ты, чэлавечэ, адкажы́, што не бачыў.

Вороціўсе чэлаве́к на поле — аж медзьве́дзь лежы́ць под возом. Бегне лісіца:

— Ці не бачыў ты, чэлавечэ, медзьве́дзя? Ідзе́ полёванье, лесьнікі іду́ць.

А он кажэ:

— Не бачыў.

А анá путае:

— Да што ў цебе́ под возом лежы́ць?

Да медзьве́дзь гаворыць чэлавеку:

— Скажы́, што лучына.

А лісіца адкáзывае:

— Да лучына на возе лежала.

Да медзьве́дзь ему́ гаворыць:

— Положы́ мне на воз.

Он его́ і положы́ў. Да лісіца зноў путае:

— А што ў цебе́ лежы́ць на возе?

А он кажэ:

— Лучына.

— Кабы лучына, то бы вероукой булá прывя́зана.

Дак медзьве́дзь гаворыць:

— Прывяжы́ мне вероукой.

Прывяза́ў чэлаве́к медзьве́дзя вероукой. Да лісіца путае:

— Кабы лучына, то бы була́ секіра на возе.

Дак медзьведзь гаворыць:

— Убі́й у мене́ секіру.

Чэлаве́к як стаў біць, так і медзьве́дзя ўбіў. Забіў он таго́ медзьве́дзя — пашо́ў до лісіцы. А яна́ кажэ:

— Што ты мне дась за гэто, што я цебе́ одратовала? Дай пару курэ́й гасьцінца.

— Добрэ, я табе́ пару курэ́й прынесу́, так ты возьмеш сабе́.

Ён взяў пару саба́к і прынёс. Дак ана́ кажэ:

— Аны́ поуцекаюць.

— Не, — кажэ, — я полову.

Он взяў, пусці́ў — а аны́ на лісіцу! Уцекла́ ў нору, дай кажэ:

— Ножкі мае́, як вы добрэ ўцекалі! А очкі мае́, як вы добрэ глядзелі! А хво́сьцішчэ-дурнішчэ, то за пень, то за калоду, штоб сабакі схапілі мене́. Цюцькі-рабкі, наце хвост дурны́й, чэму́ не ўцека́ў добрэ.

Так сабакі ё выця́нулі за хвост і зье́лі.

## *Лісіца і воу́к*

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Лісіца несла́ сабе́ рыбу — да сустрэла́ воука. Путае воук:

— Дзе ты гэту рыбу наловіла?

Да лісіца кажэ:

— Я всадзіла хвост у прасечку і сказала: ловісе рыбка веліка і мала!

Воук кажэ:

— Заведзі мене́, да прасечку покажы́, то і я сабе́ наловлю́.

Завела́ ана́ его́ на рэку, до прасечкі, і кажэ:

— Вадзі хвост, дай кажы́: ловісе рыбка веліка і мала!

А он не кажэ: ловісе рыбка веліка і мала! Да кажэ: ловісе рыбка веліка! Дак ему́ хвост прымёрз — неможна ніяк адарва́ць. Лісіца, як гэто ба́чыла, пабегла́ под акно́, гукае:

— Людзі, людзі! Бежыце воука біць, што хвост ему́ прымёрз.

Угледзе́ў той воук, што бегу́ць людзі. Дак рвануўсе, хвост адарваў і побе́г. Кажэ воук до дзіка і медзьведзя:

— Пайдо́м до забіемо, ці яко́й штраф наложымо на лісіцу.

Пашлі́ утрох. А лісіца ве́дала. Так сабе́ взяла ката́, індыка і піуня. Ідзе́ біцьса з імі. Так піун ідзе́ і спевае — так ім здаецса, што далеко шчэ. А індык балбочэ — так ім здаецса страшно. І кажуць:

—Ну, што будзе, то будзе, а ўцека́ць не будзем.

Медзьве́дзь полёз на хвою, а дзік вкопаўсе в траву, што толькі ўшы відны, а воук стаў за хвою. Ідзе́ кот — бачыць, што малёнькое ў траве ківа́ецса — думае мыш. А то ўхо дзіка ківа́ецса. Кінуўса просто за тое ўхо. Дзік спужаўсе, схапіўсе ўцека́ць. Кот спужаўсе дзіка, што он такі велікі — так на хвою! Аж там медзьве́дзь. Медзьве́дзь погледзе́ў, што дзік пабе́г, да бачыць, што кот бежы́ць по его́ шчэ на хвою — спужаўсе, скочы́ў з хвоі об землю́. А воук тады́ ўцёк як побачыў ето дзіво. І ўсе поуцекалі.

# Бяда

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Быў сабе дзед з бабою. Жывуць аны дай жывуць, горуюць, працуюць, так працуюць, што не дай Божэ! Ну, і нема нічого ў іх. Горовалі аны, горовалі — нема нічого.

— Што ты, бабо,ведаеш, — дзед кажэ, — пайду я под грушу.

Пашоў он под грушу, аж его Беда лежыць до горы ногамі, да перэбірае ногамі да рукамі лежачы. Прыходзіць он до ее:

— Што ты ето робіш?

— А што! Я гуляю.

— Да хто ж ты такій?

— А хто ж я такій! Я ж твая Беда.

— Ну, то хадзім со мною — паможэш дзело рабіць.

— Хадзім.

Прывёў он ее до хаты. Беда на печ, да ўсё перэбірае, іграе на язык, а дзела не робіць.

— Всё адно,—дзед кажэ,—нема ў нас, бабко, ні хлеба, ні солі, ні долі. Што ты, бабо, ведаеш — паедзьмо дзе ў госьці на якую недзелю — ці не захочэ ана есьці, ці не пойдзе ад нас.

Паехалі на ўсю недзелю. Прыдумаў дзед на броду, што забыўсе лапцей на печы.

— Ты ж, — кажэ, — бабко, постой, я пабегу лапцей взяць.

Баба стаіць ў броду, а он вернуўсе по лапці. Полез он на печ, а Беда его за шыю.

— Э, ты думаў уцекці, штоб я тут з голоду померла.

Нема рады — прышоў к бабе, а Беда на шыі.

— Ужэ, бабко, авось учэпіласе на плечы.

— А што ты, дзеду, ве́даеш — ці грэх, ці два убі́й ее́.

Дзед да за туюБеду́ — да біў, біў — да ўзрэзаў, і ўтоптаў, і калоду наложы́ў. От, погосьцілі аны́ та́м, прые́халі до дому. Полепшало ўжэ́ ім — і хлеб есь і к хлебу е. За гуод так забог'ацелі, што эх! А брат у его́ быў нагле багатый. Да он ему́ позаві́доваў, што забагаце́ў. Дак он ему́ гаворыў: а што, ты не ўмееш дзела рабі́ць, што ў цебе хлеба нема́, а тут он робіць і сорочку скінуўшы. Да як забагаце́ў он, што і сам сваго́ добра́ не знае — удзівленье таму́ брату! Атку́ль он раптэм е́такій багатый стаў? Да прышо́ў к ём і разпра́шывае:

— Што ты, брат, раптэм, е́такій багатый стаў?

А он ему́ кажэ:

— Як Беду́ сваю́ под калоду подтоптаў, так і багатый стаў.

А он сабе́ ду́мае:

— Ето Беда́ ему́ багацтво дае́.

Да путае его́:

— Дзе ж ты, браце, ее́ подтопта́ў?

А он ему́ атвечае:

— І ў том і ў том броду, под купіной подложы́ў і калоду наверну́ў.

Пашо́ў той брат шукаю́чы. Он думаў: то ана́ ему́ багацтво прынесла́. Ідзе́ да ідзе́ і прыгледа́ецса — дзе будзе купіна і калоду прывернула? Ажо́сь і найшо́ў. Як узняў тую калоду, так Беда́ ўско́чыла — да за шыю і ўчэпіласе.

— Эх, ты мой хадзя́інко! Як я вы́сохла за гуод!

Той рад, ду́мае: вы́сохла за гуод, то ана́ мне запоможэ. Занёс ё ў хату. Так ана́ — годзі лезьць на печ — да под печ. Побыла ана́ з полгуода: ужэ́ палавіна се́лешча нема́. І робіць он, і робіць жонка. Бэз Го́спода Бога всё нічого нема́, багацтво адпадае. Прыходзіць он до брата.

— Вазьмі сваю Беду́.

— А, адчэпісе ты з Бедою! Я рад, што ее нема́, а той зноў з Бедою цягне.

Дарма́. Прышо́ў к жонцэ.

— Ну, што, жонко, брат не хочэ Беды́ сває́й браць.

Полезла жонка под печ Беду́ ўцяга́ць. Жонка Беду́ за ногу, а Беда́ ё за шыю.

— Ці ты ж,—кажэ,—ётака, што ты хочэш мене́ ўцягці! То я ж буду такая — я не роблю дзела, і ты не робі.

Учэпіласе ёй — Беда́ не робіць, і жонка не робіць — Беда́ на шыі вісіць. Плачуць тые:

— Што нам рабіць! Ужэ Беда́ давела́, што і хлеба нема́.

— Ну,—дзед тут кажэ,—што нам рабіць, бабо?

— А што ты, дзеду, ве́даеш — ідзі ты, дзеду, гукаючы сваей Долі шукаючы.

Пашо́ў дзед у чыстэ поле, дай гукну́ў:

— Доля ж мая́, Доля! Чэму́ ты не такая як тая чужая!

— Ах, — кажэ Доля,— ты ходжа́інко мой, ты ж быў вельмі разумный, а цепе́р як уле́з не ў свае́, так і Долі шукаеш. Ты ж быў бага́т, я цебе́ насадзіла на багацтво. Адчэго́ ты пашо́ў братней Беды́ шука́ць? Нашто табе́ зайздросьць тую мець? Брат жэ быў бедный — он пасо́х і хо́лодом і го́лодом. А ты ж быў бага́т — було́ і хлеба і солі—я ж табе́ надбала. А ты шчэ і бра́тнего захацеў, да братню Беду́ адкопа́ў. Нехай бы так пропадала, гультайка!

Да як стаў он плакаць да плакаць прэд Долю, так ана́ кажэ:

— Ну, шчэ поратую.

Да пашла́, да стала Беду́ прасі́ць, дай спро́сіла з

ба́біной шыі. Да по̀вела́ ё под грушу, да повесіла звоно́к. Да Беда́ до горы ногамі лежы́ць, у звоно́к звоніць, і сама́ себе́ забауляе.

## *Чалавек і мядзведзь*

Павет Мазырскі, вёска Ка̀маровічы

Быў у бацькі адзі́н сын, да і то дурны́й. Пашо́ў он у лес, да найшо́ў на медзьведзя. Як разпоцыка́ў таго́ медзьведзя, дак он к ему́ біцьса. Водзі́лісе аны́, водзі́лісе — не подола́ў таго́ дурного медзьве́дзь.

— Пусьці́ мене́, браце,—про́сіцса,—я табе́ прынесу́ ўлья́ з мёдом, з пчоламі, з усі́м.

— Ну, добрэ.

Взяў дурны́й, пашо́ў до дому. Жджэ да жджэ, ажо́сь ідзе́ медзьве́дзь, да несе́ ўлья́ з мёдом, з пчоламі, з усі́м. Прышо́ў ле хаты, да кінуў з плеч об сцену в хаце, дай вылецела сцена. Вышо́ў той дурны́й, кажэ:

— Што ты зрабіў! Хату мне разваліў. Я цебе́ побію́.

— Што ты ве́даеш,— кажэ медзьве́дзь,— не бій мене́. Я табе хату зроблю́.

— Ну, робі.

Пашо́ў медзьве́дзь ізно́ў у лес. Як стаў цяга́ць лес, нацягаў із гольем, з быльем — усё і цягае.

— Што ж я буду з гэтым рабіць,— кажэ дурны́й, — ты хату разваліў, ты і зробі.

Пашо́ў медзьве́дзь ізно́ў у лес — прывёў чэтыро́х медзьведзі хату рабі́ць. Як сталі ту хату рабі́ць — есьці хочуць — нема́ чэго́ ім есьці. Взялі, пашлі́ на ноч у лес. Назаўтра дзень, несу́ць усе́ по улью з мёдом. Понаеда́лісе мёду і

сталі ані́ рабіць. Робяць да робяць, і ўжэ́ зрабілі хату. Трэба гліну копа́ць на печ. Людзі позбіра́лісе, да дзіваяцса. Да медзьве́дзь, як набра́ў гліны́, як пляснўў на чэлавека, так чэлаве́к бэз духу лежы́ць. Напалі на таго́ дурного:

— Што ты навёў медзьведзі — людзі бьюць.

Да зговоры́лісе ані́ побіць іх селом. Дурны́й стаў прасіць:

— Братцы́, не бійце, неха́й хату скончаць.

Зрабілі ж ані́ ему́ хату і печ, чысто ўсе́. Ну, он кажэ:

— Што вы ко́ньчылі, а не выбелілі.

— Нема́ вапны.

Дурны́й кажэ:

— Ідзеце́, да становіце, штобы вапно було́.

Пашлі́ ані́ вапна шукаючы. Блізко быў город з бэрлінамі. Стаяло вапно. Понаберали ані́ по меху́, да несу́ць. Прынесьлі́ ані́ — еты медзьведзі — есьці хочуць.

— А як нам под'есьці! Хадзі́м карову якую убьём.

Пашлі́ ані́ — за ноч і ўбілі карову, і зьелі, і нігдзе́ сьледу нема́. Назаўтра дзень, огледзелі людзі гэту карову і ра́дзяцса — што етым медзьведзям зрабіць за карову? Трэба побра́ць на ланьцухы. Але неха́й хату коньчаць. Сконьчылі ані́ хату, выбелілі — пакое е́такіе выста́вілі, што ўх! Трэ іх, етых медзьведзі, побра́ць на ланьцухы. Збіўсе весь наро́д, да як побе́г медзьве́дзь, так із дзесяць мушчын бегу́ць за ім — медзьве́дзь попе́рэду, а ані́ за ім бегу́ць. Бачуць медзьведзі, што беда́ — понастро́ілісь хвузьей біць. Сталі ані́ кланяцса да просіцса:

— Да што, вы нас бійце, мы вам ету грэблю вы́сыплем.

А там була́ якая то грэбля.

— Ну, добрэ, сыпце.

Сыплюць ані́ ту грэблю, дай сыплюць. Высыпалі, ужэ ко́ньчылі. Мужыкі́ усё верця́ць, каб побі́ць іх — мужыкі́ мужыкамі! Ані́ — еты медзьведзі — усё кланя́юцса. А мужыкі што зду́малі: набра́ць гарэлкі, да понапо́іваць іх. Взялі ѐело́м, набралі гарэлкі і понапо́івалі. Тые медзьведзі пьяны, кача́юцса, перэкіда́юцса. А мужыкі́ думаюць:

— Му́зыку ім прыведо́м, каб грала.

Прывелі́ му́зыку — грае — а ані́ ўсё куля́юцса: то ані́ скачуць, то ані́ таньчуць. Кажуць медзьведзі:

— Што ж ані́ з нас кпілі, кпілі, а мы ім штуку зрабі́м. Убьём ету му́зыку і скрыпку.

Медзьве́дзь прышо́ў к му́зыце, лапамі взяў дай прыціснý ў — от табе́ і музыка! Тые ра́дзяцса, мужыкі́:

— Чэлавека ўбілі! Што з немі зрабі́ць? Побі́ць, дай годзі.

Собра́лісе село́м, оступілі — біць, дай годзі! А медзьведзі атвечаюць:

— Людзі, не бійце нас — мы вам такую штуку зробім, што вы і не ба́чылі.

Гаворацъ людзі:

— Ну, робіце.

Пашлі́ ані́. На вадзе́ млін стаяў. Адзін мужык заве́доваў тым мліном. Пашлі́, побралі за ўглы́ і прыцяглі́ до села́. Той г'валтуе, крычы́ць галосіць, ломіць рукі. Як сьця́нецса за мужыко́м медзьве́дзь, так той уже просіць:

— Мае́ добрые людзі, што я вам вінова́т! Перэвезіце мне наза́д млін.

Да людзі кажуць:

— Што ж мы віноваты! Медзьведзі прывезьлі.

Медзьве́дзь зноў зарэве́ як скажуць людзі, штоб наза́д цягну́ць, і за тым мужыко́м з калом. Да той:

— Мае́ коха́ніньке, мае́ до́брые людзі, поратуйце мене́.

Людзі задумалі:

— Калі поскачэш з медзьведзем, то велём наза́д млін зацягці́.

Побра́лісе аны́ скакаць. Мужык уперáецса:

— А, ма́меньке! А, та́тэньке! ...атку́ль родзіла мне мама, у тако́м страху не быў.

Як пусьцілі его́, зайшо́ў до дому, да хва́ліцса:

— Я ж там бачыў медзьведзя — але ж такі́й — трасца ма́церы! Здароў! Як взяў со мной скакаць, так неможна і поверну́ць его́.

Путаюць:

— Ці ты скакаў, дзідзько, з ім?

— Так, я скакаў, подтыка́ў свой лапсэрда́к. Да як пашо́ў скакаць, так медзьве́дзь утоміўсе, не спра́віўсе со мной.

— Ці ты ж, дзідзько, не бояўсе?

— Чэму́ не бояўсе́! Мая́ сорочка вся полотно́м становіласе.

Да той мужык гаворыць до людзі:

— А што, мае́ коха́нінькіе, завезіце маго́ мліна́.

— Ну, што вы, зацягніце ему́ мліна́.

Зацяглі́ медзьведзі мліна́ на место. Поставілі. Меле мужык да меле.

Прыходзіць дурны́й.

— Заплаці́ мне.

— За што я табе́ буду плаціць?

— Мае́ медзьведзі табе́ мліна́ поцяглі́.

— Якіе твае́ медзьведзі?

— Ну, калі не плаціш, пайду́ скажу́ — неха́й беру́ць ізно́ў.

— Ве́даеш ты што, цэлавецэ, моўцы́ ты, не кагі. Ну, што ж ты хоцэс?

— Дай мне куль мукі.

— Богато будзе, цэлавецэ.

Разду́маўсе дурны́й: што я ето сказа́ў — куль мукі! Трэба на чэтыро́х медзьведзі по кулю.

— Што ты,— кажэ,— ду́маеш! Я обмы́ліўсе — мне крыўда будзе. Трэ на чэтыро́х медзьведзі по кулю.

— Айбо! Коха́нінькі! Ты ж мене загубіш! Мае же дзеці з го́лоду помру́ць.

— А што мне до таго́? Мне медзьведзі ўбью́ць. Шчэ як скажу́, і цебе́ ўбьюць.

— Ці веш ты, мой коха́ненькі, не кагі ты. На табе́ чэтырэ кулі, што ты хоцэш.

Посла́ў медзьведзі, побралі тые кулі мукі, прынесьлі. Той дурны́й ду́мае:

— Но, ужэ́ аны́ мне помоглі, хату зрабілі, кулі прынесьлі — ужэ́ грэх будзе. Ну, што вы, медзьведзі, ці вы бу́дзеце ў мене́, ці вы по́йдзеце?

— Ат,— кажуць,— хаджаін, як будзе добра штука, то мы шчэ послухаем.

Думаў, думаў, што ім зака́ндоваць. Дай кажэ:

— Ідзіце́, у на́шэго попа́ каба́н добрый. Убійце да прынесіце.

Пашлі, адчынілі хлеў, за кабана́, убілі, прынесьлі, осмалілі. Такій добрый — ух! Дурны́й кажэ:

— Есьце вы.

— Эй,— кагуць,— нам сала не есьці. Пайдо́м мы, пчол двое стаіць, вы́дзером.

А ў попа́ на дварэ́ пчолы. А сабакі ліхіе ў попа́, што страшэнна рэч! Медзьведзі пчолы тые дзеру́ць, а сабакі брэшуць вельмі. Поп кажэ на жонку:

— Што то нашэ сабакі, зроду так не брэхалі! Каб не былі злодзее ў нас.

Взяў поп стрэльбу, дай вышо́ў. А медзьве́дзь, за мёду сцельнік*, як пусьціў на попа́, так пабе́г у хату. На попадзю кажэ:

— От, душко, якое мне Бог даў шчасье! Ето Бог сва́рыўсе на сабакі, на нашэ. Я як вышо́ў, то мне Бог мёд кінуў.

— Эй, душко, непраўда. Як то можэ быць, Бог мёду кінуў.

— От, ду́шэчко, встань — погледзі́.

Всталі, запалілі ого́нь — праўда мёд. Ну, Бог, кінуў мёд. Поседзелі, погаварылі і полеглі. Назаутра дзень всталі. Вышо́ў поп на двуор, аж пчолы ўдзе́рэны. Ай, пашо́ў поп к попадзі.

— От, душко, я каза́ў, што Бог кінуў мёд, аж ето злодзе́й пчолы драў, да кінуў сце́льніком.

На медзьведзі ніхто не кажэ, а дурны́й моучы́ць. На аднаго́ чэлавека напалі, што он выдра́ў пчолы поповы. Пошкодова́ў дурны́й таго́ чэлавека, што напалі, да пашо́ў до попа́, дай кажэ:

— Ба́цюшко, не грэшы́ на чэлавека, то мае́ медзьведзі выдралі.

— Э, ты дурны́й! Што ты навёў медзьведзі. Сам дурны́й.

— Дарма́, ба́цюшко, што я дурны́й, да з ба́цюшка накпіў. Да і кабана́ зьеў.

— Як ты маго́ кабана́ зьеў?

— Мае́ медзьведзі прынесьлі́.

— Я цебе́ прэстаўлю.

— А куды́, ба́цюшко, мне прэставіць?

— Я цебе́ ў турму всаджу́.

* Сцельнік — соты мёду.

— Дай, бáцюшко, сто рублёў, то жыв будзеш, а не даш, то прыдýць медзьведзі, убью́ць.

— Э, ты дурны́й, я іх пострэляю.

Да дýмае поп:

— Прыдýць, забью́ць.

— На табé, чэлавечэ, сто рублёў, скажы́ нехáй не ідýць.

Дурны́й взяў шчэ сто рублёў грошы, да і одправіў іх.

## *Жаніцьба*

Булá ў бацькі дочкá, да вельмі дуровата і сьлéпая трохі. Аны́ багаты страшэнно былí. Прышóў до іх дзецю́к і сватáецса к той дзеўцэ. Подбíў он её.

— Я цебé вазьмý за себé.

А анá рада! Увéчэру паведзé ё на двуор і ўсё подбівае её, штобы шла за егó. Анá егó цалуе, обдымае, а патóм улезе ў хату і хвáліцса:

— От, матко, полюбíў мне! Якíй харошы!

— Хто ж цебé полюбíў?

— Солдáт, матко — да харошы он! Круг'лы, шэрокі, і рукамі я не обняла.

Ну, вернуусе он другíй раз подмоўля́ць дзеўку, да маці не пускае.

— А куды́ ты, дурна! Да седзí дома. Куды́ табé замуж!

Полеглí бацькі, поснулі. А іх сон не берэ́. Выйшлá анá із хаты, пашлí аны́, з клеці ўсё выносілі на воз, успаковалі. Он кажэ на её:

— Я табé хýсточку очы завяжý, бо ў нашэм селé сабакі такіе — як гледзіш, спужáешса.

Завязáў хýсточку очы і павёз кружкі селá, да прывёз на той жэ двуор, да бацькоў. Дай кажэ:

— Ізла́зь, да лезі́ ў хату. Я позношу ў клець.

Да сам завернуў дай паехаў, куды́ ему́ трэба з усі́м. Ана́ ўлезла́ ў хату, да на печ, дай села.

— Такая хатка, як у маго́ бацькі. Такая печ, як у маго́ бацькі.

Проспа́лісе бацькі і чуюць, што ана́ гаворыць. Путае маць:

— А ты ж дзе ето?

— Я замуж пашла́.

— А куды́ ж ты замуж пашла́?

— А за солдата.

Да маць кажэ:

— Устань ты, дзедку, пайдзі́ поба́ч, ці е што ў клеці?

Встаў той дзед, пашо́ў — аж клецця разчы́нена, нема́ нічэнько. Білі, білі тую дочку́, сталі пута́ць:

— Як жэ он цебе́ вёз?

— Успаковалі на воз, да завяза́ў очы ху́сточку, дай поехалі, а далей, як прые́халі на двуор, он кажэ:

— Лезі́ ў хату! Я і ўлезла́ ў хату.

## *Здарэнне*

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Быў старый дзед з ба́бою. Взяла́ тая баба і по́мерла. Плачэ той дзед:

— Ах, Божэ мой, Божэ! Што мне рабіць цепер. Як мне жыць на сьвеце!

Думаў, думаў:

— Буду жэні́цса.

Взяў, запру́г ко́ніка і паехаў. Едзе да едзе, прыехаў ў адно́ село́. Заехаў до карчмы — там

мужыко́ў назбера́лосе багато. Разпра́шываюць его́:

— Куды́ ты, стары́к, едзеш?

Ён стаў ім жа́ліцса: такая а такая справа, по́мерла мне баба, так еду жонкі шука́ючы. Добрые людзі, нарайце мне дзе, каб высва́тацса.

Дак той кажэ:

— К той ідзі́.

А той кажэ:

— К той ідзі́.

А там які́й то за плечыма стаі́ць, да тоукне́ ў плечы:

— Не шука́й бабы, да хадзі́ со мной, я табе́ бабу нараю.

Вышлі аны́ на двуор із тым. Путае он той дзед:

— А дзе ты, добры чэлавечэ? У етом селе́?

— Да не,— кажэ,— паедом далей.

Едуць аны́ да едуць — вьéхалі ў такі́й мох, у бэздну́, у завалу, што прайці́ нельга́. А конь едзе і не дотыка́еца до таго́. Побачыў той дзед, што тут якая то нечыста сіла, што едуць по е́такому мху, а конь ідзе́. Беда́! Не туды́ ўлёз. Прые́халі — серэд лесу́ дом такі́й стаі́ць. Выпраглі коня́:

— Ведзі́ ж его,— кажэ,— ў стайню.

Ввёў он у тую стайню — аж там такіе пакое, палацы! Да поўна хата такі́х красавіц! Погрэ́лісе аны́, да той кажэ:

— А што ты, дзеду, катору хочэш взяць?

— А што,— кажэ,— мой салавейко, ці аны́ за мене́ — таке харошэ паненкі — пойдуць?

— Да ето ні почо́м! Пойдуць. Беры́.

З адно́й зрабілі догово́р як взяць. Кажэ стары́к:

— Нам трэ к свяшчэ́нніку ехаць, каб повеньча́ў.

— Ці шчэ ж табе́ свяшчэ́нніка трэба! Я цебе́ повеньчаю. Берэ́ш, старый, ету панну?

— Беру́,— кажэ.

— От і добрэ.

Сталі ань́ ўберацьса до его́ села́.

— Ці багато ты мехо́ў маеш, чэлавечэ?

А он кажэ:

— У мне нема́ ні аднаго́.

Загаварыў до тое дзеўкі, штоб сває́ мехі́ клала. Стала ўкіда́ць мехі́ — укі́нула пяць.

— Будзе е́тых.

Павёў той старыка́ ў ко́мнатку.

— Дзержы́, дзед, мех.

Той мех дзержыць, а той усе́ грошы сыпле. Насыпа́ў пяць мехо́ў.

— Ну, владжайце!

Садзі́ласе тая панна — у́брана, просто ўх! А он, ве́домо, старычо́к. І грошы тые пяць мехо́ў поклалі ім. Конь здаецса невелічкі, а бегне хутко. Ехалі ань́, е́халі — подъежджаюць под тое село́, дзе стары́й. Путае панна:

— Ці шчэ далечэ?

— От,— кажэ,— гэто село́ нашэ.

Як толькі огледзеўса: то була́ панна, а то седзі́ць сьвіня́. Ду́мае той старычо́к: што он робіць! Сьвіню везе́ не бабу. Плачэ: як мне людзям показацьса! Да раздумаў сам сабе́:

— Хоць я сьвіню́ прывёз, да грошы мае́.

Позлазілі з воза — і сьвіня́ коціцьса з воза і пашла́ ў хату, да легла́ под пало́м, по-сьві́нячы. Запаліў он у печы, наварыў вечэру, сам зьеў — і ёй адрэзаў хлеба і ліў страву на міску, дай поставіў под пало́м. Ана́ встала, учо́ўкала, дай легла́. Да етой стары́к кажэ:

— От, улёз не ў сває́ — і пропа́ў колі́.

А далей, до однаго́ кажэ:

— От, я пропа́ў.

— А чэго́ ты,— кажэ,— пропа́ў?

— Што паненкой ро́біцса і сьвіню.

— Эх, —кажэ,— ты не ве́даеш, што рабі́ць.

— А што я не ве́даю?

— Выжэ́нь ты ё на поле, а я прышлю́ пастуха́.

Даў Бог дзень, выгна́ў он ее́ на поле.

— Ідзі́, хоця́ подъеж, а то я цебе́ кормлю́.

Ажо́сь воўкі бегу́ць, бачуць тая сьвіня́, што беда́ будзе.

Забегае воук — ана́ за адзі́н плот, то воук за другі́й — увільвала тая коло плоця — воук попраўля́ецса. Нема́ рады! Скіну́ласе ана́ паненкой, да атломіла жэрдзіну, да за тым воуком! Пашла́ ана́ до хаты одбіўшысе од воука.

— Романе, Романе, не ўганя́й ты мне на поле — не буду тако́й як була́.

— Калі будзеш ты ў мене́ господыню, то не буду цебе́ гоніць.

— Калі ты е́того пастуха́ — воука зловіш, то я буду ў том доме господыню.

Пашо́ў ён ловіць таго́ воука. Злові́ў поросятко, сеў на хвоі, дак поцісну́ў — поросятко і вішчыць.

Прыбегае воук. Як стаў он его́ ловіць — воук то сюды́, то туды́ — як сцягну́ў его́ на песо́к — злові́ў — дай у село́ цягне. Прывёў у сваю́ хату, дзе тая паненка.

— Эх,—кажэ ана́,— ты брачухно-воучухно, ты хаце́ў мне заесьці.

— Э,—кажэ,—дзевіцо-сестрыцо, я не цебе́ да сьвіню́.

— Э, —кажэ,— воучухно-брачухно, тож то я була́.

— Э, — кажэ,— дзевіца-сестрыца, чэму ж ты такая хітра була́?

— Так я сердзіта булá на сваíх братоў, што мне за стáрога оддалі.

— А што ж ты, дзевіца-сестрыца, дýмаеш, бегім мы навы́перадкі. Калі ты мне вы́перэдзіш, то будзеш тут господыню.

Пабеглí аны́. Воук як пабéг, то і сюды́, і туды́ верне — бегýць аны́, бегýць — нічого не вскурала. Ажóсь ідзé мужы́к.

— Ах, ці такжэ бегцí?

Як розгорнуўсе мужы́к, так догнáў воўка, взяў за лапы, дай кінуў об землю. Воук без духу нежывы. Анá стала дай кажэ:

— А што, брачухно-воучухно, я табé казала, што наскочыш на свагó.

Пашлá ў хату.

— Ну,—кажэ,— дзеду, уж я тут буду господыню. Да ты менé взяў, а хаджайства неякого не показáў.

Павёў он её ў свіронок, у клецьь.

— Да якіе ж у менé ходзайство! Я бедно жывý — немá нічого.

— А мехі маé дзе, што браты далí?

Погледзела, дзе тые мехí — у сеньцáх стая́ць. Пашóў он, уцягнуў тые мехí — вывернула анá — аж то грошы навернула.

— Цепéр я буду хаджайка.

Он повеселеў — хоць анá маладá, я стары́й, будом жыць.

— Ты ж ідзí, дзеду, по гарэлку — мая́ мацьь у госьці прыедзе.

— А ці багато гарэлкі взяць?

— Бerý гарцóў два.

Ажось серэд ночы стукоця́ць! Грумоця́ць! Едуць у хату. Найшлó іх поўнюсенька хата. Едзе і мацьь у госьці — ні гола, ні адзета, ні на козе, ні на сьвіні, чорт вéдае на чом! Прыéхала ў хату. Хата бу-

ла́ чорна, а то зрабіласе ясна, чыста. Не було́ нічого ў хаце, а то і столы посталі і крысла — усё як трэба. Пазірае дзед, што будзе. Тая мaць кажэ:

— Шчэ ж прыедзе мой сын у госьці.

Прыежае той сын. Ідзё з такою калоду, што неможна там ні сесьці, ні стаць — всё з ту калоду ходзіць. Понапіва́лісе ўжэ там.

— Кабы му́жыка, то бы потанцовалі.

Пашо́ў дзед, му́жыка прывёў. Напоілі му́жыка, іграе — аны́ скачуць. Да прыду́ць к столу, помочуць пальца, мажуць по оку і пайду́ць скакаць. Дзед той ду́мае:

— Што ето! За што аны́ мочаюць да мажуць? Вазьму́ і я помажу.

Як толькі аны́ загледзелісе, он помочыў пальца, да помаза́ў око. Так і бачуць: не то людзі, да все чэрці — і аны́ не ў хаце да ў карчме́, да так мужыко́ў натыкаюць, штобы мужыкі́ білісе. Мужыкі́ ўжэ́ і побілісе. Адзі́н крывы́й чорт бэз ногі подшту́рхівае, штоб білісе. А он церпе́ў, церпе́ў да не вы́трымаў, да кажэ:

— Што ту, крывы́й чорце, подтыкаеш?

— А ты, — кажэ,— нас бачыш?

— Бачу, — кажэ.

— А на каторэ око бачыш?

— А на левэ.

А той крывы́й скочыў, да як сунуў ему́ пальцом, дай выско́чыло око.

— Калі ж ты,— кажэ,— нас бачыў, то не бач нічого.

Ду́мае той дзед:

— Нехай бы я лучш моўча́ў.

Прышо́ў до тое маці:

— От, што вашэ мне наробілі — высу́нулі око.

— А нашто ты моча́ў пальца да іх бачыў?

Ду́мае он:

Што мне рабіць!

А тут Бог его́ навёў:

— Плюнь ты, да кажы́: злый, ліхій, адчэпісе ад мене́.

І он перэжэг'наўсе да плюнуў.

— Тфу! Згінь, пропада́й ты, мара!

Так тые ўсе́ полецелі церэз камін — і камін упа́ў.

## *Парабак і бусел*

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Ходзіць бусел по болоце. Насталі ужэ́ за́зімкі — ён і астаўсе ту́така — не прымають его́ ўгору леце́ць. Вышо́ў па́робок з аднаго́ хаджайства быдло поіць, ужэ́ по сьнегу, і бачыць: ходзіць бусел по сьнегу, дай ногі подымае — то тую ногу, то тую. Так ён подышо́ў до его́:

— Бусьлік! Бусьлік! Хадзі́м у хату.

Да за его́, за крыла, да ведзе́ ў хату. Вавёў у хату, а хаджайка кросна тчэ, дай кажэ:

— Ой, бусьлік, ты змёрз!

А далей кажэ:

— А ў его́ чэловечэ ногці — погледжу́.

А толькі ана́ процягла́ ему́ глядзе́ць на ногці, так он ее́ дзюб! У нос. Як дзюбну́ў нос, так і вырваў половіну носа. Бедуе ж ана́, што бэз носа, да кажэ:

— Бусьля, бусьля! Што ты мне зрабіў ето! Ты ж мене́ калекою посадзіў.

Дак ён кажэ́:

— Калі хочэш, штоб я цебе́ выгоіў, леці́ ты со мною.

— Як жэ, — кажэ,— я полечу́? Я ж крыл не маю.

— Хадзе́м,— кажэ,—на двуор, я цебе́ крылом напрану́, дай полечу́.

Вышлі аны́ на двуор, он напрануў ёкрылом, поднялісе і полецелі. Поускáкалі ўсе з хаты, удзівленье такое! Плачуць дзеці — полецела маць. Давáй аны́ таго́ пáробка лаяць:

— Нашто ты бусла прывёў!

Пáробак кажэ:

— Да калі ён умёрз — на адно́й нозе стаяў.

Да аны́, як полецелі, так полецелі — да на морэ. Ён у моры загоіў ей той нос, да на жонку сабе взяў. Жыву́ць аны́ дай жыву́ць гадо́ў тры, навелі ужэ́ і бусьленятка.

— А што, —янá кажэ,— лецім мы ў маю́ старону. Поодве́даю маіх дзеце́й, тых што первей булі.

Прылецелі аны́ сюды́, дзе анá булá, да з тымі дзецьмі, з бусьленяткамі, села анá на озеродзе, на сваём. Да ўсе́ закідае го́лову:

— Кле, кле, кле!

І бусьленятка:

— Кле, кле, кле!

А тые дзеці, што покідала, выходзяць, бачуць, што клекчуць буслы. Сталі плакаць. Рáдзяцьса аны́:

— Што гэты буслы так прылетаюць да кле́каюць. Можэ то наша маць.

Кажуць аны́:

— Кабы нам як зловіць ее́. Разопнём це́нято* дай пагонім. Ці не влеціць анá.

Собрáлісе дзеці, це́нято настро́ілі, разапялі перэд озеродом,сталі гоніць. Да бусьліха ве́дае,

* Ценято — сецъ.

што то ей дзеці — ана́ і сама́ хочэ, штоб як ёй зловілі. Так аны́ разпіна́юць це́нято, а ана́ седзі́ць. Як сталі гоніць, ана́ і полецела, а аны́ це́нято розгорнулі дай стулілі. Взялі, вы́нялі з таго́ це́нята, да внесьлі́ ў хату. Ана́ знае, што дзеці ей — ну, толькі бусьліха. А ў іх на двуорэ груша стаяла, а на грушы бусьленятка поседалі. Ёй і тых шкода, што ў хаце, і тых шкода, што на грушы. А той бусел ёй ждаў, ждаў — прылетае і он, да і он седзі́ць коле дзеце́й, да кле́кае. Ду́мае ана́:

— Што тут зрабі́ць?

За́відно ей, што бусел кле́кае, да прышла́ к акну́, да дзюб! У акно́. Акно́ прабі́лосе, да кле, кле, кле! А тые з грушы повлеталі туды́ к той. Ду́маюць дзеці:

— Што тут рабі́ць, што налетало так бусло́ў багато.

Прыдзе́ пора, што трэба ім песьню сваю́ пець, то аны́ лопу! Лопу! Да на стол посядаюць, да кле́каюць. Ду́маюць дзеці:

— Як так, дай так, маці не будзе.

Сталі аны́ сло́вечно спра́шываць:

— Ты, кажуць, наша мацьʔ

Да перэд ёй і плачуць. А ана́:

— Кле, кле, кле! Я ваша маць.

Зговоры́лісе аны́ пусьціць іх із хаты. Адчынілі дзьверы, повыво́дзілі за крыла́. Вылецелі аны́ із хаты, дай полецелі за морэ.

# *Парабак і бусел*

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Хадзіў бусел по балоце, да напалі за́зімкі, ён і астаўсе ту́така. Вышо́ў па́робок з адно́й хаты быдло поіць. А ён, той бусел, ходзіць по снегу, подымае то тую ногу, то тую. Так ён подышо́ў до его́:

— Бусьлік, бусьлік, хадзе́м у хату.

Да за его́, за крыла́, да ведзе́ ў хату. Дай ў хаце он погрэўсе. А тут ідзе́ господа́р, дай гаворыць на па́робка:

— Нашто ты его́ прывёў у хату! Чэму́ не побі́ў етаго падлучья́.

Да бусел як подняўсе, да влецеў на го́лову таго́ чэлавека, дай дзюбну́ў і пробі́ў.

— Божэ мой, што мне рабі́ць! Я ўже калека вечны.

Бусел взлецеў на хату, дай кле́кае. А ён плачэ, да кажэ:

— Бусьлік мой галубчык, дай мне раду яку!

А ён, той бусел, закінуў галоўку, да злецеў, лопнуў крыло́м, да под крыло́ і панёс. Полецелі аны́ на морэ. Стаў он его́ гоіць, так за месяц он его́ і заго́іў. Просіць он его́, таго́ бусла, штобы его́ вывёў із мора. А бусел кажэ:

— А як я цебе́ выведу́ із мора, ці ты скажэш, дзе ты быў і хто цебе́ выгоіў?

Дак ён кажэ:

— Я мужы́к і сьлепы́й і дурны́й, а вы сьвет лета́еце і морэ зна́еце, ваш розум большый, як у мене́. Прашу́ мі́лосьці вашэй научыць і мене́.

— Добрэ, ідзі́ ж со мною.

Ідуць аны́ дай іду́ць. Да скачуць двое дзеток на адно́й нозе.

— От то, пане бусьле, то дзеткам кара?

— Не — ето аны́ дурнёў научаюць: не завідуй, калі другому хо́рошо, да не хапайсе ўсё сабе́ брацъ.

Павёў он его́ такі до дому — аж тут на берэзі мора зяузюлька купа́ецса. Вельмі ана́ харо́шэнька. А мужыку́, як хорошэ бачыць, ему́ за́відно. Ду́мае:

— Ах, кабы ў мае́ рукі!

А бусел стаі́ць да дзі́віцьса. А ён наме́рыўсе зяузюльку ўхопіць — да бусел прыкмеціўсе — як толькі он за зяузюльку, так бусел его́ дзюб! у ногу. От ён і зноў калека. Зноў бедуе:

— Што мне рабі́ць!

Да бусел кажэ:

— А ты ж пыта́ў, што тые дзеткі робяць, а я каза́ў, што дурнёў научаюць, штобы другі́м не заві́довалі. Маеш цепе́р науку.

Плачэ он, просіць бусла́, штоб его́ выгоіў.

— Калі ты,— бусел кажэ,— дочку замуж за мене́ даш, то я цебе́ выгою.

Што тут рабі́ць! І дочкі́ жалко і калекой нелоўко быць.

— Пусьці́ мне, — кажэ, — до дому, я дочкі попытаю, як ана́ скажэ.

Пусьціў. Прылецеў той чэлаве́к до дому, стаў такі́м, як і быў.

— Што ты, дочко, ве́даеш — такая а такая справа. Хочэ бусел цебе́ замуж взяць.

Дочка ў голос, у плач.

— Як то можэ быць! До мене такіе кавалеры ўдаюцса!

Да на той час знайшоўса кавалі́р ў ее́ і спрашывае, як ето́? Стала разка́зываць. Кавалі́р кажэ:

— Да што там бусел! Я хвурею его́ ўбью́.

Бусел на ету пору прылетае і сеў там на дворэ—

да ўсё закідае голову, дай клёкае. Ду́мае выйду́ць по его́ і ў хату поведу́ць. А тая дзеўка плачэ, што бусел прылецёў по ее́. А той кавалір кажэ:

— Не плач.

Да хвурью настроіў, да акно́ протворы́ў, да як пальну́ў, так бусла забіў. Да тую дзеўку обня́ў, поцалова́ў:

— Ты ж мая́ жэна́, а я твой муж.

## Вяселле

Павет Мазырскі, вёска Камаровічы

Було́ ў бабы две дочкі. І баба бедна з ётымі дочкамі. Ду́мае, ду́мае, дай кажэ:

— Што, мае́ дочкі, хадзі́м у сьвет —можэ Бог шчасье дась.

Пашлі аны́ ў сьвет. Іду́ць аны́, іду́ць — прыходзяць до цёмнаго лесу́. Абдымае іх ужэ́ ноч — ужэ́ цёмно. Жу́рацса: што тут рабіць? Далей подыходзяць аны́ — засьвеціўсе ім аго́нь. Аны́ кажуць:

— Аго́нь сьвеціць — пайдо́м — мо тут село́ блізко.

Іду́ць аны́ — такі́й лес велікі! Стаіць адна́ хатка і аго́нь гары́ць. Ана́ — ета маць — кажэ:

— Зайдзі́м сюды́, ці не пусьцяць на ноч.

Зайшлі́ аны́ — нема́ ніко́гонько ў хаце, толькі аго́нь сьвеціць. Кажуць аны́:

— Влезьмо на печ, ляжмо — уж як будзе, то будзе. Ці нас тут што побье, ці жывы будом.

І голо, і босо, не було́ нічого ў той хатцэ, ні піць, ні есьць. Повзлазілі аны́ на печ, полеглі́. Ажо́сь до поўночы, едуць і граюць, і скачуць, і

пaю́ць, а што не свой дух (не пры нашых душа́х ка́зано) з весельем ідзе.

Позіраюць аны́ з печы — як толькі на двуор вьёхалі, на столе ўсего́— і піць, і есьць, і шклянкі, і самова́р, всё чысто. Іду́ць у хату, скачуць, в лапкі плашуць. Адзі́н ідзе́ ззаду крывы́й на адно́й нозе, як зайграе му́зыка, он усё перэкіда́еца. А далей ідзе́ з са́маго заду адзі́н і несе́ мех уголья на плечах. Як махнуўса он, да пашо́ў скака́ць по хаце, да посыпалось з таго́ меха́, не ўголья, а грошы. Посыпа́лісе по хаце, так і по́мосту не знаць. Заві́дуюць аны́ з-за коміна, што грошы по хаце лежа́ць.

— Эй,—кажэ,—ма́мочко, кабы нам грошы трохі взяць.

Гулялі аны́, гулялі, понапіва́лісе ўжэ́, полеглі́ дай поснулі. Ана́, тая дзеўка, ослухала, што ужэ́ спяць, ціхо злезла́ з печы, дай грэбе́ тые грошы ў хфарту́х. Той крывы́й стае — чэра́п за ее́!

— Ах,— кажэ,— мая́ ду́шэчка, атку́ль ты прыбыла?

Ана́ спужа́ласе, не ве́дае, што адказа́ць. А далей трохі очухаласе, дай кажэ:

— Мы подоро́жные.

— Ну, якіе ж вы подоро́жные?

— Мы бе́дные саусі́м, пашлі́ мы у свет шчасья шука́ць. Нема́ чом пожы́віцьса.

— З кім жэ ты тут? — путае.

— Шчэ,—кажэ,—у мене́ маць на печы і сестра́.

— Наймі́цесе ў нас — будзе вам піць і есьці.

— Ну, можна,— кажуць.

— Да што вы хо́чэце за гуод?

— Што ласка ваша.

Служаць аны́, служаць — ужэ́ поўроку мінуло ім — ужэ́ ім надоело ў іх служачы.

— Заплаціце нам,— кажуць,— пайдо́м ад вас.
— Ешчэ послужыце,— аны́ кажуць,— будзе ў нас веселье — поможыце одправіць.
— Ну, добрэ.
Пашлі́ ж аны́ по тую свацьбу — ажо́сь і едуць з весельем. Зьёхалі на двуор, іграюць, скачуць, танцуюць. Адзі́н крывы́й, а другі́й сьлепы́й ідзе́, а трэцій воло́вую шкуру несе́, да скачэ. Да як махну́ў хвостом з той воловой шкуры, так му́зыцэ око выбі́ў. Зернулі аны́ на двуор — аж тут медзьведзь на дворэ́.
— А што, медзьве́дзь, напоймо.
Пашлі́ аны́, за таго́ медзьведзя, дай доўбяць у хату. Як побачыў медзьве́дзь гарэлку, захацелосе.
— Дайце мне, браткі, гарэлкі.
Далі́ ему́ гарэлкі, напі́усе ён, так што ему́ дурыць у го́лове. Пашо́ў ён скакаць, да побі́ў ім шклянкі і самовары, усё чысто. Бачуць аны́, што беда́ — просяць аны́ его́, штобы пашо́ў ён.
— А што,— медзьве́дзь адка́зывае,— калі мне оддаце вашу наймічку на жонку, то я пайду́. А не, то ўсё побью́.
Сказалі аны́ той дзеўцэ, што такая справа:
— Медзьве́дзь хочэ цебе́ за жонку взяць.
Плачэ тая дзеўка, галосіць.
— Не плач, не бойсе,—аны́ кажуць,—ніпто табе́ не будзе.
Ну, згаварылі тую дзеўку. Веселье будуць рабіць з медзьведзем.
— Дзеўка - дзевіца, — кажэ медзьве́дзь, — не плач, не журысе, табе́ будзе ў мене́ піць і есьць.
Дзеўка зерне́ — ве́домо медзьве́дзь. Жывое ей немаш. Пашлі́ аны́ до шлюбу, стаў поп хрэсьціць. Агледзе́ласе ана́ ізно́ў — аж то не медзьве́дзь, а паны́ч.

— От, — кажэ, — я быў закляты, пакýль сабé жонкі не высватаў, а цяпэр буду панычóм, як і первей быў.

## *Маці і сын*

Павет Рэчыцкі, вёска Юравічы

Быў адзíн чэлавéк вельмі багатый, да не меў он дзецéй. Як начаў ён езьдзіць по знахорах, то рóдзіла егó баба сынкá Андрушка. Як стаў той Андрушко расці, то не годамі, але днямі. Да патóм той старык помер — і астаўсе Андрушко з маткой удваём. Сталі анú жыць з маткой, і егó матка вельмі шкодовала і не пускала до работы. І до тагó дожылісе, што цэлое хаджайство проелі. Да сын кажэ:

— Матко о, матко! Пайдý я сабé службу пошукаю.

Да матка кажэ:

—Не, мой сыночку, лушч хадзéм разэм в сьвет, можэ што знайдзéм сабé такое, штобы мы моглí пражыць.

Сын згóдзіўсе на маткíное слово і шчэ што булó, то анú прадалі, а што комý аддалі, побралі торбы і пашлí ў сьвет мілóсціны просіць по хатах. Хадзілі так анú од хаты до хаты, дзе бедный, а дзе багаты — не так то скоро рабілось, як скоро гаварыцьса. Да пашлí анú у лес. Малою сцéжэчкой ідýць дай ідýць. Аж лежыць пóясок сіні. Так сын хочэ егó забрáць, а матка не позваляе.

— Нашто табé,— кажэ,— брáць! Можэ то якíй знахор поклáў, а мы возьмем, то будзе нам бедá.

Да сын не хочэ маткі слухаць і такí хочэ взяць. А матка аж за рукí егó хватае і просіць:

— Не бери́, мой сыночэк. А можэ он такі́й, а можэ сякі — нашто нам его́ браць! Лучш не чэпаймо, да хадзе́м далей. Хто покла́ў, той нехай і возьме.

Сын стаяў і доўго думаў, ці браць, ці покінуць — да матка згаварыла его́ і пошлі далей. Іду́ць аны́, дай Андрушка гаворыць до маткі:

— Мамо, о мамо! Я вернусе, дай вазьму́ е́таго по́яска.

Матка ізно́ў на́чала его́ просі́ць:

— Мой ты сыночэк! Я ж цебе́ шкодую — я ж цебе прашу́, не чэпаймо. Хадзі́м мы далей.

Пашлі́ аны́ далей. Да его́ такі корціць етый поясо́к. Кажэ ён:

— От, матко, мы ўжэ́ потомі́лісе вельмі — сядзьмо, да хоця́ трохі оддышэм.

Матка его́ послухала. Селі аны́, досталі хлеб із торбы і сталі аны́ полу́дноваць. А его́ усё етый поясо́к корціць, як бы ему́ хто кажэ: вернісе наза́д, дай забери́ его́. То ён кажэ на матку:

— От, матко, цепе́р як мы подъелі, то варто было бы нам і заснуць трохі — на́шые ногі боляць.

Матка послухала і легла́ спаць, а он кажэ:

— Я, мамо, посяжу́ ле цебе́.

Поседзеў ён трошкі, бачыць, што матка ужэ спіць. Так доуго не чэкаючы завернуўсе наза́д на сваю́ дарожку і побе́г до таго́ по́яска. Прыбе́г туды́, взяў его́ — да нема́ дзе его́ сховаць од маткі. Думаў ён думаў, да скінуў аднаго́ рукава і замота́ў на го́лое цело, штоб матка не поба́чыла, і надзе́ў зноў той рука́в. Як то зрабі́ў — і так то быў здаровы — а то стаўсе такі́й сілный, што не чуў под сабою землі́. Пашо́ў ізно́ў до маткі, прабудзі́ў ё і гаворыць:

— Цепе́р, мамо, хадзе́м сьмело ў сьвет.

Пашлі аны́ сабе́ далей. Іду́ць, дай іду́ць — аж стаіць на дарозе веліка хвоя. Кажэ Андрушко:

— От, мамо, я ётую хвою адны́м палцом повалю.

— Эй, мой сыночэк, ты ее́ і секірою не зрубаеш, не то штоб ты ее́ адны́м палцом поваліў.

Андрушко, не доўго чэка́ючы, захаце́ў сваю́ храбросьць показаць, толькі адны́м пальцом хвою тоўкну́ў, так ана́ з корэньем поваліласе. Да матка, як поба́чыла, што ён такі́й здаровы, так догадаласе, што ён взяў той поясо́к. Іду́ць аны́, дай іду́ць—не так-то скоро робілосе, як скоро гаворыцьсе — аж прыходзяць аны́ до якоесь хаты. Андрушко кажэ на матку:

— Ты ж, мамо, тут почэка́й, а я пайду́ побачу, хто тут такі́й в етой хаце.

Пашоў ён адчыніў дзьверы, аж там седзяць дванадцаць змеев, што ў са́маго ме́ньшаго то було шэ́сьць гало́ў, а ў са́маго ста́ршаго то було́ двадцаць чэтыры галаве́. Якраз тагды́ аны́ абе́далі в той час. Андрушко вайшоў у хату:

— Здаровы.

— Здаро́ў, Андрушко Іва́новіч.

— Ці нема́ ў вас вады́ напіцьса?

— Абаждзі́ трошкі — ты зараз крові свае́й напіешсе.

Андрушка постаяў, погледзе́ў на тых дванадцаць змеев, дай гаворыць:

— Побачым, хто чыей крові напіе́цса.

Змей зерну́ў на Андрушка:

— Ешчэ такі́й мерзавец будзе тут гаворыць. Мой самы меньшы брат як возьме цебе́ адны́м палцом, то ты зараз помрэ́ш.

А пато́м кажэ до сваго́ ме́ньшаго брата:

— Ідзі́ ты погуляй з етым дурнем.

Зараз выходзіць шэсьціголовны змей. Дай

Андрушка, доўго не чэкáючы, як взяў малоціць по егó тых головáх, так і збіў. А тут другíй — он і другóго. А тут і трэцій — он і тогó. І так збіў адзінадцаць на сьмерць. А на дванáдцатым адну́ гóлову покінуў, бо вельмі стаў прóсіцьса. Гаворыць:

— Покíнь, браце, хоця́ мне адну́ гóлову, штоб я мог на сьвеце жыць.

Андрушка стаў, поглéдзеў на éтые все змеі, і зрабíлосе ему́ жалко, што столькі галóў лежы́ць збіты. Так апусьціў рукі, дай кажэ:

— Ну, то я табé адну́ гóлову подарую.

Змей ему́ хоць аднóй головóй паклóніўсе і подзя́коваў. Дай Андрушко не стаў з ім доўго знакомство заводзіць, зараз завернуўсе і пашóў із тое хаты до маткі.

— Но, хадзём, матко.

— Ах, мой сынóк, ці ж ты шчэ жывёш на сьвеце! Бо я ду́мала, што цебé даўнó немá жывого, што там такíй крык быў у той хаце.

— Ніштó, мамо, той крык для менé не быў страшны.

Ну, пашлí аны́ далей. Іду́ць аны́, дай іду́ць, дзень, а можэ болей, прыходзяць аны́ ў селó на ноч. Зайшлí аны́ к аднаму́ чэлавеку, попросілісь на ноч, і той пусьціў. Зачáў ён іх разпу́тываць:

— Атку́ль вы? І што? І куды́ ідзецé?

Андрушко дай разказáў сваю беду́ і куды́ аны́ іду́ць. Чэлавéк тое ўсё выслухаў, і гаворыць:

— Ото вéдаеш ты што?

— А што?

— Тут наш пан наймуе лéсьніка і господыню до пекарні. То можэ ты станеш за лéсьніка, а матка за господыню, то разэм бу́дзеце служы́ць у аднóм месьце.

— А добрэ було бы — можэ хоця́ по сьвеце не ходзілі бы.

— Ну, то добрэ, я заўтра буду вэ дворэ, так пану скажу́, што ў мене́ есь чэла́век добрый.

Назаутра дзень рано, пашо́ў той мужык до пана дай кажэ: такая а такая справа. Пан зараз посылае по таго́ чэлавека. Прывелі́ его́ ў двуор, выходзіць пан.

— Дзень добры пану.

— Здаро́ў. А можэ б ты наняўсе за ле́сьніка ў мене́?

— А добрэ, пане. Але можэ бы пан даў і мае́й матцэ место якое?

— А добрэ, у мене́ нема́ господыні, то яна́ можэ за господыню стаць.

— Да чэму́! Можэ.

— Ну, то добрэ.

— А я хаце́ў попытацьса пана, ці е конь які́й для мене́?

— Найдом коня для цебе́ — от хадзі́ со мною — побачыш маі́х коні.

Повеў его́ ў адну́ стайню, да там такіе коні, што рэдко́ пошука́ць. Дай Андрушка, як подошо́ў до аднаго́ найле́пшаго, як палажы́ў на ім сваю́ руку, то конь со ўсі́х ног поваліўсе.

— Ну,—кажэ пан,— маладзе́ц з цебе́, калі́ мой конь не додзержа́ў тваей рукі́. Хадзі́м до другое стайні, там шчэ лучшэ коні, можэ като́раго можна будзе найці́ для цебе́.

Прыходзяць до другое стайні — аж там такіе коні, што не ўсякі дурэнь мог хадзі́ць около іх. Андрушко пахадзі́ў по стайні, погледзе́ў.

— Не,— кажэ,— пане, нема́ і тут коня́ для мене́.

— Ну, то знаеш ты што?

— А што, пане?

— У мене́ есь у лесе такая кобыла, што калі ты прыступішсе да ей, то я табе́ дам трыста рублёў. А ў тое кобылы есь жрэбчык, то той можэ цебе́ возіць. Але калі ты доступішсе до таго́ жрэ́бчыка, то я дам табе́ пяцьсо́т рублёў гасьцінька.

— Ну, добрэ, пане.

І зрабілі тако́й ўговор, што тры дні трэба езьдзіць по лесу́, а тры дні можна дома седзе́ць. Ну, добрэ. Так позва́ў пан Андрушка і матку его́ і далі ім поабедаць. А пато́м матка зосталасе ў кухні, а Андрушко взяў ву́здэчку і седло́ і бізуна́ до́браго і пашо́ў у лес. Прыходзіць ён до тое стайні, дай крыкну́ў:

— Стой, малый праудалый!

Той конь стаў як уко́паны в землю. Прышо́ў до его́ і пагладзіў, дай надзе́ў на его́ ву́здэчку і седло́, взяў сваго́ бізуна́ і сеў, да як сціснуў сваемі маладзе́цкімі ногамі, так той конь на бег, але леце́ў поверх лесу́. Прыехаў ён наза́д у етый двуор, так пан, як побачыў его́ на етым коню, то ўжэ́ не ведаў, што ему рабі́ць. Зараз выняў е́тые пяцьсот рублёў і даў ему́.

— На тебе́ гасьцінька за тое.

І зараз казаў запрага́ць коні і паехалі ў лес. Да лес быў такі́й велікі, што інача неможна було́ об'ехаць як за тры дні. А така була́ вельмі цекава. Захацела знаць, што там за крык быў у той хаце в лесе, як ана́ стаяла на дворэ, а Андрушко хадзіў у хату. Забраласе ана́ і пашла́ тою дарогою. Прыходзіць ана́ до тое хаты. Адчыніла дзьверы, аж там седзі́ць ра́неный із адно́й галаво́й.

— Здарова, бабушка.

— Здаро́ў, змею.

— Но, ба́бушка, то твой сын такі́й сільны.

— А мой.

— А можэ б ты, бабушка, замуж бы пашла́?

— А чэму ж, пошла бы.

— Но,то знаеш, што я табе́ скажу.Ты бы хацела тваго́ сына перэвезьці́ із свету? А не, то я цебе́ перэведу́.

— А хацела б.

— Но, то я табе́ помогу́ его́ ізгубіць. Ты ідзі́ до дому і захвар́эй, то он попутае цебе́, што табе́ такое? Так ты скажы́ ему́: ото мой сын, як ты выехаў, так я зараз і захварэла. Так ён попутае, можэ до́хтора прывезці́? То ты скажы́, што дохтор нічого не помагае, але мне людзе ба́ілі, што есь Закоба́йская рэка́, а ле тое рэкі́ есь лес, а ў лесе сад, дак штоб ён доста́ў із таго́ саду я́блычко. Так ён як паедзе по тое я́блычко, то ўж назад не прыедзе. Да мы тагды́ пож́энімсе. А калі мы его́ не перэведо́м, то ён нас абоіх погубіць.

— Ну, добрэ.

Ана́ завернуласе і пашла́ наза́д ў сва́е место. Прышла́ ана́ до дому, да сын шчэ не вернуўсе із лесу. Ана́ зараз і захварэла. Ажно прыехаў Андрушко, да не доўго чэка́ючы, поставіў коня, і пашо́ў дове́дацьса до сва́ей маткі. Прыходзіць ён — аж матка лежы́ць і стогне: ой, ой. Андрушка стаў путацьса:

— Што вам, мамо?

— Ой, мой сыночэк, такая нездарова, што ходзіць не магу́.

— Но, то чэму́ вы не порадзілісе з кім — чы з людзьмі, чы з до́хтором?

— Ой, мой сыночэк, я ўж́э радзіласе, да ніштo не помагае, ані людзі, ані дохтор. Але тут мне радзілі, штоб як доста́ць із Закобайской рэкі́ — там есь лес, а в том лесе есь сад, так штоб із таго́ саду доста́ць я́блычко, да зьесьці, то можэ б я і поздоровела.

Андрушко, не доўго чэкáючы, оседлáў сваró коня і паехаў по тое я́блычко. Ехаў ён ехаў, выехаў на столбовый шлях, і едзе сабé по шляху. Ажно конь спотыкнуўсе і зараз стаў. Ён на коня: но! Но! А конь із места не рушáецса. Аж тут адчыня́ецса земля́ і выходзіць дзевіца такая красавіца, што ні здумаць, ні згадáць.

— Здарóў, Андрушко.

— Здарова, дзевіца.

— А куды́ ж цебé Бог несé?

Он зачаў разкáзываць ёй, што матка хвора, да прыраілі людзі, штоб із тагó саду достáць я́блычко, то можэ анá ачунее.

— Так чы ж ты можэш достáць тое я́блычко, калі там за пяць вёрст агóнь із таго саду.

Андрушко подумаў:

— Но, што будзе, то будзе, дай паеду.

— Но, то знаеш ты што?

— А што?

— Я цебé жалею. На табе ету хýстэчку, то ты як прыедзеш до тагó саду, пусьці ету хýсточку, то анá табé прынесé тое я́блычко, а ты сам стой на аднóм месьце.

Андрушко подзя́коваў, взяў хусточку і паехаў. Доўго лі каротко ехаў, да прыехаў до тагó саду. Зараз выняў хýстэчку і пусьціў із рук. Полецела, вырвала тое я́блычко і прынеслá емý. Ён забрáў, дай паехаў назáд. Як прыехаў ў тое место, дзе конь становіўсе, выходзіць та сáмая дзевіца-красавіца і путае:

— А што, есь?

— Есь.

— Но, то дай жэ мне егó, а я табé другое дам.

Далá анá емý другое, і ён паехаў домóй. Прыехаў ён, бросíў коня ў дворэ, а сам панёс тое я́блычко сваéй маці. Бачыць: матка лежы́ць на

ложы і стогне: ой! ой! Зьела она́ тое я́блычко і зноў легла́. А он паехаў у лес на тры дні. Да як толькі ён паехаў, ана́ пашла́ до змея.

— А што,— змей путае,— як жэ?

— Прывёз я́блычко.

— Ну, — гаворыць, — пропалі мы цепе́р.

Сеў Змей, думаў, дай думаў.

— Ну, ідзі́ ж ты,— кажэ,— і зноў захвар́эй, а як ён прыдзе і стане путацьсе, то ты скажы́, штоб ён паехаў на Сінявскою гору і прывёз вады́. Так ён як там поедзе, то ўжэ́ не вернецса.

Ана́ завернуласе і пашла́ до дому. Прыехаў сын із лесу, да нікуды́ не зайшо́ў, але просто до маткі ідзе́ і путае, як здаровье. А ана́ стогне:

— Ой, ой! Нема́ нічого, не поправілась я ані трошкі.

—То мо́жэ поехаць до до́хтора?

— Ой, не трэба мне до́хтора. Але мне радзіў адзі́н чэлаве́к, штоб як достаць вады з Сінявской горы, да штоб я выпіла, так можэ ачунела б.

— То я паеду і прывезу́.

І доўго не чэкаючы, оседла́ў сваго́ богаты́рскаго коня́ і пусьціўсе з Богом у дарогу на Сінявскою гору, по жывую воду. Едзе ён едзе — доежае до таго́ места — і зноў конь его́ спотыкнуўсе. Аж адчыня́юцса дзьверы і выходзіць та сама дзевіца-краса́віца, што була́ ему́ ў по́мочы.

— Здаро́ў, Андрушко.

— Здарова, дзевіца, міла мая́ сестрыца.

— Куды́ ж цебе́ Бог несе́?

— От,—кажэ,—беда́! Матка мая́ поміраe, так прыра́ілі, штобы доста́ць вады́ із Сінявской горы.

— От, ці ж ты яе́ достанеш? Ты лепш вернісе наза́д.

— Не, паеду.

— Но, то на ж табе́ етый свісто́к — як прыедзеш до тое горы, то ты всё свішчы́ паку́ль набе-рэ́ш вады́ і наза́д зьедзеш.

Андрушко подзя́коваў і пусьціўсе ў дарогу. Ехаў ён, прыехаў до тое горы. Дак тые горы схо́дзяцса адна́ до друго́й так, што неможна вьехаць. Вздумаў ён на той свісто́к, і дава́й сьвістаць. То тые горы зараз сталі на адно́м мейсцу і стаяць, а ён вьехаў между горы. Гледзі́ць — што так высоко? Да як сьвісну́ў, да сціснуў сваго́ богаты́рскаго коня́, так конь подхваціў, да взнёс его́ на тые горы. Андрушка набра́ў вады́, зьехаў із горы і перэста́ў сьвіста́ць, то зараз сталі схо́дзіцьса тые горы. Да Андрушко, як сціснуў коня́, так подхваціў, так одразу выскочыў — толькі астаўсе его́ ма́ленькі собачко. Так Андрушко вельмі жу́рыўсе по тым собачку. Але нема́ што рабі́ць! Паехаў. Прыехаў на тое место — аж выходзіць дзевіца-красавіца і путае:

— Ну, як удалосе? Набра́ў вады́?

— Але, — кажэ, — набра́ў.

— Но, то дай жэ ты мне ету воду, а я табе́ дам друго́й.

Взяла ету ваду́, дай дала́ друго́й. Андрушка взяў і паехаў до дому. Як толькі прыехаў, пашоў просто до маткі і даў ей ету воду. Ана́ трошкі вы́піла і зноў стогне. Андрушка побы́ў трошкі і паехаў у лес. Да як толькі паехаў, матка зараз пашла́ ізноў до Змея.

— А што,— змей путае,— прывёз?

— Прывёз.

— Ну,— гаворыць,— цепе́р мы пропалі. Не ве́даю ўжэ, што нам рабі́ць із тваім сыном. Он хіба і з таго́ света прыедзе.

Думаў ён, думаў, што рабіць і што почына́ць— наконе́ц гаворыць:

— Маю шчэ адну́ загадку — калі ён і тою ізробіць, то ўжэ́ не ведаю, што мы зрабі́м. Есь за Сінявскою гору Огнянна гора, і там есь адна́ баба, катора за сто вёрст агнём смаліць. Ты ему́ скажы, штобы ён там паехаў, і ўбіў тую бабу, дай достаў із ее́ сэрцэ і прывёз табе́. Калі ён уж туды́ паедзе, то наза́д не ве́рнецса.

Пашла́ ета матка до дому і зноў захварэла. Прыехаў Андрушко з лесу і зараз пашо́ў до маткі. Аж тут матка лежы́ць. Што ўж ему рабі́ць? Стаў он путацьса ў маткі:

— Можэ вам дохтора прывезьці́?

— Ой, не, мой сыно́к, не паможэ дохтор. Да калі ты мене́ так жалуеш, то людзе мне ра́ілі, што есь за Сінявскою горою Огнянна гора, а там есь баба — да штоб ту бабу ўбіць і сэрцэ доста́ць, дай зварыць мне его́, то можэ я бы ачунела.

— То я паеду і прывезу́.

Андрушко не доўго чэка́ючы оседла́ў сваго́ коня́ і пусьціўсе з Богом. Ехаў да ехаў — не так скоро рабілось, як скоро гаварыцьса — прыехаў зноў на тое место, дзе конь спотыкнуўса. Ажно вуходзіць тая краса́віца.

— Здаро́ў, Андрушко!

— Здарова, дзевіца, мая́ міла сестрыца.

— Но, куды ж ты едзеш?

Ён стаў ёй разка́зываць так і так.

— Но, што ж ты ду́маеш? Як тое достанеш?

— А Бог его́ ве́дае! Можэ як достану.

— Да можна достаць, але вельмі цяжко. Да я табе́ пораджу, не едзь туды́, бо твая́ матка саўсім здарова. Лепш ты вернісе наза́д.

— Не,— кажэ,— не вернусе — што будзе, то будзе — а такі поеду.

— Но, калі так хочэш ехаць, то на табé ету хустку і етый вострый меч. Дай Бог табé помоч.

Андрушко подзя́коваў і паехаў. Доўго ён ехаў, можэ дзень, а можэ і два, наконéц прыехаў ён до тое горы. Так було́ горачо, што во́лосы гарэлі на галавé, але што тут рабі́ць — ехаць трэба. Дай вздумаў на сваю́ хустку, доста́ў ё — ужэ трохі поздоровéў. Як махну́ў тры разы і поцісну́ў сваго́ богатырскаго коня́, так конь пусьціўсе з копыта на крутую гору. А тая баба седзела на самой горэ. Да як угледзела Андрушка, закрычала:

— Андрушко, Андрушко!

А ён просто на ею едзе, дай вы́хваціў свой войстрый меч і зрубі́ў бабе го́лову з плеч. Да разрубіў еé на две палавіны і доста́ў із еé сэрцэ, завінуў в хустку і полецéў наза́д до дому. Прыехаў на тое место, аж вуходзіць краса́віца.

— Здаро́ў, Андрушко.

— Здарова, дзевіца, мая́ міла сестрыца.

— Як жэ табé повелосе?

— А нішто́,— кажэ,— зачэм езьдзіў, то і везу́.

— Ну, то добрэ. Хадзі́ ў маю́ хату — порозмоўляем.

Пашо́ў ён з ёй — зараз дала ему́ піць і есьці. Ён сеў, подъеў, напіўсе, подзя́коваў, дай кажэ:

— Трэба мне ехаць до дому.

А ана́ кажэ:

— Будзь осторожны, бо пропадзёш.

— Да я не боюсе.

— Але одда́й мне тое сэрцэ, а я табé дам другое.

Взяла ана́ тое сэрцэ і дала ему́ другое, і шчэ сказала ему́ адно́ слово:

— Андрушко, ці хочэш быць маі́м другом? То будзем жыць на сьвеце — а так ты пропадзёш.

Ён з ра́досьці ўпа́ў на калены і стаў рукі́ ей целова́ць. Ана́ его́ подняла і ў ліцо́ поцэловала і верным дружкком назвала. Дай паехаў ён до дому. Як толькі доехаў до стайні, так зараз коня кінуў, а сам пашоў до маткі і зараз зварыў тое сэрцэ, і ей даў. Ана́ зьела і гаворыць:

— О, цепе́р якбы трохі поздоровела.

— Но, то дзякуй Богу, хоця́ лекарство найшоў.

Назаутра Андрушко забера́ецса ехаць ў лес, а матцэ гаворыць, штобы нідзе́ не выхо́дзіла, бо зноў захварэе.

— Да не! Дзе ж я пайду́! Я рада, што хоця трохі поздоровела. Цепе́р буду седзе́ць у хаце.

Паехаў ён сабе ў лес. А баба не доўго чэка́ючы забра́ласе і пашла́ до Змея на пораду. Прыходзіць — аж Змей такі́й весолый! Дожыдае бабу. Як толькі баба ў хату, закрыча́ў:

— А што, паехаў?

— Паехаў, дай прыехаў наза́д.

— А тое прывёз?

— Але, — кажэ,— прывёз.

Так Змей почу́ў, так і го́лову спусьці́ў, стаў думаць і думаць, што рабі́ць з етым чэлавеком. Наконе́ц ён гаворыць:

— Ідзі́ ты до дому і нагрэ́й баню, а як ён прыдзе́, то попрасі́ его́ з сабою до бані. Як ён там скіне свой по́ясок, то я зараз его́ схвачу́ — дай убьём его́ самі, бо так его́ ніхто́ не ўбье́.

Пашла́ ана́ до дому. Прыходзіць з лесу Андрушко, дай ана́ кажэ:

— От, мой сыночэк, од таго́ лекарства то я трохі поздоровела, але ешчэ, мой сыно́к, пайдзе́м у баню, посьле такой хваробы, то трэба выпа́рыцьса добрэ.

— А добрэ, мамо,— кажэ,—пойдзем — ужэ́ і я даўно́ не па́рыўсе.

Нагрэлі аны́ баню і пашлі́. Андрушко раздзеўсе, і зняў сваго́ по́яска і зложы́ў з адзенем разэм, дай пашо́ў мыцьса. А Змей не доўго чэкаючы подкраўсе, да за по́ясок і в ногі. Дай матка ему́ вы́бегла навстрэчу, і кажэ:

— А што, наш по́ясок.

— А наш,—кажэ.

— Да што нам цепе́р рабі́ць?

— От,—кажэ,— як умы́ецса, то ему́ ўжэ́ будзе слабо. То ты скажы́, штоб уле́з до жэле́знаго куба пополаскацьсе, а як толькі ўлезе, ты зараз опуска́й веко і хвата́й на зашчэпку. То мы его́ там і ўтопім.

Верну́ласе матка ў лазню, аж он кажэ:

— Да што мне якось недобрэ.

— Да ўлезь,— ана́ кажэ,— мой сыно́к, до таго́ куба, да полошчысе, можэ поздаравееш.

Андрушко послухаў маткі, да як толькі ўле́з до таго́ куба, то матка опусьціла веко. А тут і Змей подскочыў. Так Андрушка бачыць, што погано з ім будзе, так взмогсе, да пролома́ў веко і хочэ ву́скочыць, да Змей его́ по го́лове! Так ён упа́ў і засну́ў у том кубе. Аны́ тады́ із ра́досьці обня́лісе і началі цаловацьса. А пато́м сталі думаць, што рабі́ць.

— А што,— кажэ Змей,— зако́пываць его́ не будом, да посадзім его́ на коня, да нехай несе́ куды́ хочэ і куды́ знае.

Вы́нялі его́ з куба і посадзілі на коня, да одумалісе, што его́ конь усё знае.

— Трэба коню очы повыпекаць.

Взялі, дай выпеклі́ коню очы горачым жэлезом, дай пусьцілі ў Божый свет. А самі поехалі до веньца́, і сталі жыць да пожыва́ць, да сваéй не-

сподзеваной сьмерці дожыда́ць. Да Андрушкін конь пашо́ў блудзі́ць по цёмным лесу́, да по чыстом полі, да по шырокім балотам, дай по несхо́дзеным луга́м. Блудзі́ў ён, блудзі́ў, да стаў нюхаць, дай шука́ць дарогі, а наконе́ц ізнюхаў ён сваю́ дарогу і пашо́ў помаленьку. Не так то скоро рабілось, як скоро гаво́рыцьса. Наконе́ц, прыходзіць етый конь до таго́ места, дзе он спотыкнуўсе. Ажно выско́чыла ета красавіца — а як поба́чыла мёртваго Андрушка, так обомлела. А пато́м дошла́ до па́мяці, взяла Андрушка, зняла з коня, дай достала сваю́ воду жывушчу і вы́церла его́. Так ён протворы́ў очы і гаворыць:

— Ах, як я доўго спаў!

— Да ты ўжэ быў заснуўшы на вечнэ часы. Калі б не твой конь, да не я, ты бы і навекі не встаў.

Дай Андрушко прыдумаў сабе́, што з нім сталосе — огледзеўсе на коня — аж его́ конь сьлепый. Так ему́ ета красавіца поцерла очы жывучу вадою, і ён стаў такім, як быў. Дай Андрушко ўсё ей разказа́ў, як було́, а ана́ гаворыць:

— А я ж табе́ казала: будзь асторожны. А ты думаў, што матка твая прыяцелка, ажно ана́ твая ізгу́бніца. А цепе́р ана́ ўж замужэм за тым Змеем.

Дай ён доўго седзе́ў, дай думаў: што тут рабіць? А пато́м надумаўсе не подарова́ць е́таго ні матцэ, ні Змею.

— Поеду, дай познімаю ім го́ловы абоім — а сваго́ не дарую.

— Послуха́й,— кажэ тая дзевіца,— я табе́ дам добрую раду. Я цебе́ зраблю́ птіцой — і ты лецí просто до іх дому і сядзь на самом версе таго́ дзе́рава, што стаі́ць ле ганку, да спева́й ра́знымі голо́самі. Як яны́ почуюць, то захочуць цебе́

поймаць, і Змей зараз полезе на ето дзе́рэво, то ты его́ там зараз і ўбье́ш. А пато́м як і матку ўбьеш, то вазьмі ее́ і зараз на агню́ спаль — і попёл разду́й. А як не спаліш, то погано будзе.

Да ён говорыць:

— Да што я зраблю́, калі ў мене́ нема́ ўжэ́ тако́й сілы, як даўней була́.

А она́ кажэ:

— Не бойсе — е ў мене́ шчэ тое сэрцэ, што ты прывёз — дам табе́ зьесьць.

Зьеў ён тое сэрцэ, да зараз прыбыло ему́ сілы в два разы болей, як уперво було́. А ана́ взяла шклянку ваду́ і обліла его́ — і он зрабіўсе варабьём, дай полецеў просто туду́. Прылецеў ён туду́, сеў на версе́ сосны і стаў спеваць ра́знымі голо́самі. А матка якраз седзела под тым дзерэвом со сваі́м мужэм. Почулі ану́ етый голос і вельмі ім сподобаўсе. Дай ана́ кажэ:

— Як бы нам пойма́ць таго́ варабейка, штобы нам спева́ў у хаце. То було бы добрэ і вэсоло було бы нам.

— То я,— кажэ,— полезу і его́ злоўлю́.

Дай поле́з на дзе́рэво. А ў тую мінуту Андрушко зрабіўсе чэлавеком, дай кажэ:

— Здаро́ў, ба́цейко, даўно́ мы ўж не відзелісе.

І як сьвісну́ў его сваі́м богатырскім кулаком, то Змей упа́ў на землю, і паку́ль долецеў до землі, ужэ́ помёр. А матка як поба́чыла, як леціць ей муж, то і она́ обомлела. Дай Андрушка гаворыць:

— Здарова, матко, даўно́ ўжэ́ мы не відзелісе.

І недоўго чэкаючы зняў ей го́лову з плеч. І зараз поховаў, да на огню́ не спаліў. Вороціўсе ён наза́д до сваей дзе́ўкі, да ана́ его́ разпра́шывае, што? Як? Да ён разка́зуе, што побіў абое, да толькі косьці маткі не спаліў, да так закопа́ў.

— Но, то і будзе беда́. Бо твая́ матка мела ў ёту ноч сына родзіць, то он всё будзе нам шкодзіць. Трэба ізно́ў клопотацьса об етом сыне. Ідзі заутра доведацьса, што там есь?

Назаўтра дзень паехаў ён туды́, одкопаў гроб. Ажно праўда — седзі́ць малады́й Змей, да ў его́ двадцаць гало́ў. Як толькі побачыў Андрушку, зараз закрыча́ў:

— Здаро́ў, Андрушко!

— Здаро́ў, малады́й Змей.

— Да ці будзем біцьса, ці міріцьса?

— Пайдо́м мы на Бог'о́рнейскую гору, да там мы з табо́й погуляем і адзі́н другому подзя́куем.

Пашлі́ аны́ на Бог'о́рнейскую гору, да той Змей взяў Андрушку, дай ударыў об землю, так Андрушка по колена ў землю влеце́ў. То Змей стаў і гледзі́ць. Андрушко оддохну́ў і выле́з із землі́, да як взяў Змея і ўдарыў об землю, так он влеце́ў до палавіны. А цепе́р подско́чыла его́ краса́віца і познімала ему́ ўсе́ го́ловы до адно́й. А самі тогды́ сталі жыць, да пожыва́ць, да добра́ нажыва́ць — і зрабілі веселье, і я там быў, мёд, віно́ піў, по барадзе́ цекло́ і ў рот не попало. І конец цалэй гісторіі.

# *Пан*

Павет Рэчыцкі, вёска Юравічы

Быў сабе́ адзін пан. Вельмі багатый он быў, да вельмі скупый, да перэд смерцю нікаму́ не хаце́ў даць сваі́х грошы, да так сабе́ выдумаў: зэбраў сває́ імперъялы і помеша́ў з маслэм і напотыкаў два гарцы ім-

перъялов — і зараз помёр. Да поховалі его́ в косьцёле. То як толькі его́ поховалі, он зачоў хадзі́ць, да стукаць, да ламаць усё, так што не було́ рады. Так сказалі, што даду́ць пядзеся́т рублёў, калі хто ў косьцёле перэначуе. То як толькі хто пойдзе, то назаутра не будзе жыв — альбо раздзерэ́, альбо повесіць, альбо задушыць, альбо в труну паложыць. Наконе́ц, найшло́сь двох хлопцов малодых, і пашлі́ до косьцёла на ноч. Прышлі́, запалілі две свечкі, поставілі сабе́ стол і на́чалі в карты грацьь. Ажно около поўночы адчыня́ецса склеп і подыма́ецса труна — дай одмыкаецса веко і встае пан. Як аны́ побачылі, што вуходзіць пан, то адзі́н спужаўсе, а другі́й кажэ:

— Не бойсе, да іграймо.

Подышо́ў до іх пан і поглядзе́ў, як аны́ граюць, дай гаворуць:

— Пры́міце і мене́ в карты грацьь.

Тые кажуць:

— Бардзо прошен. Он раз, як толькі сеў, так і проігра́ў аднаго́ імперъяла, дай кашльну́ў, і вылецеў з горла імперъял. І так аны́ вы́ігралі од его́ два гарцы імперъяла. Тады он ім подзя́кова́ў і сказа́ў:

— Цепе́р ужэ́ не буду хадзі́ць, стукаць, дай нікаму́ нічэго робіць — бо тагды́ мене́ на тым сьвеце [не будзе] із грошыма.

І пашо́ў на сва́е место, дай і труна замкнулась і апусьцілась до склепу. А тые хлопцы до дня сабе́ седзелі, дай в карты гралі. Назаутра зобра́лісе людзе ховаць етых хлопцов, ажно аны́ ішчэ по гарцу імперъялов досталі. А пато́м ужэ́ пан ніколі не хадзіў, дай не стучало по косьцёле.

# Купец

Павет Рэчыцкі, вёска Юравічы

Быў сабе адны́й купе́ц. Называўсе он Марко Богаты, і ездзіў з това́рамі по сьвеце. Ехаў он, да заехаў у адно́ село́ прэд ночью, дай про́сіцьса на ноч. Да перэехаў усе́ село́, і ніхто не прымае. Наконец, бачыць у адно́й хатцэ аго́нь гарыць. Дак там стучаецса дай просіць:

— До́брые людзе, пазвольце мне перэночэва́ць.

А господар той кажэ:

— Ні́як не магу́ — мая́ жонка на часа́х — можэ і той ночы породзіць — неможна.

— То хоця́ на подворы пазвольце мне коня поставіць.

— На подворы то можно, а ў хату ні́як не магу́ пусьці́ць.

— Ну, добрэ.

Да Марко выпра́г сваго́ коня, а сам лёг спаць на возе. Ажно чуе голос малаго дзіцятка — і два Я́угалы прылетаюць. А пато́м еты Я́угалы полецелі ў гору і пута́юцса Бога, якое таму́ дзіцяці шчасье даць? А Бог кажэ, што таму́ дзіцяці трэба даць Марко́вое шчасье і богацтво. Дай Марко лежачы ўсё гэто чуў і так сабе думаў:

— Хоця́ Бог так кажэ, да не будзе таго́.

Назаўтра дзень, пашо́ў той господар шука́ць каго́ на кума, да нікого не найшо́ў, дай кажэ до жонкі:

— От, нікого не маю на кума.

А Марко гаворыць:

— Ну, хаціце, то я вам буду за кума.

Аны́ рады — позвалі суседку і понесьлі́ дзі-

ця́ хрэсціць. Дай патóм Марко даў грошы, купілі гарэукі і адпрáвілі хрэсьціны. Да Марко кажэ:

— Падаруйце мне éтого хлóпчыка.

Матка не схацела — але булі вельмі бéдные, так ацéц кажэ:

— Бог з ім! Хоця́ б мы етым толк далі.

Да Марко даў ім трыста рублёў за дзіця, і так аны́ згóдзілісе. Забрáў он éтого хлóпчыка з сабою, вывёз за селó вёрстóў з пяць і кінуў егó в велікій сьнег.

— На табé,— кажэ,— Маркóвое багацтво.

А сам паехаў до дому. Назаўтра дзень, éхалі тудою людзі смолу браць у Марка в заводзе. Бачуць яны́: агóнь на сьнегу гары́ць. Пашлі́ аны́ бліжэй побачыць, што там есь? Аж там гары́ць агóнь і кветкі растýць, і лежы́ць дзіцятко, дай кветкамі забаўляецса. Забралі аны́ éтое дзіця́ і поéхалі по смолу. Прыежаюць до Маркóваго заводу і кажуць: такая, а такая справа. Дай Марко зараз тагó хлóпчыка ўзнаў, дай гаворыць:

— Ведаеце вы што?

— Да што?

— Берыце сабé смолу даром, а мне аддайце тагó хлóпчыка.

Тые подýмалі. Ну, добрэ. Нехáй будзе і так. Набралі сабé смолы, а тое дзіця́ покі́нулі, дай паéхалі. Да Марко недоўго чэкáючы вложы́ў егó ў бочку і пусьціў егó на ноч. Доўго плáвала тая бочка по мору — аж прыплыла ў адно селó. А ў том селé былá цэркóў ле бéрэга і якраз тады́ булó сьвято якоéсь і багато народа собрáлосе. Да аны́ чуюць, што на моры такая мýзыка грае, як ніколі не слухалі. Бачуць — бочка плывé. Так собралісе і тою бочку на берэг утáшчылі. Прыкоцілі её, одбілі — ажно там немá ніякой

му́зыкі, толькі дзіця́ маленькое седзіць. Занеслі его́ до попа́, перэхрэсьцілі і далі ему́ імя́ Знайдзён, дай аста́вілі его́ ў таго́ попа́. Як стаў он росьці — той Знайдзён — так стаў поп богаце́ць. Сам не ве́дае, атку́ль берэцса тое багацтво, дай бедным дае́ і цэркоў уберае, а грошы ўсюды шмат. Ужэ́ не ве́дае, што рабі́ць з тэмі грошыма. А цэрко́ў то так устро́ілі, што аж зо́лото капае — пекнейшэй нема́ на ўсім сьвеце. Почу́ў Марко об той цэркві́, думае: наберу́ товароў і паеду, то там і до цэркві заеду. Прыежае он там і до таго попа́ на ноч заежае. Позна́ў таго́ хло́пчыка, але сам сабе́ не верыць — можэ той, а можэ і не той? Так путае ў попа́, атку́ль гэтый хлопчык? А поп ўсё ему́ і разказаў — от, так і так — найшлі́ его́ ў моры. Да Марко кажэ:

— Ве́даеце, ба́цюшко, што? Прадайце мне таго́ хло́пчыка.

Поп не хаце́ў, кажэ:

— Добрый хлопец — шкода мне е́го аддава́ць.

— Да я вам заплачу́ сколькі хаціце, да аддайце мне его́.

А поп ласы быў на грошы. Оддаў. Дак Марко напісаў пісьмо́ до сває́й жонкі, штоб ана́ таго́ хлопца істра́ціла прэд его́ прыездом, штоб і знаку его́ не було́, і посла́ў хлопца з пісьмо́м. Ідзе́ той Знайдзён, ідзе́ дай ідзе́, ажно спотыкае якогось ста́раго дзеда.

— Дзень добры, дзедку.

— Дзень добры. А куды́ ж ты ідзе́ш?

— А то посылае мне багатый Марко до сває́ жонкі з пісьмо́м.

— А покажы́ мне тое пісьмо́.

— Ой,—кажэ,—дзедку, калі ж мне казаў багатый Марко, штоб я нікому не пока́зываў, а просто до жонкі нёс.

— Але ж покажы́, я табе́ нерушо́ное адда́м.

Як даў ему́ пісьмо́, так той дзед порва́ў на кавалкі і кінуў — а пато́м взяў, напіса́ў ему́ другое і даў, дай гаворыць:

— О цепе́р несі́ тое пісьмо́ і адда́й.

А ў том пісьме́ стаяло, штоб жонка Маркова таго́ Знайдзёна зараз пожэніла со сваю́ дочкой. Як адда́ў он тое пісьмо́, Маркова жонка заду́маласе. Дай нема́ чэго думаць — трэба веселье рабіць. Зараз казала пошы́ць ему́ адзене, і на другі́й дзень пое́халі до шлюбу той Знайдзён з ту дочку. Як толькі аны́ повеньчалісе, ажно прыежае Марко. Гаворыць до жонкі:

— Я ж піса́ў, штоб ты его́ ізгу́біла, а ты его́ з нашу дочку повеньчала.

А ана́ кажэ:

— Нашто ж ты так напіса́ў?

І показуе ему́ тое пісьмо. Прачыта́ў — праўда. Ду́мае он: што тут рабіць, як его́ со света звесьці́? Пашо́ў он у заво́д, дай гаворыць на сваі́х рабо́тніков:

— Заўтра рано, хто бы не прышо́ў на заво́д, то вы его́ берыце і просто до кадзі ў смолу ўкіньце і накрыйце. А можэ он будзе гаворыць, што ето я, багатый Марко, то не слухайце нічого, дай у смолу кідайце.

Ну, добрэ. Да таму́ Знайдзёну сказа́ў, штобы назаўтра ра́ненько пашо́ў у завод работы догледа́ць.

Назаўтра, той маладый хацеў встаць і іці́, дай жонка кажэ:

— Чэго́ ты так зараней пойдзеш? От шчэ поля́ж трохі со мною.

Он послухаў жонкі і лёг пры ей. А Марко думаў, што ўжэ́ нема́ зяця на свеце. Уста́ў і побе́г просто да заводу. А работнікі недоўго чэка́ючы схва-

цілі его́ і просто ў смолу кінулі. Марко крычаў:

— Ето я! То я, Марко, не чэпайце!

Дай аны́ адказалі:

— Нам учора гавары́ў Марко, што хто бы не прышо́ў, не гледзіце, а кідайце ў смолу.

І так Марко згарэ́ў у смоле, а тые сталі жыць, да пожыва́ць, дай добра́ нажыва́ць.

## *Сыны*

Павет Рэчыцкі, вёска Юравічы

Быў сабе́ дзед і баба. Было́ ў іх тры сыны́, двох разумных, а трэці́й дурны́й. Дай вздумаў сабе́ кароль, што хто зробіць летучы карабе́ль, за таго́ сваю дочку адда́сь. Розосла́ў он по ўсі́м сьвеце ве́домосьці об гэтом, да і етый дзед з сынамі почулі, што такая да такая штука е. Да ста́ршые сыны́ кажуць:

— Пайдо́м, ці не зрабі́м мы его́?

І ўбралісе ў дарогу, набралі сабе́ бе́лаго хлеба і віна, і разных додатков, і пашлі́. А той дурны́й доўго седзе́ў, дай думаў: ці ему́ іці́, ці не? І наконе́ц доду́маўсе, штоб пайці́ шчасься спро́боваць. Дай гаворыць до бацькі:

— Пусьціце мене́ — і я пайду́ лету́чаго корабля́ рабі́ць.

— От, лезі́ на печку! Куды́ табе́ шчэ цягацьса дурному! Хіба́ ты пойдзеш людзі смешыць.

— А я, — кажэ,— такі́ пайду́, дай годзі. Дайце мне толькі хлеба на дарогу і адзене бе́лое.

— А як жэ! Зараз! Ідзі́ як стоіш, калі хочэш іці́, а мы табе́ нічого не дадзі́м, бо ў нас нема́.

Дурны́й поседзе́ў, дай подумаў:

— Не, такі пайду́ — што Бог дась, то і будзе.
Дай просіць у бацька:
— Тато, о, тато! Пусьціце мене́ — я пайду́.
— А куды ты, мой сын, пойдзеш?
— Пайду́ корабля́ рабіць.
— А чы ж ты ізробіш?
— Калі Бог дась, то можэ зраблю́.
Доўго его́ не пушчалі, але ён гаворыць:
— Калі вы мне не пусьціце, то я сам уцеку́, а в хаце не буду седзе́ць.

Наконец ста́рые далі ему чо́рнаго хлеба і бутыльку вады́, дай он пашо́ў. Ідзе́ дай ідзе́, дзень, а можэ і два — выйшо́ў на велі́коe поле. Гледзіць — стары́к ідзе́.

— Дзень добры, дзедку.
— Дзень добры, небожэ. А куды́ ж цебе́ Бог несе́?
— От, іду́ ў свет.
— А чэго́ ж ты ідзе́ш у свет?
— Казалі людзе, што каро́ль каза́ў, хто ізробіць летучаго корабля́, то за таго́ сваю́ дочку адда́сь.
— А чы ж ты ізробіш?
— А Бог его́ ве́дае, ці зраблю́, ці не. А пайці́ можна.
— Ну, добрэ. Да сядзьмо, а можэ маеш што есьці, то разэм зьедзі́м.
Да дурны́й кажэ:
— Ой, дзе́духно мой соко́ліку, у мене́ такі́й поганый хлеб, што і стыдно людзям пока́заць.
— Но, дарма́,— дзед кажэ,— быле хлеб.
Зняў дурны́й торбу, развернуу́, дай гледзіць: далі ему́ чо́рнаго хлеба, а тут белы, а в бутыльцэ була́ вода́, а цепе́р віно́. Так ему́ стыд, што дзеда подманіў, да просіць сядаць і кажэ:

— Ото, дзедку, у мене́ быў чорный хлеб і вода́, а цепе́р белый хлеб і віно́. Як гэто зрабілосе?

— От,— кажэ,— што Бог даў, то і ежмо.

Пообе́далі аны́ — дзед подзя́коваў, дай кажэ:

— Куды́ ж ты цепе́р пойдзеш, небожэ?

— А Бог его́ ве́дае, куды́ тут іці́!

— Так я табе́ скажу́, небожэ. Ідзі́ ты просто ў лес, і як толькі прыдзе́ш до пе́ршаго дзе́рэва, то ўды́р тры разы секі́рою ў дзе́рэво, а потэм перэхрэсьцісе і ложысе спаць. А як цебе́ побудзяць, то ўже́ будзе карабе́ль стая́ць. Седа́й і леці, а кого́ на дарозе стрэнеш,то забірай з сабою на карабе́ль.

Он подзя́коваў таму́ дзеду, дай пашо́ў у лес. Як толькі прышо́ў до пе́рваго дзе́рэва, то перэкрэсьціўсе і секну́ў тры разы секі́рою в дзе́рэво — а сам ле́г спаць. Спіць он, спіць — ажно чуе, што хтосьці будзе его́ — подняўсе. Стаі́ць перэд ім карабе́ль. Недоўго чэкаю́чы, сеў он і полецеў. Леці́ць дай леці́ць — ажно бачыць — чэлаве́к скачэ на адно́й нозе. Задзержа́ў он корабля і путаецсе:

— Чэму́ ты на адно́й нозе скачэш?

— А потому́,— кажэ,— што на двох не магу́ помалу іці́. Калі́ б я ту ногу од уха одняў бы, то бы я одразу за сто вёрст скочыў, а якбы постараўсе, то і за двесьце.

— Ну, седа́й со мной.

Ну, добрэ — сеў і полецелі. Леця́ць дай леця́ць — ажно бачуць: чэлаве́к цэ́ліцьса стрэля́ць, а нідзе́ нічого не відно. Задзержылі аны́ корабля́ і путаюць:

— Куды ты цэлішсе, калі нічого не відно?

— Бо я,— кажэ,— за тысячу вёрст забіваю звера.

— Ну, седа́й з намі.

Добрэ — сеў і полецелі. Лецяць дай лецяць — ажно бачуць: лежыць чэлавек на дарозе, прыложыўшы до землі ўхо. Задзержылі аны корабля і путаюць:

— Чэго ты лежыш на землі?

— Я, — кажэ, — слухаю, што на тым сьвеце робіцьса.

— Но, седай з намі.

Добрэ — сеў і полецелі ўжэ у чэтырох. Лецяць дай лецяць — ажно бачуць: чэлавек ідзе і несе мех хлеба. Задзержылі аны корабля і путаюць:

— Куды ты ідзеш?

— А іду,— кажэ,— в село на абед хлеба добываць.

— А ето што ў цебе в меху?

— То,— кажэ,— хлеб.

— Хіба ж табе таго мало?

— Да мне таго хлеба толькі як на адзін раз укусіць.

— Ну, седай з намі.

Добрэ — сеў і полецелі. Лецяць дай лецяць— бачуць: ходзіць чэлавек коло озера. Задзержылі аны корабля, дай путаюць:

— Чэго ты тут ходзіш?

— А я,— кажэ,— ходжу, воды шукаю.

— А нашто табе вода?

— Піць хочу.

— А ето ж озеро маеш.

— Таго озера толькі мне на адзін раз будзе.

— Ну, седай з намі.

Добрэ — сеў і полецелі ўжэ вшэсьцеро. Лецяць дай лецяць — ажно бачуць: ідзе чэлавек у село і несе куль саломы. Задзержылі аны карабель, дай путаюць:

— А куды ты ідзеш?

8 Зак. 2757

— У сeлó,— кажэ,— ідý.

— Да ці ў селé немá саломы, што несёш?

— Е салома ў селé, да не такая. Та салома, як ё разкідáць, то зробіцьса зараз марóз велікій.

— Ну, седáй з намі.

Добрэ — сеў і полецелі. Лецяць дай лецяць. Бачуць: ідзé чэлавéк у лес і несé вязку дроў. Задзержылі карабéль, дай путаюць:

— Куды ты ідзéш?

— У лес,— кажэ,— ідý.

— Да ці ў лесе дроў немá, што несéш?

— Да такíх дроў немá. Тые, як іх разкідаць, то зараз стане вуйско.

— Ну, седáй з намі.

Добрэ — сеў, дай полецелі ўжэ ўдзевяцеро. Лецяць аны просто ў каралёвый дворэц. Ажно карóль быў пры обедзе. Як толькі слугі побáчылі, што леціць карабéль, так зараз доложылі каролю, а ён послáў побачыць, хто там едзе. Аж там едуць усé простые мужыкі. Як гэто каролю сказалі, он вельмі ўдзівіўсе — хто таку штуку зрабіў? Так послáў шчэ побачыць, хто там господарэм на тым кораблю? Аж той господáр шчэ горшый од усíх. Дай скончыў карóль першую потраву і выйшóў побачыць на ганок. Так дурный подышóў, поклоніўсе і кажэ:

— Здарóў, вашэ велíкое государство.

— А што ты хочэш?

— А што? Да карóль казаў ізробіць летýчаго корабля, так я і зрабіў і прыехаў до королá.

— Ну, добрэ, да шчэ гэто не канéц. Пакýль я скончу абедáць, ты мне прынесі вады жывучэй і зрастушчэй — тагды ты будзеш маíм зяцем. А калі не прынесеш, то мой меч, а твая гóлова з плеч.

Дурный пашóў у свой карабéль і гаворыць:

— Кароль казáў, штоб пакýль он абéдае, булá прынесенá вода жывушча і зрастушча.

Да той чэлавéк, што скакаў на аднóй нозе, адвязáў сваю ногу од уха, да як скочы́ў, той пропáў. Немá! Аж тут карóль абéд кончыў, а воды́ немá. Так той, што слухаў лежачы, упáў ухом до землí і почýў, што он спіць под млíном за сто вёрст. Дак той, што стрэляў, ухвацíў свае́ ружьё — як стрэлíў, так просто ў той млін. Той схваціўсе — як скочыў, так одразу ў дварэ́ц каралёвый. Карóль вылазіць з-за столу, ажно подаюць емý воду.

— Ну,—кажэ,— немá што! Зрабíў ты ўсё. Трэба вас цепéр угосьціць.

Дак он казáў зарэзаць сорок пар волóў і дзвесьце пудов хлеба і сто бочэк вінá — на тых вóсьмеро.

— Ну,— кажэ,— я вам даю́ ўгошчэнье — а калі вы тагó ўсегó не поеце, то мой меч, а вашэ гóловы з плеч.

Да етой, што нёс хлеб, і той, што коло óзера хадзíў, як сталі есьць, так ўсё зьелі чысто, і шчэ ім мало булó. Бачыць карóль, што немá што рабіць. Так казаў напаліць лазьню так сільно, штобы можна булó іздалека іспекцісе. Да кажэ карóль на дурного:

— От бачыш, сегодня ідзí ў лазьню, дай выпарысе добрэ.

Добрэ. Пашóў дурны́й у лазьню, да взяў куль саломы з сабою. Як толькі прышóў, так зараз адну жменю кінуў ле лазьні — так невéдомо, дзе той агóнь і подзеўсе. А як выйшóў у лазьню, так стало так, як трэба. Выпáрыўсе он добрэ і адзеваецса. А карóль сабé думаў: цепéр будзе емý канéц, а мне астанецса карабéль. Адчыняе он дзьверы — ажно бачыць, што лазьня халодна,

а он адзева́ецса. Да як той дурны́й вышо́ў з лазьні, так казаў разкідаць по полі тые дровы. Як толькі розкі́далі, стало зараз вуйско. Каро́ль бачыць, што беда́. Так зараз прысылае ему́ адзене сва́е і просіць его́ до двора. Дурны́й вложы́ў адзене і поехаў. Як толькі прыехаў, так каро́ль его́ обня́ў, поцалова́ў і сваі́м зяцем назваў, дай каза́ў, штобы веселье готовалі, а его́ повёў до сваей дочкі. А пато́м зрабілі веселье, і я там быў, мёд-віно́ піў, по барадзе́ цекло́, а ў г'енбе не было.

# *Мужык*

Павет Рэчыцкі, вёска Юравічы

Быў сабе́ адзі́н багаты мужы́к. Такі́й он быў багаты, што і летом, і зімою гумно́ поўно хлеба ў его́. А вельмі быў скупы́й і нікаму́ ані кавалка хлеба не даў. Да як жыто вымолоціў, так зсыпаў у яму — а калі тое жыто ўжэ́ подгніло, тады́ хлеб пёк — дай чэго́ сам не зьеў, то ў полі вы́кінуў, а нікому́ не даў. Раз до таго́ господара заходзіць дзед, і про́сіцьса на ноч. Дай он гаворыць:

— Калі мне заўтра две копе жыта вымалоціш, то можэш перэночэва́ць:

— Добрэ,— дзед кажэ,— толькі штобы ты тады́ не прыходзіў у гумно́.

Ну, добрэ. Улёз той у хату, ажно аны́ вечэ́раюць — да его́ не просяць. Сеў ён у ку́точку і гледзі́ць. Да як ко́ньчылі самі́ вечэраць, то што не доелі дзеці, то ему́ подалі. Ну, нішто́! Подзя́каваў і за ето і лёг спаць. Назаўтра дзень, гаворыць дзед:

— Хадзём у гумнó, то я табé вымолочу за ночлег.

Пашлí аны́ ў гумнó, той господáр одлíчыў емý две копé жыта, он замкнуўсе і молоціць. Да той цекавый быў хоця́ побачыць, што дзед робіць. Да стаў і церэз дзірку подгледае. А дзед взяў дай запаліў жыто на току, а сам ходзіць наоколо да подворóчывае егó і кажэ сам сабé:

— Гоц, гоц, гоц!

Дай вымолоціў тое жыто так добрэ, што жыто особно, і салома особно, і мякіна особно. Дай шчэ за ночлег подзя́коваў і пашóў. А той господар як побачыў, што дзед так молоціў, так выйшóў на вýліцу, і гаворыць до свагó побрацімца:

— От, як я ўмею малоціць!

— А як жэ ты, — кажэ,— умееш?

— Гэй, калі б ты бачыў! Не поверыш, як я скажý. От, хадзíм у гумнó, то я табé покажý.

Пашлі аны́ ў гумнó, наскідалі жыта на ток, запалілі і сталі гаворыць, як той дзед:

— Гоц, гоц, гоц!

А агóнь стаў разгáрывацьса і зрабілосе горачо ў гумне, то аны́ вышлí на двуор, да ўсё кажуць:

— Гоц, гоц, гоц!

Ужэ́ стала крыша загáрывацьса, а аны́ не старáюцса, штоб потушыць, а шчэ подворóчываюць. Да ўсё гумнó загарэло. Так аны́ бачуць, што погано — нáчалі тушыць і крычáць — ажно і хлёў заняўсе. Так і кілька домов і хлевоў спалілосе. Тады́ аны́ познаді, што гэто не дзед быў, а сам Господ. Дак тамý господару астáлосе толькі то жыто, што булó ў ямах, і саўсíм збеднéў. Як напеклí хлеба з тагó жыта, он взяў хлеб кроіць і гаворыць до сваíх дзецéй:

— Ежце, маé дзеткі, хлеб потрошку, бо цепéр вельмі дарогій.

Дай хлеб выпаў із рук, а нож ему́ ў жыво́т, і кішкі выпалі на стол. Дай дзеці аста́лісе сіротамі.

## *Казак*

Павет Рэчыцкі, вёска Юравічы

Быў сабе́ ў аднаго́ пана коза́к. Таго́ козака посылалі то з пісьмамі, то з грошыма. Ехаў он раз з пісьмо́м, аж тут ужэ́ позно зрабілосе, ноч запала. Ду́мае он: штобы мне як до села́ доехаць! Да дзе на ноч попро́сіцьса. Да прыежае он у адно́ село́, да ўсюды агні́ потушоны. Спяць ужэ́. Толькі ў адно́й хатцэ, бачыць — аго́нь гары́ць. Ну, добрэ. Заежае он до тое хаткі, да конь его́ захрапе́ў. Да што рабі́ць. Трэба куды́ заехаць на ноч. Злез он з коня́, прывяза́ў у плоці, да входзіць до хаты. Входзіць он, ажно лежы́ць мёртвы чэлаве́к. Он перэкрэсьціўсе, аж той мёртве́ц устае́ і берэ́ его́ за руку і гаворыць:

— Стой, чэго́ ты ўцекаеш? Неможна мене́ аднаго́ аставіць, вернісе наза́д, не бойсе.

Коза́к спужаўсе, але што рабі́ць — ідзе́ за ім до хаты. А той мёртве́ц доста́ў із печы мясо печо́ное і хлеба прынёс, дай поставіў на столе́ і просіць вечэраць. Козаку не хо́чэцса есьці, да што рабі́ць — нема́ рады. Повечэ́ралі разэм, да той мёртве́ц кажэ:

— А можэ ты піва выпьеш?

— Ой, нашто нам,— кажэ,— тое піво! Мы сабе́ трохі поговоры́м, да больш нічого не трэба.

— Не, такі, пойдзем по піво.

Да берэ́ ведро́ і кажэ:

— Хадзім.

А козаку не хочэцса таго піва, а боіцса таго мёртвеца. Пашлі аны на вуліцу, да до адной хаты подошлі под акно, аж тут он упаў. Козак его подняў, і пашлі под другую хату — да і там он упаў. Дай пашлі под трэцю хату — да і там он упаў. Дай прышлі под чэцьвёрту хату, і он полёз в акно. А патом улёз назад, дай несе поўнае ведро кроҷі, дай гаворыць:

— О, цепер будзе ў нас што піць.

Пашлі аны до хаты. Да козак кажэ:

— Трэба мне побачыць маго коня — ці не ўцёк.

— Да куды ж он пойдзе атсюль!

Да як подошлі до коня, то он начаў рвацьсе да бунтовацьсе, а той мёртвец кажэ:

— Але ж ты поганаго маеш коня.

— Да не поганый — толькі пужлівый вельмі,— ён кажэ.

Да той мёртвец хочэ іці до хаты піво піць, а козак осягаецса, думае: можэ пеўні засьпеваюць. Да нема рады — пашлі ў хату, да той взяў кружку, налію гэтой крові, выпію — а патом ему наліў і дае ему. А он взяў і поставіў на стол, дай кажэ:

— Я патом выпью.

А сам шукае якогось разгавора, пакуль пеўні не засьпеваюць. Дай кажэ:

— Почэму вы ўпалі перэд первым акном?

— А то,—кажэ той,—потаму, што ў таго господара чорный кот е — то мне там неможна хадзіць.

— А под другім акном чэго вы ўпалі?

— А ў таго господара чорный пес е — то мне неможна хадзіць.

— А под трэцім?

— А ў таго господара чорны вол е — то мне такжэ неможна хадзіць.

— А ў чэцьвёртэ чэму полезлі?

— Бо там нема́ нічого чо́рнаго — то мне хадзіць можна.

— Так скажыце вы мне, якого то вы набралі піва?

— Да гэто піво з чэлавечэй крові.

— Да як жэ вы его́ моглі набра́ць?

— Як жэ! Дай аны́ ўсе́ спалі, так я прышо́ў і повысмо́ктываў з іх кроў.

— Тож аны́ цепе́р нежы́вые.

— Але,—кажэ,— нежы́вые.

— Да як жэ іх можна оджыві́ць?

— А так іх можна оджыві́ць — у мене́ ў клеці е зако́паных две бутэлькі — адна чырвона, а другая бе́лая. Так тые бутэлькі доста́ць і з чырвоной помазаць мушчы́ну, а з белой жэншчыну, то аны́ повставаюць.

Да ізно́ў он сабе́ таго́ піва налі́ў і козаку такжэ налі́ў — дай коза́к гаворыць:

— Неха́й пастоіць, пайду́ я сваго́ коня побачу.

— Да выпі́й уперо́д піво, да пато́м пойдзеш.

— Ай, не,— кажэ,— трэба первей пайці.

— Ну, так хадзі́м разом.

— Ну, добрэ.

— Да разчыньмо аго́нь, то я табе́ покажу́ свае́ дабро, што е ў мене́.

Запалілі аны́ аго́нь, дай пашлі́ до клеці. А там бочкі стая́ць, поўню́сенько насы́паны. Угледзелі аны́ тые бочкі, аж подходзяць до адно́й догоры дном перэве́рнутой, дай подня́ў ё той мёртве́ц і вуцягае атту́ль авечью шкуру поўную грошы, са́мого зо́лота. Погледзелі аны́ на тое зо́лото,

дай усу́нулі наза́д, і пашлі́ до хаты. Да той мёртвец і́зноў ему́ тое крові налевае, да он кажэ:

— Неха́й пастоі́ць, я пато́м выпью́.

І думае сабе́:

— Кабы ўжэ́ хутчэй пеўні заспевалі!

Дай путае таго́ мёртвеца́:

— А вы ўжэ́ даўно так лежыце ўмёршы?

— А ўжэ́, —кажэ,— два годы як я памёр.

— А почэму́ вы тут лежыце?

— А патаму́, што мне не могуць поховаць, бо я колісь быў велікім знахаром, і цепе́р ніхто не можэ до мене́ доступіцьса. Кабы́ хто ведаў, як тое зрабі́ць, то можна бы мене́ поховаць — да ніхто́ не ве́дае.

— А як жэ тое зрабі́ць?

— А так. Трэба пошукаць дзе асіно́ваго аднолетка і зрабі́ць з его кол войстры. А з асіны трэба зрабіць крыж. І тады той крыж мо́гуць несьць толькі недоросткі і толькі аны́ могуць вайці́ в маю́ хату — і то так, штобы крыж упeróд, а за ім гэ́тые ўсе́. Да трэба мне гэтым асіновым колом прабі́ць грудзь навылёт — то я тады́ магу́ саўсі́м померці — а то іначэй нія́к не магу́. І тады́ можна будзе мене́ поховаць. Аны бы даўно́ так зрабілі, кабы ве́далі, бо я ўжэ́ ім багато шкоды нарабіў за тые два годы, бо я часто хадзі́ў по піво...

Да толькі он то сказа́ў і хацеў шчэ таго́ піва піць, аж тут піу́нь: какарэку. То он як бы не быў — упа́ў на свае́ место мёртвый — як бы неправда, што он хадзі́ў і гаворыў. Да коза́к вышо́ў на двуор і лёг ле коня́. А назаутра дзень, устае он — бачыць усё позарастало, хата мохом обросла, да і клецьу моху. Вышо́ў он на се́лішчэ — да було́ трохі людзі на ву́ліцы, то попужалісе — ду́малі, што можэ мёртве́ц ідзе́. Дава́й

Уцекáць! Да он як стаў на іх гукаць, дай анú почулі людзкій голос, то сунялісе і самі не вéдаюць, што ім рабíць. Аж побачылі, што якісь чужый чэлавéк, да сталі путацьса. А он ім усё разказáў.

— Да, — кажуць,— шчасье твае́, што жыв астаўсе. Бо он багато людзéй погубíў.

Анú так розмоўляюць, ажно бегу́ць з тагó конца, у который хадзíў козáк з знахором. Прыбегаюць з плачэм.

— От, братцы,— кажуць,— пропалі мы саўсім! Сей ночы пóмерла ўся́ семья́ до аднóй душы!

А той козáк кажэ:

— А што вы мне даце, калі я іх вам аджывлю і вáшэго знахора поховаю на вéчные часы, што ўжэ́ хадзіць ніколі не будзе.

Людзі, як гэто почулі, то аж до ног попадалі ему́ і давай егó прасíць:

— Берú сабé ў нас, што захочэш, толькі так зрабі.

А он кажэ:

— Ну, добрэ. Ідзецé вы ў лес і пошукайце асíноваго аднолетка.

Зараз анú побеглí і прынесьлí ту асіну, і зрабілі крыж і кол войстрый. Да позвалі попа і собралі недоросткоў, і далі ім крыж несьцí. А козáк взяў кол і шоў упéрэдзі. Як толькі прышлí ў хату, ажно подымáецса той знахор і крыкну́ў. А тут і крэст у хату — так он і ўпáў. Да стаў поп чытáць, а козáк стаў егó пробівáць. То он так крычáў рáзнымі голóсамі і по-чэлавечы, і по-конскі, і по-собачы, а наконéц, закрычáў такім гóлосом, што ніхтó такого гóлоса не чуў. Да прабілі ему́ грудзь, дай вúнесьлі, наклалі огня́ і спалілі, дай попёў раздулі. Да патóм пашлí ў егó клець і одкопалі тые две бутэлькі, дай пашлí туды́, дзе былі помершы, і посмаровалі іх

гэтым лекарством. То аны́ повставалі і гаворацць:

— Ах, як мы доўго спалі!

А коза́к гаворыць:

— Да вы былі заснуўшы навекі, кабы не я.

Да аны́ сталі его́ цалова́ць і абдыма́ць. Дай надовалі таму́ козаку грошы сколькі он схацеў. А он вздумаў на тую шкуру авечью, што бачыў у клеці. Так пашо́ў у гэту клець, доста́ў ту шкуру, дай забра́ў усё зо́лото і паехаў до дому. А тые зосталісе ў сваём селе́ спокойно жыць, дай пожыва́ць, дай добра́ нажыва́ць.

# Салдат

Павет Рэчыцкі, вёска Юравічы

Быў сабе́ чэлаве́к. Дай он велікій знахор быў. Було́ ў его́ тры сыны́: два ста́ршые пожэнілісе, а найме́ньшаго взялі ў солдаты. Да той чэлаве́к прэд сьмерцю прыказа́ў сваі́м сыном, штобы ему́ каждой ночы была́ ўпечона цэлая карова і две печывы хлеба. Взяў он дай помёр. Так тые сыны́ ка́ждаго дня рэ́залі карову альбо вола́ і пеклі хлеб. Наконе́ц дожылісе да таго́, што зарэ́залі оста́тнего вола́, а назаўтра осталосе толькі адно́ целя́, і на таго́ ўжэ́ нож быў прыгото́ваны. Да і ночэва́ць у сває́й хаце е́тые сыны́ не маглі́, бо ўночы прыходзі́ў бацько і еў. Так аны́ на ноч до суседа про́сілісь, а ў хаце нікого не було́.

Ажно раз той сын, што быў солдатом, вороціўсе із вуйска і прыходзіць до дому. Дай опозніўсе на дарозе, і прыходзіць до села́, аж агні́ поту́шэны, толькі ў іх хаце аго́нь гары́ць. Прыходзіць он у хату, аж бацько седзіць за столом і вечэрае.

— Здаро́ў,— кажэ,— ацéц родно́й!

— А здаро́ў, мой сыно́к. Як цебé Бог сюды́ прынёс, і як тваé здаровье?

Да просіць вечэраць із ім — і вынімае з печы волову печэню і хлеба булэк две, і кладзе на стол. Да паку́ль той солдат аглянуўсе, то ўж нема́ нічого на столé. Да путае солдат:

— А дзе ж ето маé браты, што іх нема́ ў хаце?

— От, пашлі́ до суседа на ноч — захацéлосе ім.

Ну, добрэ. Да той бацько гаворыць:

— Ты ж, мой сыно́к, ложысе і спі, а я шчэ нескоро лягу.

Дай солда́т лёг сабé і засну́ў. Назаўтра рано повставалі і прыходзяць его́ браты́. Адчыняюць дзьверы, ажно чэлавéк лежы́ць на лауцэ. Попужалісе трохі — да бачуць, што не бацько, а солда́т — да кіну́лісе к ему́, дай его сталі цалова́ць. І путаюць:

— Што ты ўчора бачыў в нашэй хаце?

— Нічого,— кажэ,— я не бачыў. Позно прышо́ў, да із вас нікого не було́, толькі бацько вечэраў, да і мне вечэраць просіў. А пато́м я лёг спаць.

— А з кім бацько вечэраў?

— Да я нікого не віда́ў.

Да тые браця гавораць:

— Ты ж не вéдаеш, што наш ацéц ужэ́ месяц як памёр.

— То он померشы?

— Алé,— кажуць,— помершы.

То солда́т той зрабіўсе як нежывы і рукі опусьціў. А пато́м кажэ:

— Так чэго́ ж он ходзіць по сьвеце?

— Да мы не вéдаем, чэго́ он ходзіць. Нехай бы уж і хадзі́ў сабé, да хоця бы не еў. А то он

усю нашу худобу поеў — мы церэз его ўжэ саўсім збеднелі.

— Да як жэ гэто?

— А так — як уміраў, то прыказаў нам, штобы ему каждое ночы ўпекці вола і печыво хлеба, дай прыходзіць і ўсе тое поедае до чыста.

Да солдат подумаў і гаворыць:

— Но, на ету ноч не трэба нічого ані пекці ані варыць — ужэ я ему дам рады.

Тые браты хацелі остатню целіцу зарэзаць, да он не позволіў.

— Не бойцесе — ужэ я тут з ім спраўлюсе — а вам не будзе беды.

Так аны пашлі до суседа на ноч, а солдат аставіў сабе братнего хлопчыка і чэкае. Ажно около поўночы прыходзіць той небошчык, і зараз ідзе до печы. Побачыў — нема нічого. На стол поглядзеў — нема нічого. А солдат путае:

— А што вам трэба?

— Да мне,— кажэ,— трэба печоный вол і печэнье хлеба.

— Нема тут ані вола, ані хлеба — і ніколі ўж не будзе. А вы тут не хадзіце большэй.

Да той небошчык постаяў, подумаў, дай кажэ:

— Ведаеш што, мой сынок, хадзім мы на веселье.

Солдат встаў, адзеўсе і пашлі. Прышлі на тое веселье, так зараз таго солдата познаді і сталі его ўгошчаць. То як настаўляюць на стол усего, то так у адну мінуту неведомо, дзе то подзелосе. А его бацько стаіць ў парозі, да гэто ўсё прыберае. А патом кажэ до сына:

— Пайдзем мы ўжэ до дому — ужэ нам пора.

Вышлі аны на вуліцу, то той ацец кажэ:

— А ведаеш ты што?

— А што?

— Да гэ́тые маладые ўжэ́ нежы́вые.

То сын стаў і погледае, да говорыць:

— Чэму́ ж так?

— А потаму́, што я із іх кроў повысмо́ктываў.

— То ўж іх і оджывіць неможна?

— Да чэму́ ж неможна? Можна. Да такі́м способом: у таго́ чэлавека есь чо́рная карова, і ана́ цепе́р цельна, і ў тое каровы двое целя́т е — бычэк і цялушка. Так узя́ць ту карову, зарэзаць, і доста́ць тые целята, поразрэзаць, выняць іх сэрца, і із сэрца целіцы помазаць кроўю маладую, а із сэрца бычка — маладого — то аны́ аджыву́ць.

— Ну, добрэ. А чэм жэ вас можна ўбі́ць?

— А мне іначэй неможна ўбі́ць, як гэтым колом, што адзі́н кане́ц ў землі́ согніе́, а пато́м перэверну́ць его́ другі́м концом. Альбо такую осю, што сама́ на роўнэй дарозе адпадзе́. То тым.

Да як толькі он кончы́ў ето гаворыць, аж тут пеўні засьпевалі, і он зараз пашо́ў на свае́ место, якы его́ не було́. А солда́т пашо́ў до хаты. Да бачыць он, што той хлопчык не ру́шыцьса. Да кінуўсе до жыл, аж жылы позамералі. Но, нема́ што рабі́ць, трэба дня дожыдацьса. Так он лёг на лаўцэ і заснуў. Назаўтра рано попрыхо́дзілі его́ браты. Ажно солда́т спіць, але хлопчык лежы́ць мёртвый — уж і холод ад его́ ідзе́. Так аны́ ў голос, у плач — а солда́т гаворыць:

— Не чэпайце, не рушце — будзе жыв.

Так аны́ его́ не чэпалі, толькі накрылі і аста́вілі — неха́й лежы́ць. А солда́т адзеўсе і пашо́ў проверыць, ці маладые по́мерлі, ці не. Прыходзіць до тое хаты, аж там не веселье ўжэ́, а трэба магілу гатовіць на ве́чные часы. Да той солда́т гаворыць:

— Не бо́йцесе — аны́ будуць жывы́.

То аны́ як тое почулі, то ўж не ве́далі, дзе его́ посадзіць.

А о́н кажэ:

— У вас е чо́рная карова?

— Е,— кажуць.

— Так ё трэба зарэзаць.

Пашлі́ аны́ за хлёў, зарэ́залі карову і досталі тые целята, а пато́м порэ́залі тые целята і подоставалі з іх сэрца і помазалі малады́х. То аны́ зара́з і повставалі. Так аны́ пашлі́ і помазалі таго́ хло́пчыка, і он такжэ встаў.

— Ну, добрэ, — солда́т кажэ, — а цепе́р ве́даеце што?

— А што?

— Пошукайце мне кола перэверэтма.

Найшлі́ аны́ кола, і прынесьлі́. Тады́ солда́т позва́ў попа́ і людзі собра́ў, і пашлі́ аны́ на могілкі. Прыходзяць аны́ до его́ могілы, ажно бачуць печора ў землі́. Так аны́ розкопалі могілу і досталі труну і ўця́гнулі із ямы. Одкрылі ту труну, аж он лежыць галаво́й вдол. Так перэвернулі его́, так як повінен быць, і перэбілі гэтым колом, і закопалі на вечные часы. А самі́ ўжэ́ жылі сабе́ спокойно.

## *Царскі сын*

Павет Рэчыцкі, вёска Ужынец

Жыў сабе́ чэлаве́к — і по́мерла жонка его́. Аста́віла ана́ ему́ две дочкі́. Дай он з друго́й ажэніўсе. Ета жонка другая не хочэ з ім жыць да за етых дзеце́й. Гаворыць:

— Калі ты е́тые дзеўкі дзе́-лібо подзенеш, так буду з табо́й жыць, а так не хочу.

От, он іх взяў, побра́ў на ноч, кажэ:

— Пойдом у лес, вы бу́дзеце я́годы брацъ, а я дроў насеку́, дай вы шчэпкі позбера́еце.

Взяў он е́тые дзеўкі, посаджа́ў, дай павёз. Завёз у лес.

— Зберайце тые я́годы, а я пайду́ недалечко, дроў насеку́.

Сталі ань́і я́годы брацъ, а он пашо́ў, пашо́ў, дай іх покінуў. А сам паехаў до дому. Аны́ збералі, збералі — пато́м агледзе́лісе — нема́ бацькі. Гукалі, шукалі, наконе́ц поселі коле берозкі, дай плачуць. Пла́калі аны́, пла́калі — аж пашла́ з слёз рэка́ — і пашла́ под царскі двор́эц. Царскі сын вушо́ў дай глядзіць:

— Атку́ль ета рэка́ взяласе? То не було́, а то стала рэка́!

От, ён казаў гіляру выстроіць, сеў і паехаў побачыць, атку́ль рэка́ взяласе. Прыежае — бачыць: дзе́вочкі две седзя́ць под беро́зою і плачуць. От, он забра́ў тые дзе́вочкі на ту гіляру, павёз ў свой двар́эц і казаў зрабіць такую ізбу, штобы не ба́чылі нікого, ні людзі, ні соўнца — толькі наня́ў гувэрнэроў, штобы іх поучалі і доглядалі, паку́ль аны́ не вы́ростуць. Ужэ́ аны́ повыросталі — от етый царскі сын ве́чэром пашо́ў под іх акно́ і стаў слухаць, што аны́ гаворацъ. Больша гаворыць:

— От, мая́ сестра́, кабы мне взяў царскі сын за себе́, я б ему́ зрабіла вуйско із ружьём із усім больш як он бачыў.

А меньша гаворыць:

— От, кабы мне взяў царскі сын за себе́, то бы я ему́ ро́дзіла дванадцаць сыно́ў як колосо́ў, в лобе месяц, в потыліцы звезда́, по локце ў зо́лоце, а по колена ў срыбром.

Ца́рскому сыну́ не сподоба́лосе вуйско, а спо-

добáлісе сыны́. Взяў і ажэніўсе з меньшой. Да старшэй сестрыцы купіў он на шляху карчомку, посадзіў, штобы тарговала дай сабé жылá. Жывýць аны́, жывýць, дай убраўсе царскі сын у другое панство і покінуў еé, жонку, брэменну. От, анá і обродзíласе і якраз родзіла дванадцаць сынóў як колосóў, в лобе месяц, в потыліцы звездá, по локце ў зóлоце, а по колена ў срыбром. Етый цар, ацéц егó, вельмі рад, што такіе дзеці породзілісе. А не буló тагды́ гэтых талягрáм, машы́н — а дась камý пісьмó — несé. Да і той ацéц назначыў солдáціка до пісьмá і послаў свамý сыну. От, етый солдацік ізнóў да зайшóў у карчомку, дзе тая больша сестрá тарговала. Анá ж разпыталасе, да зачэла егó поіць, трактовáць — он напіўсе і заснуў. Так анá ўбрала конвéрт, разпечáтала, пісьмó прачытала і напісала другое: што твая́ жонка дванадцаць шчэня́т рóдзіла, і ўсé мýрзікі. Солдацік проспаўсе і пашóў. Царскі сын прачытáў дай удзівіўсе. Думае: што ето значыць? І напісаў: до магó прыезду, штоб іх не траціць. Пашóў солдацік назáд — зайшóў ізнóў у тою карчомку. Анá егó напóіла, потрахтовала, дай он заснýў. Анá взяла пісьмó, разпечáтала і другое напісала: штоб іх, етых шчэнёнок, потраціць до магó прыезду. Дармá што сестрá! Прыходзіць солдацік до цáрскага атцá. Дýмае он:

— Шкода іх траціць. Але сын так схацеў — трэба.

Зрабілі гіляру, посадзілі адзінадцаць і пусьцілі на морэ. А дванадцатаго — зрабілі бочку, абілі жэлезнымі обручамі, посадзілі матку і егó і такжэ пусьцілі на морэ. Аны́ поплынулі. Етые адзінадцаць Змей забраў іх к сабé. А дванадцатый з маткой плыў, плыў, пакýль не вырóс. Да вельмі сілен быў. Прыперла іх водá на таку

выспу, да ў велікі лес. Як оперсе ногамі, так абручы́ полопалісе і вылёз он з маткой на ту выспу. Пастро́ілі аны́ сабе́ домо́к і жыву́ць. Ажо́сь едуць купцы́ кораблямі і бачуць, што на выспе не було́ нічого, а тут домо́к стаі́ць. Астановілісе і пашлі́ ў той домо́к погледзе́ць — хто тут домо́к построіў. Аны́ прышлі́, поздороулялісе, он іх почástоваў — дай пое́халі ў тое царство, дзе аце́ц его́ царствоваў. Да той аце́ц, по страценю жонкі і сыно́ў ажэніўсе з ее́ сестрыцу, дай жыву́ць. А он, як тые купцы́ вые́халі, скінуўсе галубцо́м і полецеў за імі: што будзе его́ аце́ц гавары́ць з купцамі? Прыежаюць купцы́, таргуюць, да той аце́ц путае:

— Паны купцы́, вы по сьвеце е́зьдзілі, много ба́чылі, ці не відалі якого дзіва?

Да аны́ гаворацць:

— Вашэ Імператорске Велі́чэство, мы по сьвеце е́зьдзілі, много ба́чылі — да такого дзіва шчэ не відалі. На тако́м то моры, на тако́й выспе, стаі́ць домо́к красівы важно, а ў том домку жыве́ матка з сыном. Да мы такі́х людзі не відалі: у его́ в лобе месяц, в потыліцы звезда́, по локце ў зо́лоце, а по колена ў срыбром.

Выслухаў ето той цар — да жонка, цётка іх, кажэ:

— Якое ето дзіво! От важнейшэ дзіво: не в нашэм царстве, не в нашэм государстве, на тако́м то моры, на тако́й то выспе, стаі́ць явор, на том я́ворэ седзі́ць кукаука — як кукне, так солдата з ружьём выкукне — дай стано́віцьса.

А он тое выслуха́ў — подняўсе, і полецеў шукаць тое кукаукі.

І трапіў, дай схваці́ў ее́ і прыташчыў у свой домо́к і посадзіў на яворэ. Цепе́р едуць другіе купцы, да зае́халі до таго́ домку. Он запра́шывае

іх, частуе, да поехалі ў тое царство, дзе ацéц его царствоваў. А он, як тые купцы поехалі, скінуўсе галубцóм і полецеў за імі: што будзе егó ацéц гаварыць з купцамі? Прыежаюць купцы, таргуюць — да той ацéц путае:

— Паны́ купцы́, вы по сьвеце éзьдзілі, много бáчылі, ці не відалі якого дзіва?

Да аны́ гаворяць:

— Вашэ Імператорске Велíчэство, мы по сьвеце éзьдзілі, много бáчылі, да такого дзіва мы шчэ не відалі: на такóм то моры, на такóй то выспе, стаíць домóк красівы важно, а ў том домку жывé матка з сынóм, а ў тагó сынá в лобе месяц, а в потыліцы звездá, по локце ў зóлоце, а по колена ў срыбром. А перэд домком стаíць явор, а на том я́ворэ седзíць кукаука, а як кукне, так солдата з ружьём выкукне, да і становіцьса.

Анá зноў, тая цётка, подхвáтывае:

— Якое то дзіво! От важнейшэ дзіво: не в нашэм царстве, не в нашэм государстве, на такóм то моры, на такóй то выспе, есь кабáн, што лычэм орэ, а ўхом сее, а хвастом скородзіць, а ўсьлед за ім жыто родзіць.

От, он тое выслухаў — подняўсе і полецеў кабанá шукáць. І трапіў, і схваціў его і прыташчыў у свой домóк. Да едуць трэ́ціе купцы́, да заéхалі до тагó домку. Он запрáшывае іх — пашлí к емý. Поздоровілісе, он іх почастовáў, дай паéхалі ў то царство, дзе ацéц егó царствовáў. А он, як гэ́тые купцы́ паéхалі, скінуўсе галубцóм і палецеў за імі: што будзе егó ацéц гаварыць з купцамі? Прыежаюць купцы́, таргуюць — да той ацéц путае:

— Паны́ купцы́, вы по сьвеце éзьдзілі, много бáчылі — ці не відалі якого дзіва?

Да аны́ гаворяць:

— Вашэ Імператорске Велічэство, мы по сьвеце е́зьдзілі, много ба́чылі, да такого дзіва шчэ не відалі: на тако́м то моры, на тако́й то выспе, стаíць домо́к красівы важно, а ў том домку́ жыве́ матка з сыно́м, а ў таго́ сына́ в лобе месяц, а в потыліцы звезда́, по локці ў зо́лоце, а по колена́ ў срыбром. А перэд домком стаíць явор, а на тым я́ворэ седзíць кукаўка, а як кукне, так солдата з ружьём выкукне, да і стано́віцьса. А есь там шчэ каба́н, што лычэм орэ, а ўхом сее, а хвостом скородзіць, а ўсьлед за ім жыто родзіць.

Так яна́, тая цётка, подхва́тывае:

— Якое ето дзіво! От важнейшэ дзіво: не в нашэм царстве, не в нашэм государстве, на тако́м то моры, на тако́й то выспе, вылетаюць адзінадцаць братцо́ў, хусту разцелаюць і в карты іграюць.

Як он тое выслухаў, подняўсе і полецеў браці сваіх шука́ць. Дай он ведаў од маткі, як гэто з німі зрабілі. Натрапіў на сваíх браці. Хусту разцелалі і в карты ігралі — между німі он двана́дцатый упа́ў. Аны́ не магу́ць адзíн другого ўзна́ць, бо ў іх голос у голос, і ліцо́ ў ліцо́. Гулялі яны́, гулялі — да той гаворыць:

— Годзí ўжэ́, братцы́, гуля́ць, трэба нам леце́ць до маткі.

А Змей іх ма́ленькіх забра́ў — так аны́ не помняць маці, а его́ за бацька маюць. Так сталі спорыць — не хочуць лецíць до маткі, да хочуць до Змея. Дай кажуць:

— Поляжэм спаць, куды́ головамі, туды́ подо́ймімсе і палецім.

Полеглí аны́ спаць — да таго́ сон не берэ́. Да бачыць — аны́ лежа́ць усе́ го́лову в сто́рону, дзе Змей жыве́. Так он взяў і позаворочаў іх. Яны́ проснулісе, всталі, дай полецелі ў той домо́к,

што он построіў, дзе маць іх жыве. Жыву́ць аны́ дай жыву́ць. І кукаўка ў іх кукае да кукае, і вуйска больш накукала як у іх атца́. Да яны́ пішуць до атца́, штобы он сеў на гіляру і прыехаў до іх на бал, а есьлі не прыедзе, то зробім батэрые і завоюем усе царство. Бачыць цар, што не жарты, што аны́ хочуць воёва́ць. Зрабілі гіляру, сеў з жонкой і едзе на ету выспу. Аны́ вышлі до бацькі, склонілісе. Пробылі аны́ там і справу разберал і. Да ту цётку в бочку замкнулі, жалё́знымі абру́чамі обілі, і на морэ пусьцілі — дай ана́ і до сегоня́ плыве. А аны́ з маткой вороцілісе до царства ацё́цкаго, і до сегоня́ царствуюць.

## Чалавек, мядзведзь, воўк і лось

Павет Рэчыцкі, вёска Ужынец

Пашо́ў чэлаве́к у лес до ўлі. Ажо́сь іду́ць медзьве́дзь, лось і воўк. Гаворацць:

— Хадзі́м, чэлавека ўбьём.

А воук кажэ:

— Ой, не ідзеце́, он сваі́м розумом нас усі́х перэведзе́.

Не перэспорыў іх. Кажуць:

— Неха́й он нам покажэ свой розум.

Прыходзяць к чэлавеку, кажуць:

— Чэлавечэ, покажы́ нам свой розум, а не, то мы цебе́ зьедзі́м.

— Добрэ,—кажэ,— да мой розум астаўсе в дому — каторы пойдзе со мно́й прынесьці?

Меркуюць аны́ самі, като́рому іці́ по розум.

— Ідзі́ ты, медзьве́дзь.

— Ей, не, я веліка штука — і сабакі і ўсе побачуць. Трэба лося посла́ць.

— Дай і я жэ веліка штука — будуць тыкаць на мене́. От ты, воўк, усюды коле села́ ценькамі прыдзе́ш і ніхто не побачыць.

Пашо́ў воўк з ім. Прышлі́ до хаты — взяў чэлаве́к жарніцу, зачэпіў воўку на шыю, дай кажэ:

— Ото мой розум — несі́.

Іду́ць наза́д до лесу́. Іду́ць, аж чэрэз речэньку кладка. Воўк ідзе́, да камень водзіць его́ туды́-сюды́ — упа́ў он у воду. Прыходзіць чэлаве́к до медзьведзя. Путае медзьве́дзь.

— А дзе ж воўк?

— Да он розум несе́ — важкі вельмі — так помаленьку ідзе́.

А лось лёг дай заснуў. Чэлаве́к, чэка́ючы на воука, сеў сабе́,взяў хлеба,келбасы і есь. А медзьве́дзь просіць:

— Дай жэ і мне.

— Не, — кажэ,— не дам, бо як попробуеш, то і мне зьеш.

— Не,— кажэ,— я цебе́ есьці не буду, толькі дай.

Даў он ему́ кавалэк келбасы. Медзьве́дзь зьеў— смачно! Просіць шчэ. Чэлаве́к гаворыць:

— Ты не ве́даеш, дзе ё браць! От, тут лось лежы́ць — раздзеры́ его́, будзе келбаса, шчэ і мне потрактуеш.

Медзьве́дзь жы́венько лося разадра́ў:

— Ну,— кажэ,— дзе́лаймо келбасы.

— Но, добрэ, да я цебе́ прывяжу.

— Як жэ ты мне прывяжэш?

— От, стань коле хвоі, дай обнімі́ ё, а я цебе́ плетню завяжу́.

Он стаў коле хвоі, чэлаве́к обмота́ў его́ до́брэнько.

— Сценісе, ці пове́рнешсе?

Медзьве́дзь не ве́рнецса.

— От, я буду чыніць келбасы.

Пашо́ў, добру кічку вы́копаў, дубовую. Ідзе̂ до медзьведзя, стаў у чэрэп біць. Дак медзьве́дзь кажэ:

— Е, праўду воўк гаворыў, што чэлаве́к розумом нас усі́х перэведзе́ — і лося нема́, і воўк дзе там здох — і мне ўж не будзе.

Медзьведзя ўбі́ў, скуру зняў дай прада́ў — а лося мясо зьеў.

## *Служба ў цара*

Павет Рэчыцкі, вёска Ужынец

Жыў сабе цар — да ў его́ було́ солда́т ахо́тнікоу багато. Быў у той роце, у цара, храбрый солда́т Хвэдо́н. Он хадзі́ў на полёванье. Хадзі́ў, хадзі́ў, да не ўда́лосе ему́ нічого застрэліць. Бачыць — на дзе́рэве седзі́ць большу́шчая орліца. Зложыўсе, стрэліў до ее́ — упала із таго́ дзе́рэва. Прыбе́г он, хочэ го́лову сорва́ць і ў торбу несьці́, дай ана́ кажэ:

— Е, Хвэдоне, не зрыва́й мне го́лову, а занесі́ мне ў сваю́ ізбу, посадзі́ на акне́, дай гледзі́ — як я буду дрэма́ць, так ты ўдары́ мне наодлі́в.

Заташчыў он ё у сваю́ ізбу, пасадзіў на акне́, седзі́ць. Дай задрэмала — ударыў ё — зрабіласе красна панна. Да вельмі ж ему́ сподоба́ласе. Кончае он службу ў таго́ цара — можна ўж іці́ до дому. Да ажэніўсе он з ею, до свае́й хаты завёў, і жыву́ць. Яна́ кажэ:

— Постарайсе мне грошы.

Чэлаве́к бедны, не було́ ў его́. Так пашо́ў он у роту сваю́, просіць това́рышы, у таго́ взяў, у та-

го́ — і собра́ў сто рублёў. Прыносіць і ёй аддае́. Дай ана́ кажэ:

— Мне грошы не трэба, а ідзі́ купі́ шоўку за ўсе́ сто рублёў.

Пашо́ў, купіў шоўку за сто рублёў.

Ана́ як стала плесьці, так наплела і наткала тако́й ручні́к, а на ім усе́ ўро́чышча, сколькі мо́роў і рэк і го́родоў — усё, што есь, як на плане показала. Дай кажэ:

— Несі́ ў город, прода́й.

Панёс дай вы́весіў. Бедный не прыдзе́ тарго-ва́ць, а прыходзіць хто з грошыма. Прыходзяць купцы́, двесьце, трыста рублёў да́юць, да і пяцьсо́т да́юць ужэ́. Едзе на коню царскі ад'юта́нт, відзіць громаду — што аны́ таргуюць? От, той царскі ад'юта́нт путае:

— Што вы тут таргу́еце?

— Добру штуку таргуем, да не можэм купіць.

Ад'юта́нт подъежае, побачыў; да выймае дзьве ты́сячы рублёў. Хвэ́дону дае́ да кажэ:

— Гэто мой ручні́к.

Павёз он той ручні́к к цару. Да цар кажэ:

— Дам я чтыры ты́сячы, штобы мне тако́й сплела́.

А он, той ад'юта́нт, кажэ:

— Я ве́даю, дзе тая хата, дзе аны́ жыву́ць, пайду́ і скажу́.

Паехаў к Хвэ́дону — просіць жонкі его́, штобы шчэ тако́й ручні́к сплела́. Да ана́ вельмі красіва была́ і сподоба́ласе ему́. Забыўсе, праседзе́ў он там, забаўляўсе аж двое суток. Пато́м ідзе́ он до цара, а цар насварыўсе на его́, што так доўго гуля́ў. Да той ад'юта́нт разказа́ў так і так. Цару захаце́ласе самому побачыць. Паехаў до Хвэ́дона, да як ана́ выйшла́, як он ё побачыў, то

само стало цару. Страшэнно ему́ сподоба́ласе. Прыежае он до дому, да зове́ ад'юта́нта:

— Ну, — кажэ,— бач! Штоб ты Хвэ́дону такую службу выдумаў, штоб он пашо́ў і пропа́ў. Твая́ го́лова ў том як его́ ўбіць, так, штобы ему́ тра́пілосе.

Той ад'юта́нт ду́мае, ду́мае — да нічого не можэ вы́думаць. Паехаў он на глухою ву́ліцу, што мало хто ходзіць — аж ідзе́ стара баба ведзьма.

— Здаро́ў быў, чарскі шлуга́. Да што вам трэба?

— Ах, ма́тушка, ба́бушка, вы́думай такому то солдату такую службу, штобы пашо́ў дай прапа́ў.

Да ета баба кажэ:

— Эх, чэму́? Ето можно вы́думаць, як собачэ муху пойма́ць. Неха́й цар солдату так скажэ: не в нашэм царстве, не в нашэм государстве, не ў том, дзе мы жывём, на тако́м то моры, на тако́й то выспе есь звер вродзе лося, адна́ серсьціна зо́лота, а друга́ срыбна. Штобы вдзень доста́ў.

Ад'юта́нт бабе подзя́коваў дай сказа́ў цару так і так. Цар Хвэ́дона зазывае:

— Ну, ве́даеш што, Хвэдон, служы́ў ты мне ў роце — да шчэ мне послужы́. Не в нашэм царстве, не в нашэм государстве, не ў том, дзе мы жывём, на тако́м то моры, на тако́й то выспе, есь звер вродзе лося, адна́ серсьціна зо́лота, а друга́ срыбна. Штоб ты мне вдзень доста́ў. А не, то мой меч, а твая́ го́лова з плеч.

Солдат не можэ адказа́ць. Прыходзіць до дому і плачэ. Жонка путае:

— Чэго́ ты плачэш?

— Да як жэ мне не плакаці. Цар мне таку а таку службу даў — пры́дзецса про́пасьці.

Дай ана́ кажэ:

— То шчэ не служба! Ідзí, Богу молісе і спаць ложысе.

Он пашóў, помоліўсе і спаць положы́ўсе. Дай ана́ вышла́ на ганок — свіснула — прылецело к ёй двох маладцóў. Ана́ гаворыць:

— Не в нашэм царстве, не в нашэм государстве, не ў том, дзе мы жывём, на такóм то моры, на такóй то выспе, есь звер вродзе лося, адна́ серсьціна зóлота, а друга́ срыбна. Достаўце мне егó.

Аны́ полецелі, зараз, за ноч досталі звера. Похажае по Хвэ́доному дворцу́. Он встаў, залашчыў егó цару. Цар каза́ў за дзень, а он за поўдня явіўсе. Напа́ў цар на ад'ютанта:

— Ты не добрэ выдумаў. Выдумай ізнóў таку штуку, штобы он пашóў дай пропа́ў.

Паехаў ізнóў ад'юта́нт шука́ць бабу. Натрапіў на ё:

— Ах, ма́тушка-ба́бушка, не добрэ выду́мала! Хвэ́дон ужэ́ звера прыташчыў. Выдумай ізнóў таку штуку, штобы ён пашóў дай прапа́ў.

— Ну, добрэ. Неха́й цар скажэ Хвэ́дону: штоб он ішóў туды́, неве́домо куды́, і взяў то, неве́домо што. Атсюды он не ве́рнецса.

Ад'юта́нт бабе подзя́коваў, да сказа́ў цару так і так. Цар Хвэ́дона позва́ў і кажэ:

— Ну, добрэ, ты мне лося прыташчыў — да цепе́р я табе́ дам другую службу. Ідзí ты туды́, неве́домо куды́, і доста́нь то, неве́домо што. А не, то мой меч, а твая́ гóлова з плеч.

Прыходзіць Хвэ́дон до дому і плачэ. Жонка путае:

— Чэгó ты плачэш?

— Як жэ мне не плакаці, калі цар каза́ў, штоб я ішóў туды́, неве́домо куды́, і взяў то, неве́домо што.

— От ето, — кажэ,— служба! Не вéдаю, як будзе. Ну, да ідзі к цару і скажы́, штоб даў табé грошы — дарога веліка, неможна бэз грошы.

Пашóў Хвэ́дон к цару і кажэ:

— Найясьнейшы цару, мне трэба грошы на ету дарогу.

Назначыў цар кучу зóлота.

— Беры́ всю.

Набрáў он сколькі мог і пашóў ізнóў до дому. Да жонка кажэ:

— Цепéр богу молісе і спаць ложысе.

Он помоліўсе і лёг спаць. Цепéр жа ана́ вышла́ на ганок, свіснула, прылецело двох маладцóў.

— Не відалі вы тагó, неведóмо што?

— Не,— кажуць, — не відалі.

Назаўтра он встал, дала́ ана́ ему́ клу́бочэк ніток і ручнік.

— Кочэні клу́бочэк — дзе будзе іці, там і ты ідзі.

Наклала ему́ есьці, усё — он пашóў. Покоціўсе клу́бочэк — он за ім ідзé. Да тым часэм, цар як егó адправіў, так ё забрáў до себé, хочэ з ею жэніцса. А ана́ таму́ не рада. Зрабіласе погана, брыдка, паскудна. Цар жу́рыцса, што і добрый солдáт пропáў, і жонка егó до людзі неподобна. Да он, Хвэ́дон, пашóў за клу́бочком. Не так скоро іці, як гаворыць. Ідзé дай ідзé. Наконéц тагó, бачыць — стаіць хатка. Покоціўсе клу́бочэк в ізбу. Пашóў он усьлед за ім. У етой хатцэ жыла́ старушка і дзьве дочкі краса́віцы. Путаюць егó:

— Куды́ ты ідзéш?

— Іду́,— кажэ,— у веліку дарогу, заморыўсе вельмі — накорміце менé, дай спаць положыце.

Аны́ егó напоілі, накармілі і спаць положылі. Назаўтра встае он, тые панны вады́ поднесьлі

ему́ ўмыцьса, даю́ць ему́ ручні́к. Он гаворыць:

— Я свой маю.

Выймае свой ручні́к, што жонка ему́ дала́ — дай аны́ познали́, адабралі і панесьлі́ к матцэ. Выходзіць тая матка:

— Здаро́ў, зяць мой!

Да ана́ була́ матка его́ жонкі, а ето сестры́ ее́. Путаю́цса:

— Куды́ ты, зяціку, ідзе́ш?

Да он ёй усё разказа́ў так і так. Ана́ кажэ:

— Не ве́даю — побачым.

Взяла́ ана́ воушэ́бную кнігу, стала чытаці. Выйшла́ на ганок, сві́снула — прылецело чэтыро́х маладцо́ў. Гаворыць:

— Не відалі вы таго́, неве́домо што?

— Не,— кажуць,— не відалі.

— От,— кажэ, — прыдзецса зяцю про́пасьці. Так берыце вы мне і маго́ зяця і несіце по во́здуху на Кіян-морэ, да трымайце ўсоко на во́здуху.

Взялі́ аны́ ё і таго́ Хвэ́дона, дай панесьлі́ по во́здуху. Трымаюць. Ана́ як сві́снула, так ўсё, што есь на сьвеце — рыба, вужы, пташка, гадосьць усяка — плыве́, і бежы́ць, і леці́ць до іх. Ана́ гаворыць:

— Ці не відалі вы таго́, неве́домо што?

Все ў адзі́н голос адказалі:

— Не, не відалі.

— Ну да, прыдзецса зяцю майму́ про́пасьці.

Ажо́сь жаба старуха, што не здолела разэм я́віцса, на остатку прыплывае. Клічэ:

— Ква, ква, я ве́даю.

— Ну, добрэ. А ты его́ заведзе́ш?

— Заведу́.

— Ну, добрэ.

Набралі аны́ ў дзбано́к вады́, всадзілі жабу, он взяў дзбано́к, покоці́ў клу́бочэк і пашо́ў. Ідзе́

он ідзе́, да жабу несе́ ў дзбане, да клу́бочэк ко́ціца. Наконе́ц таго́ прыходзіць он до рэкі́, да тая рэка́ ўся́ агнём гары́ць. Клу́бочэк скоціўсе до рэкі́ — нема́! Згарэ́ў. Жаба кажэ:

— Выймі мене́ з ётого дзбана і садзісе на мене́.

Но, як жэ сесьці на ту жабу! За што трымацьса?

— Е,— кажэ,— го́рбочэк у мене́ — трымайсе за его́.

Як взяла дуцьса, ду́ласе, ду́ласе, да наду́ласе як бальшушча скірта сена. Хвэ́дон сеў, ухапіўсе за го́рбочэк і мо́ліцьса Богу, як тут не ўпа́сьць. Жаба пры́гнула і рэку перэпры́гнула.

— Ну, гаворыць, ідзі́. Тут будзе сцё́жэчка — ідзі́ паку́ль ана́ ко́ньчыцса. Там будзе стая́ць дзе́рэво, под ім нора. Ты туды́ лезь — там сховайсе. Будзеш відзець, што там робяць, і ты так зробіш.

Пашо́ў он сцежкой — стаіць дзе́рэво, под дзе́рэвом нора. Поле́з он туды́. Цёмно ў землі́, нічого не бачыць. Да стаіць там шахфа. Зале́з он за ту шахфу, сховаўсе. Ажно прыходзяць два сле́пые. Гаворать:

— Шмат Розум, сьветло́!

Стало сьветло́. А тут пакое пе́кные, веліке — от як у пана Вітоля. Аны́ кажуць:

— Шмат Розум, есьці і піць!

Стаў стол засланый, а на ім есьць і піць, усего́. Сле́пые понаеда́лісе, понапіва́лісе.

— Шмат Розум, убера́й!

Всё забра́ў, стало цёмно. Сле́пые пашлі́ сабе́. Дак Хвэ́дон стоячы за шахфой думае:

— Трэба мне попро́боваць.

Да стаў кома́ндоваць:

— Шмат Розум, сьветло́!

Да стало сьветло́.

— Шмат Розум, піць і есьці!

Да стаў стол засланый, а на ім піць і есьці.

— Шмат Розум, му́зыка!

Да на́чало граць — і скрыпкі, і бубен. Дзівіцса он.

— Шмат Розум, седа́й со мной, еж!

Хвэ́дон сам есь і піе́, відзіць, што на столе прыбера́ецса, а нікого не бачыць. Нае́лісе, напілісе.

— Шмат Розум, убера́й!

Усё забра́ў, стало цёмно.

— Шмат Розум, пойдзеш со мною?

Он его́ не бачыць, толькі чуе. Гаворыць он:

— Як жэ мне з табо́й не іці? Я гэтым слепым пя́дзесят гадо́ў служу́, а ні разу не казалі есьці — а ты первый раз прышо́ў і ўжэ́ есьці даў.

Вылезьлі аны́ з норы і пашлі́. Хвэ́дон ідзе́ — не бачыць нікого, а чуе. Прыходзіць до рэкі. Жаба жджэ его́ на бе́рэгу. Сеў на жабу, перэпрыгнула ана́ рэку́. Путае его́:

— Ну, што, ці доста́ў?

— Доста́ў, да неве́домо што — ідзе́ со мной.

— Добрэ, ты ж ідзі́ за ім. Уж я табе́ непотрэбна.

Подзя́коваў он жабе, дай пашо́ў. Ідзе́ он, ідзе́ — захаце́лосе есьці.

— Шмат Розум, ці ты тут?

— А як жэ! Я ж іду́.

— Шмат Розум, піць і есьці!

Стаў стол засланый. Наеўсе, напіўсе, дай кажэ:

— Ой, уморыўсе вельмі! Ногі боля́ць.

Он гаворыць:

— Да чэго́ ж ты моўча́ў. Даўно ў жонкі былі́.

Як подхваціў Хвэ́дона, як понёс, то аж шапка ўпала. Дзьве ты́сячы вёрст лецелі. Да он кажэ:

— На моры есьць выспа — устроім там домо́к — будуць ехаць купцы́. Як побачуць, якую ты добру

штуку маеш, захочуць поменяць. Аны такжэ добру штуку маюць — мене за іх штуку поменяй. Да не лякайсе — я буду твой. Дарма што замеііш.

— Ну, добрэ.

Прылецелі до гэтой выспы, пастроілі сабе дварэц. Едуць купцы. Хвэдон іх просіць до себе — прыходзяць.

— Шмат Розум, піць і есьці!

Да стаў стол засланый, усё е, што захочуць.

— Шмат Розум, музыка!

Да музыка грае. Аны едуць, пьюць, гуляюць. Вельмі ім та штука сподобаласе.

— От,— кажуць,— добра штука! Поменяймо.

— А ў вас якая штука?

Выймаюць аны скрынку — як адчынілі скрынку, пашлі солдаты адзін за другім — цьма! Зачынілі скрынку — собралісе усе солдаты — нема!

— Добрэ, поменяймо.

Взяў он скрынку, да пашоў з гэтой выспы до дому. А тых пакоёў як не було, так ізноў нема. Ідзе он ідзе, дай кажэ:

— Шмат Розум, ці ты тут?

— А як жэ, тут.

— Да понесі мне.

Панёс он его. Лецелі, лецелі. Да он кажэ:

— Мы зноў тут сабе дамок пастроім — да будуць купцы ехаць. Ты зноў з імі поменяйсе — мене ім аддай, а вазьмі ў іх добру штуку. А я такі буду твой.

Прылецелі аны, пастроілі дварэц. Едуць купцы. Хвэдон іх просіць до себе — прыходзяць.

— Шмат Розум, піць і есьці!

Да стаў стол засланый — ўсё есь, што захочуць.

— Шмат Розум, му́зыка!

Да му́зыка грае, аны́ еду́ць, пьюць, гуляюць. Вельмі ім та штука сподоба́ласе.

— От,— кажуць,— добра штука! Поменяймо.

— А ў вас якая штука?

Выймаюць аны́ скрынку — як адчынілі, стаў дом і поса́джэный сад, а худоба ідзе́, якая трэба— і волы́, і каровы, і коні, і авечкі — усё.

— Ну, добра штука, поменяймо!

Поменялі і пашлі́! А он, той Хвэ́дон, взяў ету скрынку і ідзе́. Да пута́ецса:

— Шмат Розум, ці ты тут!

— А як жэ,— кажэ,— тут.

Наконе́ц таго́ прыходзіць он у той царскі дварэ́ц. А жонка его́, як ё цар забраў, зрабіласе такая брыдкая, незграбна! А пато́м скінуласе орліцой і палецела. Да як он прышо́ў, адчыні́ў скрынку — стаў дом з агародом, і фрукты вісяць, і худоба е — усё, як повінно быць. Так он адчыніў абалоне — дай орліца влецела ў хату, і стала такая як даўней була́. Жыву́ць аны́ дай жыву́ць. Праходзіць цар коле таго́ дому.

— Што гэто? Не було́ тут нічого, а то стаіць дом і агарод.

Пасылае слуг уве́доміцьса, хто тут жыве́? Прыходзяць аны́, кажуць, што тут жыве́ той Хвэ́дон і жонка его́. Цар разгневаўсе вельмі: посла́ў его́ для себе́ старацьса, а он самому сабе́ таку штуку зрабі́ў. Назначае солдатоў:

— Пайдзіце, прыведзіце его́ до мене́ — я ему́ го́лову з плеч знiму́.

Прыходзяць солдаты, хочуць его́ взяць. Да Хвэ́дон адчыні́ў сваю́ скрынку — выйшлі́ солдаты, побілі́ царскіх — нема́ ні аднаго́! Шчэ больш разгневаўсе цар. Выстроіў батэрые і ідзе́ сам на его́. Да Хвэ́дон як адчыні́ў сваю́ скрынку, як

выйшло́ солдатоў цьма. Так побілі, потоптала усё чысто — цара забралі і Хвэ́дону прывелі. Да як Хвэ́дон у цара служыў, так цепе́р цар у Хвэ́дона служыць.

# *Шчасце і доля*

Павет Рэчыцкі, вёска невядома

Быў чэлаве́к бедный, бе́дненькі. Меў он жонку, і дзеці, і пару воло́ў — дай больш нічого. Вельмі бе́дные булі́. Везе́ он дрова на место, дай ду́мае:

— Як я мае́ дзеткі выкормлю́?

Ажно бачыць — іду́ць дзьве паненкі. Шчасье і Доля. Путаюць его́ атку́ль он, да як ему ве́дзецса ўсё. Дай он ім і кажэ так і так — беда́, голод, нема́ нічого, дай годзі! Зміловаласе над ім Доля, кажэ:

— Трэба поратоваць его́ — дам ему́ што.

А Шчасье кажэ:

— Бэз мене́ нішто́ ему́ не поможэ.

Дай Доля дала́ ему́ тры рублі́. Он подзя́ковал, уложыў за кашулю і паехаў. Да захаце́лосе ему́ піць — нагнуўсе над лужу, тры рублі́ ўпалі ў воду — нема́! Шука́ў он, шука́ў — не мог найці́. Прыехаў до дому — да жонцэ разка́зывае. Ана́ кажэ:

— Другі́м разом, калі гэ́тые паненкі табе́ што даду́ць, не едзь ужэ́ далей, а вороцісе наза́д.

Ну, добрэ. Паехаў он другі́й раз з воламі на место, да ізно́ў сустрэкае Шчасье і Долю. Путаюць его́, а он ім кажэ ўсю́ праўду, як було́ з грошыма. Дай Доля кажэ:

— Калі ты такíй кеп, што грошы згубíў, так цепéр маеш толькі два рублí.

А Шчасье кажэ:

— Бэз менé ніштó емý не поможэ.

Он уж на место не паехаў, толькі назáд вороціўсе до дому. Да не булó жонкі ў хаце. Дýмае он:

— Дзе мне тут еты грошы положыць?

Бачыць — стаíць горшóк з крупамі. Вложы́ў до горшкá еты́ грошы, дай пашóў у поле. Прыходзіць жонка до дому, да стаíць сьлепый. Не мела анá нічого емý даць — взялá, ýсыпала емý тые крупы, з грошыма разэм.

Прыходзіць он, кажэ:

— Ну, Бог даў шчасье — два рублí прывёз.

— А дзе ж ты іх дзеў?

— А,— кажэ,— у горшóк з крупамі ўкінуў.

Дак анá заломіла рукі.

— Я ж тые крупы ýсыпала сьлепому! Да з грошыма разэм!

Побеглí аны́ сьлепца шукáць — усé село збегалі — немá, дай і чуткі немá! Ну, што рабíць! Паехаў он трэцій раз на место з воламі. Ізнóў сустрэкае дзьве паненкі — аны́ путаюць егó, да он ім ўсё кажэ, як булó. Так Шчасье гаворыць:

— Да я ж казала, што бэз менé нічого не будзе. Цепéр уж я табé дам гасьцíньца. На табе тры толькі грошы — едзь на место і купí сабé рыбу.

Паехаў он на место, і дýмае:

— Якую ж то рыбу можна за тры грошы купíць. Ну, побачым.

Прыехаў он, бачыць — чэлавéк несé веліку шчуку — да за ім ідýць людзі, дай таргуюць. Да той чэлавéк кажэ:

— Не хочу вам задармо продавáць — лучшэ

таму́ мужыку́ адда́м за тры грошы. Маеш, чэлавечэ, тры грошы?

— Маю,— кажэ.

— Дава́й — да сабе́ шчуку беры́.

Взяў он гэту шчуку і паехаў до дому. Да як ё разсеклі, бачуць — аж у внутры седзіць яйцо залатое.

— От,— кажэ он, — Бог даў! Трэба нам за тое яйцо хоця́ солі купіць.

Пашоў он на место з етым яйцэм. Прыходзіць у краму, солі купіць. Да купе́ц, як угледзеў тое, так гаворыць:

— Беры́ ўсю маю краму, з таварамі, з усім — да мне дай гэто яйцо.

— Ну, добрэ, — он кажэ.

Да взяў краму, да начаў таргава́ць, і жонку взяў до крамы. Да людзі ў его́ куплялі — і стаў он найбогацейшым на ўсім сьвеце.

## Кароль і каралева

Павет Рэчыцкі, вёска невядома

Быў сабе́ каро́ль з каралёвою, і мелі аны́ до́чушку. Да взяла́ тая каралёва, дай по́мерла. Плачэ той муж по ее — рукі ломіць, галосіць. Ну, ду́мае, што мне рабіць цепе́р? Трэба мне жэніцьса. Да полюбіў он сваю́ дочку — хочэ з ею жэніцьса. Дак ана́ плачэ: да як жэ мне за рожо́наго бацька замуж іці. Грых! Ідзе́ ана́ на могілкі, плачэ на матчыном груобе. Ажо́сь матка выходзіць з груобу, дай кажэ:

— Ты, мая́ до́чушка, так зрабі: нехай табе́ бацько купіць тры сукні: адна́ як зо́рочкі, дру-

гая як месяц, а трэця як соўнца. Да шчэ нехáй справіць табé сьвіній кажýх. На шчэ табé яшчык — прыгодзіцса табé.

Анá ж пашлá до бацькі, дай кажэ:

— Выйдý за цебé, калі мне купіш тры сукні, адну як зóрочкі, другую як месяц, а трэцю як соўнца — да шчэ сьвіні кажýх. А не купіш, так не пайдý замуж за цебé.

Карóль, як тое почýў, зараз послáў сваíх г'енералоў покупляць тые сукні. Паéхалі аны́, шукалі, шукалі, да прывозяць: аднý сукню як зóрочкі, другую як месяц, трэцю як соўнца — да сьвíняго кажухá немá. Нідзé не досталі. Неможна, кажуць, найцí.

— Да як табé не стыд,— каралеўна кажэ,— пéкные сукні досталі, а тагó паскудства не досталі. Не пайдý до шлюбу.

Так карóль схапіўсе, закомандоваў, штоб быў сьвіній кажух. Наймалі краўцоў.

— Шыйце сьвіній кажýх.

Шылі аны́, шылі — наконéц пошылі — такíй кажýх і на рукí, і на ногí, і на гóлову. Ну, добрэ. Трэба ж ім — той каралёўне з бацьком до шлюбу ехаць. А анá рáненько встала́, дай кажэ:

— Я ўперóд паеду до касьцёла, буду Богу моліцьса, а ты патóм прыедзеш.

Як паéхала, так і паéхала. Коні до дому адпрáвіла, а самá пашлá ў сьвет. Ідзé анá, дай ідзé, далёко ўж зайшла, аж тут стаíць палац. У етом палацу жыла каралёва з сыном, з каралевічэм. Входзіць янá до каралёвой, дай кажэ:

— Найясьнейша каралёва, пазвольце мне тут перэночэвáць.

Да каралёва адкáзывае:

— Ідзí ж сабé ў кухню, твой кажýх так смердзіць, што тут неможна ўтрымаць.

Ана́ і пашла́ сабе́ ў кухню і легла́ спаць. Назаутра дзень була́ Недзелька. Сказалі ёй, штоб каралёвічу паслужыла. Дак ана́ ему́ ручні́к подае, а он ё гэтым ручніком ударыў. Паехаў он з маткой до касьцёла. Ана́ кажэ:

— Пайду́ і я Богу помо́ліцьса.

Адчыніла свой яшчык, што матка дала́ — аж тут заехала карэта і коні, такіе пекные, што ўх! Ана́ надзела сукню як зо́рочкі, села ў карэту, дай паехала. Як жэ ана́ до касьцёла вступіла, так касьцёл зазіяў. Ксёндз не можэ малітву спеваць — усе агледаюцса. А каралёвічу так спонадо́біласе, што ўж не можэ вытрымаць. Путае он:

— Атку́ль, красна панна, прыехала?

А ана́ кажэ:

— З Ручні́ковіч.

Дай села і паехала наза́д до палацу, влезла ў кухню, надзела свой сьвіній кажу́х, і седзі́ць. На другую Недзельку ізно́ў паслалі ё каралёвічу паслужыць. Подала ему чо́боты, а он ё чо́ботом ударыў. Ана́ нічого не сказала — да як уж паехалі до касьцёла, ана́ хутко ўбра́ласе в сукню як месяц, адчыніла яшчык — заехала карэта і коні, ана́ села дай паехала. Як у касьцёл вступіла, усё зазіяло — людзі дзі́вяцса — а каралевіч не можэ ўтрыма́ць. Путае і́зно́ў:

— Атку́ль ты, красна панна?

А ана́ кажэ:

— З Чобо́товіч.

Паехала наза́д, влезла ў кухню, седзі́ць. Да каралевіч паехаў шукаць гэту красну панну. Езьдзіў, езьдзіў весь тыждзень — нема́! Вороціўсе он до дому, дай кажэ:

— Трэба выляць смолы ў касьцёле, перэд ганком — хто чэрэві́к аставіць, з той я ажэнюсе.

Так і зрабілі. Як паехалі ўсе до касьцёла, ана́ ізноў адчыніла яшчык, убра́ласе в сукню як соўнца і паехала. Дай касьцёл зазіяў, усе агледа́юцса. Да ана́ влезла́ ў смолу, чэрэві́к астаўсе. Вороціласе до палацы, надзела сьвіній кажу́х —да адна́ нога боса. Легла́ ў кухні, дай спіць. Прыходзіць каралевіч — бачыць босу ногу. Ду́мае: да што гэто можэ быць? Да падняў сьвіній кажу́х — аж тут зазіяла сукня як соўнца. Да он узнаў ё, што гэто кра́сная панна. Дай кажэ:

— Ты будзеш маю жонку.

Справілі веселье. Мёд, віно́ було́, і по барадзе цекло́.

## *Бацька і дачка*

Павет Рэчыцкі, вёска Вадовічы

Була́ ў бацькі адна́ дочка. Маць ей по́мерла. Да бацько кажэ:

— Пожэ́німсе, дочка мая́, з табою.

— Добрэ, — ана́ кажэ, — но ўперо́д купі́ мне сьві́няго кожушка́.

Он купіў ёй сьві́няго кожушка́, дай ана́ кажэ:

— А цепе́р, справ мне таку шубу, штобы як соўнцэ зіяло.

Справіў он таку шубу, так ана́ захацела сукні, да хусткі, да чэрэвікоў, да хфартуха́ — і таго́ шчэ, і таго́. Он кажэ:

— Годзі ўжэ́, пожэ́німсе. А ана́ ўсё его́ бавіць — усего́ ей трэба. Но, як ужэ́ он усего́ ей накупляў, так ана́ накрыласе сьвінім кожушком і ўцекла́ із дому. Бацька кінула, дай пашла́ служы́ць. Прыходзіць ана́ до адно́й пані, дай гаворыць:

— Прыміце мне за наймічку.

А пані кажэ:

— Да як жэ ты будзеш служы́ць ў сьвінім кожушку?

Да ана́ кажэ:

— Неха́й пані позволіць, я хоця́ за печью перэзімую.

— Ну, лезь за печ, да не хадзі́ нікуды́.

Полезла́ ана́ за печ і седзі́ць. Дождалі аны́ Недзелі. А ў той пані быў сын. Той паны́ч хочэ ехаць у цэрков — да гара́пніка нема́. Шукае он, да ета наймічка вы́бегла з-за печы, дай гара́пнік поднесла́. А он заме́рыўсе на ё гара́пніком. Паехаў он, а ана́ седзіць і плачэ. Пані путае:

— Чэго́ ты плачэш?

— Як жэ мне не плакаці, калі паныч на мене́ заме́рыўсе, ударыць хаце́ў.

— А нашто ты з-за печы вы́лезла?

— Пусьціце,—кажэ,— мне ў цэрко́в.

— Да як жэ я цебе́ пушчу́ — стыд мне вельмі будзе, што ты так у сьвінім кожушку.

— Не, я ў цэрко́в не пайду́, толькі ж трошкі на у́ліцу погледзе́ць.

— Ну, ідзі́, дай не баўсе.

Ана́ залезла за печ, скінула сьвіні кожушэк, надзела зіяшчу шубу — пашла́. Прыходзіць у цэрко́в, усе́ гледу́ць — а той паны́ч больш усіх. Путае ё:

— Атку́ль ты, панна?

— З Гара́пніка.

Прыходзіць он до дому і кажэ до маткі:

— Мамо, ма́менько, якую я панну бачыў, то шчэ такой не бачыў! А путаўсе, аткуль ана́, то казала з Гара́пніка.

Ду́мающь аны, ду́мающь, да такого села́ нема́. А дзеўка, як прышла́ з цэркві, так зноў надзела сьвіні кожушэк — седзі́ць за печью. Дождалі дру-

го́й Недзелі. Пане́ч зноў хочэ ехаць у цэрко́в — да рукавіцы нема́. Шукае он, да тая наймічка вы́бегла з-за печы, дай рукавіцу поднесла́. А он кінуў на ё рукавіцу. Паехаў он, а ана́ седзі́ць і плачэ. Пані ета путае:

— Чэго́ ты плачэш?

— Як жэ мне не пла́кацць, калі паны́ч на мене́ заме́рыўсе, ударыць хаце́ў.

— А нашто ты з-за печы вы́лезла?

— Пусьціце мне,—кажэ,— у цэрко́в.

— Да як жэ я цебе́ пушчу́. Стыд мне вельмі будзе, што ты так, у сьвінім кожушку.

— Не, я ў цэрко́в не пайду́, толькі ж трошкі на у́ліцу погледзе́ць.

— Ну, ідзі́, дай не баўсе.

Ана́ зноў залезла́ за печ, кінула сьвіні кожушэк, надзела зіяшчу шубу — пашла́. Прыходзіць у цэрко́в, усе́ гледу́ць — а той паны́ч больш усі́х. Путае ё зноў:

— Атку́ль ты, панна?

— З Рукаві́чэва, — кажэ.

Паны́ч вороціўсе до дому і гаворыць до маткі:

— Мамо, ма́менько, я ету саму панну віда́ў — а як спросіў, атку́ль ана́? Так казала, што з Рукаві́чэва.

Ду́маюць аны́, ду́маюць — да такого села́ нема́. Да матка кажэ:

— Нема́, сынку, іншэй рады, як будзе та панна ў цэркві, трэба ей чэрэвіка доста́ць, а пато́м чэрэвікі ўсі́х дзівок прымерыць. Можэ так на́йдзецса ана́.

Дождалі аны́ Недзелі. Паехаў паны́ч у цэрко́в. Пашла і ана́, гэта наймічка у зіяшчэй шубе. Наконе́ц, як з цэркві выхо́дзілі, наткну́ласе на паро́г, чэрэві́к упа́ў з ногі, паны́ч схваці́ў, а ана́ ўцекла́ до дому, накрыласе сьвінім кожуш-

ком, влезла за печ, і седзі́ць. Дай аны́ чэрэвікі ўсі́х дзівок прымералі к гэ́тому — прымералі — ніякій не подходзіць. Да маць кажэ:

— От, есь шчэ тут гэта наймічка, што ў сьвінім кожушку.

Да сын кажэ:

— Да куды ж ей, Мамо, до гэтой красной панны!

Но пані кажэ:

— Сьвіні кожушэк, прыдзі́ тут.

Дай ана́ прышла́ з-за печы ў сьвінім кожушку. Паны́ч і глядзе́ць на ё не хочэ. Прымерылі ей чэрэвік — якраз! Дай ана́ скі́нула сьвіні кожушэк і стала в зіяшчэй шубе, така красіва, што і не ба́чылі тако́й. Так он ё познаў, взяў і ажэніўсе з ё.

## *Мачыха*

Павет Рэчыцкі, вёска Вадовічы

Була́ ў бацькі дочка́. Да ее́ матка по́мерла, а бацько з другою ажэніўсе. Гэта ма́чыха мела сваю́ дочу, а для тое погана вельмі була́. Дала́ ей кужэлю і казала, штоб за адну́ ноч спрала, у́ткала і выбеліла. Дзеўка села дай плачэ. А ў тое дзеўкі була́ кароўка, шчэ ма́тчына. Плачэ яна́, плачэ — прыходзіць кароўка, путае:

— А чэго́ ты, дзеўка, плачэш?

— Да як жэ мне не пла́каці, калі ма́чыха дала́ мне кужэлю, дай казала, штобы за адну́ ноч було́ спра́дзено, вы́ткано і выбе́лено.

— Ідзі́, спаць ложысе, будзе ўсё гатово.

Леглá анá спаць. Назаўтра бачыць — усё спрáдзено, вы́тчэно, выбéлено.

Кажэ мáчыха до сваéй дочы:

— Відзіш як тая зрабіла — і ты так зрабі́.

Далá ей кужэлю, штоб назаўтра було́ гатово. Да ґэта кужэль положыла і спаць леглá. Назаўтра гледзі́ць — кужэль як лежáў, так лежы́ць і не спрадзен і не вы́тканы. Вельмі разгневаласе тая мáчыха.

— Трэба кароўку зарэзаць.

Дзеўка тая пашлá до сваéй кароўкі, дай плачэ:

— А чэго́ ты, дзеўка, плачэш?

— Да як жэ мне не плáкаці, калі мáчыха хочэ цебé зарэзаць.

— Не плач. Да як будуць маé мясо есьці, так ты не еш, да ўсé кускі позберáй і закопáй под акно́м.

Зарэ́залі аны́ кароўку — да дзеўка мяса не ела, толькі ўсé кýсочкі зберала і закóпала под акно́м. Аж вы́росла там яблонь з золотымі я́блушкамі. Тых яблок ніхто́ не можэ ўшчыпнуць, толькі та дзеўка. Едзе пан — заехаў. Бачыць, што золотые я́блокі, просіць, штоб емý адно́ далí. Мачыха сваю дочу ўпраўляе:

— Зэрвí пану я́блочко.

Гэта доч пробуе, пробуе, дай нія́к не можэ — усё ўгору ідзé. І мáчыха самá хочэ зэрвáць — не можэ. Да пану вельмі я́блока хóчэцса. Пытае:

— А хто тут шчэ е ў хаце?

Да мáчыха кажэ:

— А е шчэ та паршыўка, пагана.

— Нехáй анá прыдзе.

Прышлá анá, да я́блокі нагнулісе до ёй. Взяў пан я́блоко, да анá самá сподобалосе ему. По-

свáтаўсе до ей, дай ажэніўсе. Вэсэлье спрáвілі — взяў её і павёз у свой двуор. Пашлá і яблонь за імі і стала на куці. Жывýць аны́, жывýць, дай анá стала берэменна. Емý трэба, канечне, паехаць у дарогу. Паехаў он, а анá дзіця́ родзіла. Трэба до тагó дзіцяці нянькі. Прышлá мáчыха ей і кажэ:

— Я буду няньку.

Ну, добрэ. Стала анá за няньку. Да ету жонку завелá до рэчкі і ўтопіла. А анá ў рыбку перэменіласе і поплылá. Прыехаў назáд гэтый пан. Немá жонкі — а мáчыха емý разказуе, што анá пóмерла, а дзіця́ астáлосе. Жывýць аны́ — да той пан бачыць, што дзіця́ плача. А быў там пáробок добрый. Як дзіця́ заплачэ, он возьме егó, панесé до рэкі, дай клікне. Анá вы́плыве, дась грудзі дзіцяці, накорміць, і зноў до вады́ пойдзе. Пан сабé думае:

— Нашто он до рэкі несé?

Дай пашóў за ім, сховаўсе і подгледзéў. Дýмае он: як ё взяць? Назаўтра зноў пáробок взяў дзіця́ і несé к рэчцэ, а пан зноў сховаўсе. Выплынула анá, далá грудзі, накóрміла дзіця́ — дак он прыскочыў і схваціў ё — і перэменіласе анá на кобіту. Пашлí аны́ до дому, і анá разказала, што мáчыха ё ўтопіла. Дай пан мáчысе зняў гóлову з плеч — а аны́ зноў жылí шчасліво.

# Брат і сястра

Павет Рэчыцкі, вёска Вадовічы

Быў брат і сестра́. Да взяў брат ажэніўсе. Трэба ему́ ехаць у дарогу. Подарыў он сестрыцы коня і кажэ:

— Ты, сестрыца, моўчы́. Да о жонцэ праўду не кажы́.

Паехаў он, а жонка взяла́ таго́ коня, дай стра́ціла. Прыежае он да путае; а сестра́ моўчы́ць. Да жонка кажэ:

— Твая́ сестра́ коня стра́ціла.

Ну, нічого. Трэба ему́ ізно́ў ехаць. Подарыў он сестрыцы голубца́ і кажэ:

— Ты, сестрыца, моўчы́, да о жонцэ праўду не кажы́.

Паехаў он, а жонка взяла таго́ голубца́, дай стра́ціла. Прыежае он, да путае — а сестра́ моўчы́ць. Да жонка кажэ:

— Твая́ сестра́ голубца́ стра́ціла.

Ну, нічого. Трэба ему́ ізно́ў ехаць. Да ў тое врэмя жонка дзіця́ родзіла і стра́ціла его. Прыежае он, да путае — а сестра́ моўчы́ць. Да жонка кажэ:

— Я ро́дзіла дзіця́, а твая́ сестра́ стра́ціла.

Так он разгневаўсе вельмі:

— Я подарыў табе́ коня́ і голубца́ — а дзіця́ мае́.

Да сестра́ моўчы́ць. Так он каза́ў па́робку, штоб ё ў лес завёў, рукі́ ей адруба́ў, да сэрцэ і очы выняў, і покінуў у лесу́. Завёў ё па́робок у лес, да сучка за імі побегла́. Адрэзаў ей рукі́, да стала́ ана́ его́ просіць: хоця́ мне сэрцэ і очы зоста́в. Дак он гэту сучку взяў, сэрцэ і очы ёй выняў, а ё кінуў у лесе. Пашла́ ана́, пашла́. Пры-

шла́ ў сад, дзе багато яблонь, груш — а ў сярэдзіне стаіць яблонь і залатые я́блушка родзіць. Ей вельмі есьці хацелосе, взяла́ адно́ я́блушко і зьела. Прыходзіць у той сад паны́ч — бачыць, аднаго́ я́блушка залатого нема́. Ідзе́ он до маткі, кажэ:

— Мамо, Ма́менько, да нехто ў саду е.

— Не сынку, то пташка ісха́піла.

Да он шука́ў, шука́ў, пташкі не найшоў, да найшо́ў паненку бэз рук.

— Мамо, Ма́менько, красна паненка — я з ей ажэнюсе.

— Ну, добрэ, сынку, жэнісе.

Ажэні́усе он з ею. Жыву́ць аны́, жыву́ць — стала берэменна. Господ ё пошкодова́ў. Да ему́ трэба ехаць у дарогу. Паехаў, дай ана́ ро́дзіла хло́пчыка, што в лобе месяц, а звезда́ ў потыліцы.

Напісала ана́ пісьмо́ до мужа, штоб прыехаў побачыць сына. Да той посланец зайшо́ў до ее́ бра́ціхі, лёг сабе́ і засну́ў. А тая бра́ціха вы́няла пісьмо́ дай перэменіла. Напісала ему́: твая́ жонка ро́дзіла хлопца ні до чэго́ подобаный, собачэй породы. Той муж перэчыта́ў, подумаў, дай адпісуе:

— Чэкайце паку́ль прыеду, хочу побачыць.

Да той посланец ізно́ў шоў коле бра́ціхі хаты, да зайшо́ў, лёг сабе́ і заснуў. А тая бра́ціха зноў вы́няла пісьмо́ дай перэменіла. Напісала, штоб паку́ль прыедзе дзіця́ і ё стра́цілі. Тая матка его́ як перэчытала, плачэ, шкодуе, што хлопчык пекный. Да ана́ кажэ:

— Мама мая́ галубка, нема́ ў мене́ рук — буду як нішча хадзіць. І пайду́ я ў сьвет.

Прывязалі ёй дзіця́ до грудзі, дай пашла́. Пашла́ ана́, ідзе́ , ідзе́ — прышла́ к мору. Заха-

цéлосе ей вады́ напіцьса. Нахіліласе ана́ до вады́, ажóсь рукі́ адрасьлí. Пашла́ ана́ далей, да прыходзіць до бра́ціхі. Не познаді ёй. Прóсіцьса ана́ до іх на ноч.

— А ці ўмееш казкі каза́ць?

— Умею.

— Но, так перэночу́й сабé.

Села ана́ за печью — седзíць. Да тут прыехаў той пан, муж ей. Позбералісе, пьюць, гуляюць, му́зыка грае. Да кажуць:

— От, мы тут пьём, гуляем, да нема́ каму́ казкі каза́ць.

Да бра́ціха гаворыць:

— Да есь нíшчэнка за печью — ана́ казку скажэ. Нíшчэнка, хадзі ту́така.

Прышла́ ана́, стала каза́ць:

— Быў у бацькі брат з сестрóй, ажэніўсе той брат дай паехаў, да жонка коня страціла і сказала на сестру́, — да он зноў паехаў, а жонка голубца́ стра́ціла і сказала на сестру́...

Да тая бра́ціха ёй перэбівае:

— Ціхо, не кажы́!

А той пан, муж ей, кажэ:

— Да кажы́.

Дай ана́ ўсё разказала, так як он дзіця́ побачыў, так вельмі обра́доваўсе, да бра́ціху страціў, а жонку взяў до себé — і жылі шчасьліво.

# Залатая рыбка

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Коле сіняго мора стаіць землянка. Коле той землянкі карыто стáрое, негóдное. А коле тагó карыта дзед з бабою. Вельмі аны́ бедны — немá нічого ў іх. Баба свáрыцься.

— Хоця́ ты пайдзі, рыбы налові.

Пашóў дзед. Як закінýў невóд, злавíў залатую рыбку. Рыбка дай прóсіцьса:

— Пусьці мне назáд у сіне морэ — я табé буду ў велікой угодзе.

Пусьціў он ее. Прыходзіць до сваé землянкі — гаворыць так і так. Дай баба скрычала:

— Чэмý ж ты ёй не нюс!

— Не мог несьці,— дзед кажэ,— вельмі просіласе...

Давáй крычáць:

— Ідзі ж ты, попросі, штоб нам хоця́ былó нóвое карыто.

Ідзé дзед на берэг. Вуходзіць рыбка:

— Чэгó ж ты, дзеду, хочэш?

— Мая́ старуха хочэ, штоб былó нóвое карыто.

— Ідзí — всё будзе.

Прыходзіць он — стаіць нóвое карыто — баба рада. Раздýмаласе — кажэ:

— Ідзí попросі, штоб мне былá хата хароша.

Ідзé дзед на берэг. Вуходзіць рыбка.

— Чэгó ж ты, дзеду, хочэш?

— Мая́ старуха хочэ, штоб былá хата хароша.

— Ідзí — всё будзе.

Прыходзіць — хата стаíць — баба ў пакоях. Пожылі аны́, дай баба кажэ:

— Не хочу быць мужычкой — хочу быць дворанкой, штоб мне былі палацы, коні, послугі.

Ідзé дзед на берэг. Вуходзіць рыбка.

— Чэгó ж ты, дзеду, хочэш?

— Мая́ старуха не хочэ быць мужычкой, а хочэ быць дворанкой, і штоб былí палацы, послугі, усё.

— Ідзí, всё будзе.

Прыходзіць — палац стаíць. Старуха ходзіць, убрана, хароша. Ну, добрэ. Да не схацела быць дворанкой — хочэ быць царыцой.

— Ідзí, попросí, штоб я былá царыцой.

Ідзé дзед на берэг. Вуходзіць рыбка.

— Чэгó ж ты, дзеду, хочэш?

Да брыдко ему́ стало — кажэ:

— Мая старуха не хочэ быць дворанкой, а хочэ быць царыцой.

— Ідзí — будзе всё.

Прыходзіць ён — ужэ́ не пані, а царыца — дрожы́ць по палацах ходзячы. Да пожылі аны́— дай кажэ:

— Ідзí к рыбцэ — кажы́ — я не хочу быць царыцой, а хочу быць морской ры́бою.

Ідзé дзед на берэг. Вуходзіць рыбка:

— Чэгó ж ты, дзеду, хочэш?

— Мая́ старуха не хочэ быць царыцой, хочэ быць морской рыбою.

А рыбка хвостом сплеснула, нічого не сказаушы. Прыходзіць он — аж землянка стаíць як даўней, і старое карыто.

# Ашуканцы

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Быў адзін чэловек бедный, бéденькій. Моху набрáў мех поўный і дýмае:

— Продáм замяш воуны, да мукí куплю́.

А другíй да быў, набрáў попёлу замяш мукі. Кажэ:

— Продáм, да воуны куплю́.

Ідýць — той сабé на место, а той сабé. Той хочэ купіць мукí, а той хочэ купіць воуны. Сашлісе на дарозе.

— Што ты,— кажэ,— браце, несеш?

А ён кажэ:

— Я хочу воуну продáць, дай купіць мукí — дзеці прокарміць.

Другíй кажэ:

— Я хочу мукі продáць, да воуны купíць маé дзеткі гóлые.

Дак ён кажэ:

— Браце, меняймо. Ты беры́ мой мех, а я твой.

Поменя́лісе на мехí — той думáў, што тагó ашукáў, а той, што тагó. Адбеглí — погледзелі.

— Ай, які ж ты хітрый! — той кажэ.

І другíй:

— А які ж ты мудрый!

Усыпáў усё на землю. Ну, ідýць аны́ на место— і той ідзé, і той ідзé. Схóдзяцьса.

— Ты,— кажэ,— браце, хітрый.

— І ты, браце, мудрый.

Дак той кажэ:

— Я в ету ноч на варце. Украдзём умесьце.

— Да я собáк боюсе.

— Мне сабакі знаюць — не будуць кусáць.

Ну, добрэ. Пашлі. Подкопалісе под той склад. Да той кажэ:

— Я стану наверсе — буду пільнова́ць — ты мешка́ выносі.

Он улез, накла́ў усего́ добра ў мешкі. Кажэ:

— Цягні́й наверх.

Да той як вы́цягнуў, дак на плечы — пабе́г. А он астаўсе. Да бег, бег за колькі вёрст. Іду́ць аны́ на место — той сабе́ ідзе́, а той сабе́.

Сашлісе аны́.

— Ты,—кажэ,— браце, тут?

— Але́ — я тут.

— Мы дзе́ліцьса будом.

— Да не — цяпе́р неможна. Будуць шука́ць дзесятніка́ — зловілі бы. Прыдзі́ заутра ве́чэром.

— Добрэ — прыду́.

Прыходзіць назаутра. Аж той адзеўсе пекне — лёг на лаве, замяш небо́шчыка. Дай жонка галосіць, на голову рукі.

— А мой Бог! А мой міленькі! Учора хадзі́ў, з людзьмі гавары́ў — а сегоня жэ умёр.

— Ну,— той кажэ,— хоця́ ўкленчу́, повем пацер.

Ойчэ наш, кторысь ест... да под ногамі его́ драп! Драп! Кто̀рысь ест в небе, сьвенцьсен*... і далей его драп! Драп! Той порушыўсе. Такій жэ ты небошчык! Ну, трэба встаць.

— Ах, браце,— кажэ,— які́й ты хітрый!

— Ну, браце, і ты жэ мудрый. Ну, будом дзе́ліцьса.

— Не,— кажэ,— неможна. Сегоня шукалі. Прыдзі заутра.

Назаутра, той, што ўмёр нібы, до ямы влез —

* У наваколлі Навагрудка людзі чытаюць малітвы па-польску.

накрыла жонка — седзіць. Прыходзіць той дабро́ дзеліць. Жонка ходзіць, рукі ломіць.

Кажэ той:

— Похвалёны Езус!

— Навекі веков, амэн.

— А дзе ж господар?

— А мой Божэ, а мой міленькі ўчора ўмёр дай ажы́ў — а сегоня поховалі.

— А дзе ж его́ поховалі?

— Дзе жо́ўцінькі песочэк.

— Пайду́ — повем пацер.

Пашо́ў — да не пацеры гаворыць — а дзерэ́ рукамі груб, дак замяш вола́ рэве́. Слуха́ў той у яме седзячы — ано́ кажэ:

— Каб цебе́ воукі зьелі!

Попра́віусе — дзерэ́ груб, дай рэве́.

— А каб ты здох!

— А ці ты, браце, тут?

— Я,— кажэ,— браце, тутак.

— А ты од мене́ сховаусе.

— Не, я не од цебе, браце — а шукалі добра́, так я нічого не ду́маушы, сховаусе.

— Ну, браце, выла́зь з ямы.

Выля́з он з ямы.

— Будом дзе́ліцса ў капліцы, там капліца пуста, ніхто́ не ходзіць.

Пашлі́ аны́ ў капліцу, подзелілі сває́ дабро́. Да разбо́йнікі напалі. Так адзі́н за алта́р, а другі́й у труну — похова́лісе. Находзяць разбо́йнікі. Дабро́ тое взялі — подзелі́лісе. Толькі палаша не разделілі. Кажуць:

— Хто ету труну перэсечэ́, таму́ пала́ш будзе.

Дак той разбойнік наме́рыуса палашом біць у труну — так той як дасьць ему́ із труны — а той з-за алтара — попугалісе аны́ — поуцекалі. Усіх разбо́йніков повыганялі. І сває́ дабро́ побралі.

# *Брат з сястрой жэніцца*

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Быў сабе дзед з бабою. Мелі аны двое дзеток — да надто харошые. Выгодовалі іх — да дзеду прышлосе ўміраць. Дай кажэ до сына:

— Калі толькі выросьціш, выберэш сабе на жонку такое лічко яе сам, альбо як сестра.

Памёр той ацец, а сын вырос, хочэ жэніцьса. Да трэба ж ему такого лічка як сам, альбо як сестра. Ездзіў он, шукаў, шукаў — нідзе не нашоў. Трэба з сестрой жэніцьса. Да як жэ то з сестрою жэніцьса? Велікі грэх будзе. Ана не хацела, плакала, да нема рады. Прышло до таго, што трэба до шлюбу іці. Пашла ана ў каморку ўбірацьса. Дай кажэ:

— Разступісе, земліца, брат з сестрой жэніцьса — цяжкі грэх будзе.

Земля разступіласе і ана в'ехала по костэчкі. А брат путае:

— А што ж, сестра, убраласе?

— Да шчэ,— ана кажэ,— панчох не клала. І зноў:

— Разступісе, земліца, брат з сестрой жэніцьса — цяжкі грэх будзе.

Земля разступіласе — в'ехала по калены. Да брат путае:

— А што ж, сестра, убраласе?

— Да шчэ,— ана кажэ,— чэрэвік не клала.

І зноў:

— Разступісе, земліца, брат з сестрой жэніцьса — цяжкі грэх будзе.

Земля разступіласе — в'ехала по пояс. Да брат путае:

— А што ж, сестра́, убра́ласе?

— Да шчэ,— кажэ,— кашулі не клала.

І зноў:

— Разступісе, земліца, брат з сестро́й жэ́ніцьса — цяжкі грэх будзе.

Земля́ разступіласе — в'ехала по грудзі. А брат путае:

— А што ж, сестра́, убра́ласе?

— Да шчэ спадніцы не клала.

І зноў:

— Разступісе, земліца, брат з сестро́й жэ́ніцьса — цяжкі грэх будзе.

Земля́ разступіласе, — в'ехала по шэю. Да брат путае:

— А што ж, сестра́, убра́ласе?

— Да шчэ,— кажэ,— горсэта не клала.

І зноў:

— Разступі́се, земліца, брат з сестро́й жэ́ніцьса — цяжкі грэх будзе.

Земля́ разступіласе і ана́ в'ехала саўсі́м на той свет. Бежы́ць ана́ бежы́ць — стаі́ць хатка. Вбегла ана́ до тое хаткі — седзі́ць ве́дзьміна дочка́ — акуратно такого лічка як сама́. Дай кажэ:

— Ой, мая́ матка як прыдзе, то цебе́ зьесь.

— Сестрыца мая́, ро́дненькая мая́, пайдзі́, будзь майму́ брату жонкой.

— Но, добрэ,— да ты цепе́р лезь за печку, бо мая́ матка ідзе́.

Застукоцело, загрумоцело — ведзьма ідзе́. Влецела — стуку, гуку! Да нюх! нюх! По хаце.

— Хры́сная душа пахне.

— Мая́ ма́мочко, тут ніякая пташка не летала, ніхто́ не быва́ў. Толькі я вышывала седзючы́.

Понюхала, понюхала — да дала ей доч напіцься — леглá спаць. Да быў у тое ведзьмы козёў, што дванадцаць горлóў меў, і кот, і стадо гусі. Да як матка заснула, аны́ розтопілі смолы, і залілі козлу горлы тые, а ведзьме залепілі очы. Да гусям далі оўсá, а катý далі сала. Да самі забралі адзене, грошы сколькі булó, і пашлí. Проснýласе ведзьма, да нічого не бачыць. Да стала крычáць:

— Коце, браце, продзéры очы! Гусі-лéбедзі, промочыце очы!

Да і кот не хочэ, і гусі не хочуць. А козёў кажэ:

— Агэ́, бабо, агэ́, стара, булá ў цебé подмóўвочка, подмóвіла тваю́ дочку ў чужою старóночку.

А ведзьма зноў клічэ:

— Коце, браце, продзéры очы! Гусі-лéбедзі, промочыце очы!

Да і кот не хочэ, і гусі не хочуць. А козёў кажэ:

— Агэ́, бабо, агэ́, стара, булá ў цебé подмóўвочка, подмóвіла тваю́ дочку ў чужою старóночку.

Да тые абедзьве прышлí до ей брата. Да як прывелá емý такою харошу, як он сам, так з ёй ажэніўсе, і веселье булó — і я там булá, мёд — віно пілá, в роце ніц не булó, а по барадзé цеклó.

# Пра багацце і беднасць

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Ішо́ў чэлаве́к бедный. Гледзі́ць — заяц! Не меў чэм нажыцьса — ду́мае:

— Я зайца злоўлю́, прода́м, да сьвіню куплю́. Свіня прыведзе́ дванадцаць порося́т — дванадца́церо шчэ по дванадцаць. Тады сьвіню поколю, мясо насолю́ — буду жэніцьса! Шмат мяса! Будзе што есьці. Да жонка породзіць два сыны́. Аны́ будуць сабе́ мець подданых — наказываць будуць, біць людзе́й. А я ска́жу — не рушце, не бейце! Бо нам кепско давней було́.

Як гукну́ў, так зайчык усхапіўсе і ўцёк. І богацтво его́ побегло́.

# Мужыцкая шчодрасць і хітрасць

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Було́ ў бацькі тры сыны́, два разу́мные, трэці дурэнь. Адзі́н із разумных жэніўсе — послалі дурня купля́ць масло. Як купі́ў — везе́ до дому. Бачыць, што земля́ поко́лота. Берэ́ масла, зама́зывае. Далей едзе — зноў земля́ поко́лота — зноў он маслом зама́зывае. Усё замазаў.

Прыежае до дому — путаюць:

— Дзе́ ж ты, дурны́й, дзеў масло?

— А я,— кажэ,— бачыў, што земля́ вельмі поко́лота, так я ё замазаў. Мне як палец крышку разколіць, то балі́ць, а то земля́ поко́лота — так ё жэ не балі́ць?

Но, указалі, набілі его́ — веселье готуюць. Кажуць:

— Ідзі́, просі на веселье.

Прышо́ў в адну́ хату, кажэ:

— Ідзі́, чэлавечэ, на веселье, але жонкі не беры́.

У другую хату:

— Ідзі́,— кажэ,— чэлавечэ, на веселье, але жонкі не беры́.

У трэцю хату таксамо. Попрыхо́дзілі мушчызны бэз жонок — пьюць, гуляюць, да нема́ з кім таньцова́ць.

— Чэму́ ты, дурны́й, не каза́ў, штоб жонкі прышлі́?

— Я пайду́, попрошу́.

Пашо́ў он по хатам просіць:

— Ідзеце́, жонкі, на веселье, але дзеці не берыце.

Прышлі́ аны́, гуляюць, танцуюць. Да кажуць:

— Трэба нам до дому, дзеці плачуць.

— Седзіце,— кажэ дурны́й, — гуляйце, я запрагу́ коня, прывезу́ дзеці.

Паехаў у село́. Кажуць, што дзеці адно́ не ўмыто, другое не ўбрано.

— Почэкайце,— кажэ,— я сам іх поубераю.

Вады́ нагрэ́ў добрэ, попарыў тые дзеці. Да покла́ў нежы́вые на воз, рублём прыцісну́ў, прывёз на веселье. Маткі рукі позаламывалі. От табе́ дурны́й!

# Ведзьма

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Було́ ў бацькі тры дочкі́. Адна́ кажэ:

— Я буду ўмець хорошо гуля́ць.

А дру́гая кажэ:

— А я буду хо́рошо вышыва́ць.

А трэця кажэ:

— А я буду хо́рошэ дзеткі родзіць.

Паны́ч тое чуў. Путае маткі:

— Матко, катору мне взяць? Ці ту, што хо́рошо гуляе, ці ту, што хо́рошо вышывае, ці ту, што хо́рошэ дзеткі родзіць?

Матка гаворыць:

— Беры ту, што хо́рошэ дзеткі родзіць.

Пожэні́лісе аны́, і даў Бог — ходзіць з дзіцятком. Трэба ему́ ехаць у дарогу. Каза́ў матцэ, штоб пілновала і штоб була́ сама за бабку. Не! Она́ поклікала ведзьму. Народзіўсе хлопец — хату осьвеціло. Надто харошы! Прышла́ ведзьма, забрала дзіця́ і ў карабе́ц пусьціла на морэ. А сповіла́ кота́ і пры ёй положыла. Ана́ кажэ:

— Ой, бабко, то не мае́ дзіцятко.

А тая кажэ:

— А дзе ж я его́ дзела!

Прыежае ей чэлаве́к, гледзі́ць. Стала ана́ плакаць велькемі сьлёзамі, што гэто не маё дзіця́ — баба недзе дзела, а мне кота́ сповіла́.

Позвалі ту бабу, на допро́с бралі, ана́ кажэ:

— То само.

Поверыў он, кажэ:

— Будзем другого чэка́ць.

Жыву́ць аны́ — заступіла ана́ ізно́ў. Зноў трэба ему́ ехаць — просіць маткі, штоб пілновала.

Паехаў — даў Бог до́чушку — на лбе месяц, на потыліцы зо́рочкі — нідзе́ тако́й пекней не найці! Да ведзьма зноў прышла́. Злавіла гадзіну, дай сповіла́ і пры ёй положыла. А до́чушку одкрала і на той жэ карабе́ц пусьціла. Прыежае он — гледзіць — рукі заламаў. Ана́ кажэ:

— Я не гэту гадзіну родзіла, а такое пе́кное дзіця́!

А тая ведзьма:

— А дзе́ ж я его́ дзела!

Но, нема́ рады. Жыву́ць аны́, жыву́ць — да сем гуод прашло́. Пашлі аны́ на спацэр і купацьса ў тое морэ. Купа́юцса аны́, аж тут прыплы́ў той карабе́ц — як шклянка розбіўсе. Аны́ — тые дзеці — сталі перэд імі. Дай матка познала.

— Ці не мае́ то дзеткі, што я вас родзіла?

— Так, ты наша, а мы вашэ. Нас Господ так трыма́ў і пропіта́ў.

Прышлі до дому, да найшлі ту бабу, і на жэлезну брону разсекалі. А аны́ жыву́ць, і прожываюць, і добра́ нажываюць.

## *Конь, сабака, кот і певень*

Павет Наваградскі, вёска Сянежыцы

Быў конь добрый — кормяць его́ оброком, мыюць, чысьцяць — да ехаць на ім добрэ. А як постарэе, то пусьцяць его́ — нехай небора́к цяга́еца. Таксамо і собачка. Малады́й, а чувалы, так его́ гледзя́ць. Як постарэе, а глухы́й, так ему́ не да́юць есьці, неха́й пропадае. Так і кото́к — маладзенькі мышкі ловіць, то его́ кормяць і хваляць — а постарэе, вон выкідаюць. Сошлісе аны́ тры разэм.

— Будом музыка́нтамі ўмесьце.

Пашлі́. У дварэ́ стаі́ць певень на паркане, крычыць: какарэку! Поздоровлялісе.

— Чэго́ ты крычы́ш?

— Як жэ мне не крычаці, сегоня ў маго́ пана будуць госьці, мне хочуць зарэзаць.

— Пайдо́м разэм.

Взялі аны́ певня. Іду́ць дай іду́ць — далёко в лесе аго́нь гары́ць. Стаі́ць хатка. Прыходзяць под акно́: разбо́йнікі понава́рылі, понапекалі, а Божэ міленькі! Гуляюць, пьюць, в карты граюць. А аны́ под акно́м стоячы, ду́маюць:

— Што б нам хоць раз што зьесьці!

Кажэ конь на собаку:

— Становісе на мене́.

А собака на кота́:

— Становісе на мене́.

А кот на певня:

— Становісе на мене́:

Так аны́ становілісе, а конь топнуў копытом у акно́, а собачка забрэхала, а кот замяукаў, а певень засьпева́ў. Тые разбо́йнікі адзі́н на другого, повылетывалі з той хаты — страх! Побеглі по лесе. Да аны́ войшлі в хату понаеда́лісе — да конь лёг на дварэ́ под порогом, а собачка в сенях, а кото́к на печы, а певень на жэ́рдочцэ. Разду́малісе тые разбо́йнікі там по лесе. Разбойнік самы найгоршый кажэ:

— Пайдо́м, погледзі́м, хто нас там розогна́ў.

Войшлі́ ў хату — ціхо. Ніхто́ не чэпае. Як шасну́ў запалку, так кот скочыў у очы, он собаку наступі́ў, собака за ногу ўкусіла, дай он на коня́ ўпа́ў, да конь копытом у плечы. А певень крычы́ць:

— Какарэку! Берыце его́, берыце!

Прышо́ў он до сваі́х товарышоў, кажэ:

— Пайдо́м мы ад той хаты: адно́ очы подрало, другое ногі покусало, а трэце плечы побіло. Да чэцьвёртэ шчэ крычыць: берыце его́, берыце!

## Заяц і вожык

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Зайчык смеяўсе з е́жыка:

— Куды́ ты ідзе́ш, крывые лапы твае!

А он уж зазловаўсе:

— Да мы пайдзём наву́перадкі — ці ты мне прагоніш, ці я цебе́?

А зайчык кажэ:

— Ну, добрэ.

Да ежык кажэ:

— Почэка́й, я шчэ повечэ́раю.

Прыходзіць до жонкі, кажэ:

— Стой тут у етом месьце — а будзе зайчык леціць, ты кажы́: уж я даўно́ тут.

Стаіць той ежык на том месьце, а ежы́кова жонка далей. Ну, раз, два, тры! Положыў зайчык ушкі, пабе́г. Ана́ стаіць, дай кажэ:

— Я ўжэ́ даўно́ тут.

Вернуўсе наза́д.

— Пайдзём шчэ раз.

Раз, два, тры! Пабе́г — туды́ стаіць ежык.

— Уж я даўно́ тут.

Лета́ў зайчык, лета́ў, умарыўсе — з носа кроў покапала — і здох.

# Дочкі

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Быў дзед з бабою. Мелі аны́ по дочцэ. Ба́біна дочка з дзе́довою глумілісе. Кажэ дзедо́вая дочка́:

— Та́точко, зрабі́ мне залатою прасніцу і залатое вараценó — пайду́ я ў сьвет, шчасья буду шукаці.

Зрабі́ў он ей залатою прасьніцу і залатое вароценó, дай павёў у ве́трыный млін, дзе злый дух ходзіць. Села ана́, прадзе, плачэ. Прыходзіць поўноч — зашумело ў лесе, вылетае злый дух.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

— Як жэ я пайду́ гуля́ць — нема́ чэрэвікоў.

Палецéў по чэрэвікі.

— Пойце, куркі, рано! Што мне стало! Чорны, ворухаты, як сьвіня порухата.

Прынёс ей чэрэвікі.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

— Як жэ я пайду́ гуля́ць — нема́ панчóх.

Палецéў по панчохі.

— Пойце, куркі, рано! Што мне стало! Чорны, ворухаты, як сьвіня порухата.

Прынёс ей панчохі.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

— Як жэ я пайду́ гуля́ць — нема́ подвязок.

Палецéў по подвязкі.

— Пойце, куркі, рано! Што мне стало! Чорны, ворухаты, як сьвіня порухата.

Прынёс подвязкі.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

— Як жэ я пайду́ гуля́ць — нема́ ў менé кашулі.

Палецёў по кашулю.

— Пойце, куркі, рано! Што мне стало! Чорны, ворухаты, як сьвіня порухата.

Прынёс ей кашулю.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

— Як жэ я пайду́ гуля́ць — нема́ ў мене́ спадніцы.

Палецёў по спадніцу.

— Пойце, куркі, рано! Што мне стало! Чорны, ворухаты, як сьвіня порухата.

Прынёс ей спадніцу.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

— Як жэ я пайду́ гуля́ць — нема́ ў мене́ горсэта.

Палецёў по горсэ́т.

— Пойце, куркі, рано! Што мне стало! Чорны, ворухаты, як сьвіня порухата.

Прынёс горсэ́т.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

— Як жэ я пайду́ гуля́ць — нема́ ў мене́ хфартуха́.

Палецёў по хфарту́х.

— Пойце, куркі, рано! Што мне стало! Чорны, ворухаты, як сьвіня порухата.

Прынёс ей хфарту́х.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

— Як жэ я пайду́ гуля́ць — нема́ ў мене́ сермягі.

Палецёў по сермягу.

— Пойце, куркі, рано! Што мне стало! Чорны, ворухаты, як сьвіня порухата.

Прынёс ей сермягу.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

— Як жэ я пайду́ гуля́ць — нема́ ў мене́ подушкі.

Палецёў по подушку.

— Пойце, куркі, рано! Што мне стало! Чорны, ворухаты, як сьвіня порухата.

Прынёс ей подушку.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

— Як жэ я пайду́ гуля́ць — нема́ ў мене́ пярыны.

Палецéў по пярыну.

— Пойце, куркі, рано! Што мне стало! Чорны, ворухаты, як сьвіня порухата.

Прынёс пярыну.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

А піу́н:

— Какарэку!

Дак он палецéў, пропа́ў. Ана́ побрала ўсё дабро́ — сермягі, подушкі, пярыны, усё — прыносіць до дому. Ба́біна дочка позаві́довала. Кажэ до маткі:

— Зрабі́ мне, ма́мочко, залатую пра́сьніцу і залатое вараценó — пайду́ і я ў той млін.

Зрабіла ей маць залатую пра́сьніцу дай залатое вараценó — пашла́ ў вéтрынны млін, села і прадзе. Прыходзіць поўноч. Прылетае злый дух.

— Дзеўка-дзевіца, падзі́ гуля́ць.

— Як жэ я пайду гуля́ць — нема́ ў мене́ ні чэрэвікоў, ні панчóх, ні подвязок, ні кашулі, ні спадніцы, ні горсэта, ні хфартуха, ні сермягі, ні подушкі, ні перыны.

Палецéў — да разэм усё прынёс. Дай взялісе аны́ гуля́ць. Гуля́ў, гуля́ў — вытра́с усé кóстэчкі, толькі шкура аста́ласе. Да повесіў на сосне. Чэкала баба сваéй дочкі́ — да кажэ:

— Падзі́ ты, дзеду, поба́ч, дзе ана́ подзéласе.

Шука́ў он, шука́ў. Бачыць — вісіць ана на сосне, коле вéтрыннаго мліна. Баба погледзела — нема́ дочкі́. Плачэ, рукі ломіць — нема́ маéй дóчушкі! А дзедова есь.

# Дочкі

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Быў сабе дзед з бабою. Мелі аны́ по дочцэ. Ба́біна дочка́ з дзедовою дочку вельмі глумілісе. Дава́й дзедо́вая дочка́ прасі́ць:

— Татушко, мой мі́ленькі, вазьмі́, зрабі́ мне пра́снічку залатою, дай верэцено́, дай заведзі́ мне на граніцу, дай посадзі́.

Зрабі́ў он ей прасніцу і верэцено́, дай завёў на граніцу. Села́ ана́ прасьці, да верэцено́ фуф, да палецело. Пабегла́ за ім — далеко́, аж на той сьвет. Бежы́ць, бежы́ць — staі́ць я́блонька. Просіць тое дзеўкі:

— Дзеўка-дзевіца, ру́сая косіца, атрасі́ мене́— сабе́ яблок возьмеш і мне́ аставіш.

Так і зрабіла. Страсла, сабе́ яблок взяла́ і там покі́нула. Бежы́ць, бежы́ць — staі́ць груша. Гаворыць:

— Дзеўка-дзевіца, русая косіца, атрасі́ мене́ — сабе́ груш возьмеш і мне аставіш.

Так і зрабіла. Сабе́ груш взяла́ і тут покі́нула. Бежы́ць, бежы́ць — staі́ць кароўка.

— Дзеўка-дзевіца, подо́й мене́ — сабе́ молока́ возьмеш і мне аставіш.

Так і зрабіла. Сабе́ взяла молочка́ і тут аста́віла. Бежы́ць, бежы́ць — staі́ць паршу́к.

— Дзеўка-дзевіца, заколі́ мене́, асмалі́ мене́ — сабе́ салца возьмеш і мне аставіш.

Так і зрабіла. Бежы́ць, бежы́ць — staіць дзежка з розчы́ною.

— Дзеўка-дзевіца, замесі́ мене́, посадзі́ ў печку — сабе́ хлеба возьмеш і мне аставіш.

Так і зрабіла. Бежыць, бежыць — стаіць хатка на курачэй ножцэ. Вышла ведзьма. Дзеўка кажэ:

— Похвалёны Езус!

— Навекі!

— А дзе ты, дзеўка, ходзіш?

— Хаджу службу доста́ць.

— А ты ж у мене́ згодзішсе?

— Добрэ,— кажэ, — згожусе.

— Так лезь у хату, кросна тчы. Всюды хадзі, толькі там не хадзі, дзе лычком завязано.

А сама́ такі палецела. Ана́, тая дзеўка, хадзіла, хадзіла — такі пашла́ туды — погледзела, развязала лычко. Бачыць: грошы шмат! Набрала, набрала поўен мех — понесла́. Прыбегае ведзьма — нема́ дзеўкі! Уха́піла тоўка́ч і побегла́ дзеўку ўняць. Стаіць дзежка з розчыною.

— Дзежка, ці не бачыла дзеўку бегучы, грошы несучы?

— Да не дагоніш, даўно прабегла́.

Стаіць паршук.

— Паршук, ці не бачыў дзеўку бегучы, грошы несучы?

— Да не дагоніш — даўно прабегла́.

Стаіць кароўка.

— Кароўка, ці не ба́чыла дзеўку бегучы, грошы несучы?

— Да не дагоніш, даўно прабегла́.

Стаіць груша.

— Груша, ці не ба́чыла дзеўку бегучы, грошы несучы?

— Да не дагоніш, даўно прабегла́.

Стаіць яблонь.

— Яблонка, ці не ба́чыла дзеўку бегучы, грошы несучы?

— Да не дагоніш, даўно прабегла́.

Так звінуласе ана́ з тэмі тоука́чамі наза́д, да шкода ей грошы. Да тая дзеўка прыбегла́ да сваéй хаты, прынесла́ грошы поуен мех — зрабіласе багата. Так гэта ба́біна дочка позаві́довала. Кажэ:

— Зрабі́ мне, ма́мочко, залатою пра́сніцу і залатое верэцено, да шоўкову кудзельку — заведзі́ мне туды́, дзе тая була́.

Зрабілі ей пра́сніцу і верэцено́, дай кудзе́ль далі́ — і завелі́. Села ана́, прадзе — да фуф! Палецело верэцено́! Пабегла́ за ім — далеко́, аж на той сьвет. Бежы́ць, бежы́ць — стаі́ць яблонь.

— Дзеўка-дзевіца, ру́сая косіца, атрасі́ мене́, сабе́ яблок возьмеш і мне аставіш.

— Нема́ часу — мне трэба бегчы.

Бежы́ць, бежы́ць — стаі́ць груша.

— Дзеўка-дзевіца, ру́сая косіца, атрасі́ мене́, сабе́ груш во́зьмеш і мне аставіш.

— Нема́ часу, мне трэба бегчы.

Бежы́ць, бежы́ць — стаі́ць карова.

— Дзеўка-дзевіца, ру́сая косіца, подо́й мене́, сабе́ мо́лочка во́зьмеш, і мне аставіш.

— Нема́ часу, мне трэба бегчы.

Бежы́ць, бежы́ць — стаі́ць паршу́к.

— Дзеўка-дзевіца, ру́сая косіца, заколі́ мене́, асмалі́ мене́, сабе́ салца возьмеш і мне аставіш.

— Нема́ часу, мне трэба бегчы.

Бежы́ць, бежы́ць, стаі́ць дзежка з цестом.

— Дзеўка-дзевіца, ру́сая косіца, замесі́ мене́, сабе́ хлеба возьмеш і мне аставіш.

— Нема́ часу — мне трэба бегчы.

Бежы́ць, бежы́ць, стаі́ць в лесе хатка на курачэй ножцэ. Вышла́ ведзьма.

— Похвалёны Езус!

— Навекі! Ці не тая дзеўка, што мне грошы ўкрала?

— Да не я, мая́ пані — да не знаю і не ве́даю.

— Лезь у хату, кросна тчы. Всюды́ хадзі́, толькі там не хадзі́, дзе лычком завя́зано.

Да сама́ тоўкачы́ побрала, дай у лес палецела. Да тая дзеўка ўсюды хадзіла, да і там пашла́. Грошы шмат. Набрала багато — по́уен мех — дай панесла́. Прылетае ведзьма — нема́ дзеўкі і грошы нема́. Ухапіла тоўка́ч, дай погоніць. Бежы́ць — стаі́ць дзежка з цестом.

— Дзежка, ці не ба́чыла дзеўку бегучы́, грошы несучы́?

— А ўот бежы́ць, зараз дагоніш.

Бежы́ць — стаі́ць паршу́к.

— Паршу́к, ці не бачыў дзеўку бегучы́, грошы несучы́?

— А ўот бежы́ць, зараз дагоніш.

Бежы́ць — стаі́ць кароўка.

— Кароўка, ці не ба́чыла дзеўку бегучы́, грошы несучы́?

— А ўот бежы́ць, зараз дагоніш.

Бежы́ць — стаі́ць груша.

— Груша, ці не ба́чыла дзеўку бегучы́, грошы несучы́?

— А ўот бежы́ць, зараз дагоніш.

Бежы́ць — стаі́ць яблонь.

— Яблонь, ці не ба́чыла дзеўку бегучы́, грошы несучы́?

— А ўот бежы́ць, зараз дагоніш.

Догнала, грошы адабрала, забіла тоўка́чамі, толькі ко́стэчкі асталісе. Баба дзеда просіць:

— Погледзі́ ты, дзеду — твая́ дочка́ хутко прышла́, а мае́й нема́ да нема́.

Дзед пашо́ў, да толькі ко́сточкі позбераў, прынёс. А была́ там сучка.

— Дзяў, дзяў! Дзéдова дочкá ў карэце езьдзіць, бáбіна дочка ў кошэлі* брэшчыць.

Баба кажэ:

— Што ты, сучко, брэшэш?

Взялá поляно, ножку перэбіла. Так анá на трох ножках скачэ.

— Дзяў, дзяў! Дзéдова дочкá ў карэце езьдзіць, бáбіна дочкá ў кошэлі брэшчыць.

Баба кажэ:

— Што ты, сучко, брэшэш?

Взялá, другою ножку перэбіла. Так анá скачэ на двох ножках.

— Дзяў, дзяў! Дзéдова дочкá ў карэце езьдзіць, бáбіна дочкá ў кошэлі брэшчыць.

Баба і трэцю ножку перэбіла. Так анá скачэ на аднóй ножцэ.

— Дзяў, дзяў! Дзéдова дочкá в карэце езьдзіць, бáбіна дочкá ў кошэлі брэшчыць.

Так баба ё саусім забіла.

## Кот і певень

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Жыў сабé катóк з петушкóм у аднóй хатцэ. Катóк пашóў на жыр, да кажэ до петушкá:

— Нікагó не пускáй у хату — зачыні́ дзьверы, да не пускáй.

Пашóў ён. Прыходзіць лісіца і просіцьса:

— Пусьці́ мне, петушóк, толькі нóжэнькі пагрэ́ць.

* Кошэль — торба. У кошэлі брэшчыць — у торбе брэша.

Взяў он пусьціў. А лісіца его́ ўхапіла дай панесла́. Крычы́ць петушо́к на котка́:

— Като́к-брато́к, лісіца мне ўхапіла! Несе́ мне за ўсо́кіе горы, у глубо́кіе норы.

Като́к почу́ў, прыбе́г і абараніў петушка́. Да зноў ему́ трэба іці́ на жыр. Кажэ:

— Ну, памята́й. Нікаго́ не пуска́й ў хату — хоця бы як прасіла.

— Не пушчу́.

Пашо́ў като́к. І зноў прыходзіць лісіца, про́сіцьса:

— Пусьці́ мне, петушо́к — я змерзла — толькі ножкі пагрэць.

Прасіла́ ана́, просіла. Взяў петушо́к, дай пусьціў. Дак жэ ана́ его́ ўха́піла і панесла́. Крычаў, гука́ў ён на котка́ — да като́к далеко́ зайшо́ў у лес — не чуў. Прышо́ў он до сваёй хаткі — бачыць — нема́ петушка́. Пашо́ў жэ ён шука́ючы. Хадзіў, хадзіў то сюды́, то туды́ — да трапіў на гэту гору. А то була́ не лісіца да ведзьма. Мела ана́ тры до́чушкі.

Спусьціўсе като́к до ее́ норы і нашо́ў петушка́. Да гэтым до́чушкам он вельмі сподобаўсе. Старша кажэ:

— Я хочу за цебе́ замуж іці́.

— Ну, добрэ,— он кажэ,— так ідзі́ на гору, да мне там почэка́й. Я тут спраўлюсе, прыйду́ і цебе́ за жонку вазьму́.

Пашла́ ана́ ўбраласе на гору і чэкае. Да серэдульша кажэ:

— Я хочу за цебе́ замуж іці́ — ты мне надто сподобаўсе.

— Ну, добрэ, — он кажэ, — так ідзі́ на гору, да мне там почэка́й.

Пашла́ ана́ і чэкае. Да меньша кажэ:

— Я хочу за цебе́ замуж іці́.

— Ну, добрэ. Вулёзь на гору, почэка́й — прыду́, вазьму́ за жонку. Толькі ж выкінь мне вероўку, штоб я мог выйці.

Да като́к взяў петушка́ на плечы, дай по вероўцэ вулёз на гору. Там забіў, задра́ў, заёў усё тры ведзьмо́вые дочы, дай ўцёк до сваё хаткі. Дай жыву́ць аны́ і жыву́ць з петушко́м — от тут недалечко за Сянажы́цамі — і цяпёр жыву́ць.

## Дудка

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Було́ ў бацькі тры сыны́, два разу́мные, а трэці дурэнь. Надзяўсе ў іх садзе дзік. Ніхто́ таго́ дзіка не выгоніць. Бацько послаў ста́ршаго, не выгоніў. Посла́ў серэду́льшага — і той не выгоніў. Кажэ ён до трэ́цяго:

— Ідзі́ ты, хоць дурны́й — попробуй.

Пашо́ў дурэнь. Зловіў дзіка і ўбіў. Прыходзіць до дому, кажэ:

— А што, татко, хоць я дурэнь, такі ўбіў дзіка.

— Ну, добрэ. Дзе ж его́ — таго дзіка — дзяць?

— Трэба его́ ў лесе закопа́ць.

Пашлі́ тые браты ўтрох, закопалі дзіка. Дай позаві́довалі дурню — дай брата забілі і поховалі ў мурау́ю. Прыходзяць до дому. Бацько путае:

— Дзе ж дурэнь?

— А хто ж его́ вёдае! Пашо́ў дзе — то, вёдомо, дурэнь.

Нема́ сына. Бацько чэкае адно́ лето, другое — нема́, дай і чуткі нема́. Дай на мурау́ю вы́росла

ербá. Пастушкі каровы паслі, зрэ́залі ербіну, зрабілі сабé дýдочку. Сталі граць. Як сталі граць, так дýдочка кажэ:

— Заграй, заграй, пастушóк — менé братко ўбіў, да за тагó дзíчэнька, што ў садочку рыў.

Ідýць касцы́. Почулі гэ́тую дудку, кажуць:

— Хлопцы, да дзе ж вы ё взялі?

— От, тут, —кажуць, — вырэ́залі — ербіна росла, так вырэ́залі.

Касéц взяў, заграў — дак дудка:

— Заграй, заграй, дзéдочко — менé братко ўбіў, да за тагó дзíчэнька, што ў садочку рыў.

Едуць купцы́. Купéц почуў, кажэ:

— Продайце мне гэту дудку.

— А што даце?

Ну, поторговáлісе аны, купіў купéц гэту дудку — заграў. А дудка:

— Заграй, заграй, кýпчыку, менé братко ўбіў, да за тагó дзíчэнька, што ў садочку рыў.

Заéхалі тые купцы́ на ноч до чэлавека. А до якого чэлавека? До тагó бацькі. Сталі аны́ граць на гэтой дудцэ, так брат кажэ:

— Што тая дудка гаворыць? Дайце мне — я заграю.

Заграў, а дудка:

— Заграй, заграй, брáцейко, ты менé ўбіў, да за тагó дзíчэнька, што ў садочку рыў.

Сестрá почула, кажэ:

— Што, гэто? Пазвóль, я попрóбую. А дудка:

— Заграй, заграй, сестрыца—менé братко ўбіў, да за тагó дзíчэнька, што ў садочку рыў.

Да матка кажэ:

— Дайце мне.

А дудка:

— Заграй, заграй, мáмочко, менé братко ўбіў, да за тагó дзíчэнька, што ў садочку рыў.

Бацько почу́ў.

— Што гэто сталосе! Дайце я побачу.

А дудка:

— Загра́й, загра́й, та́точко, мене́ братко ўбі́ў, да за таго́ дзі́чэнька, што ў садочку рыў.

Догадалісе ены́. Дава́й прызнавацьса. Бацько путае:

— Дзе вы его́ дзелі? Кажыце. Справедліво. Нішто́ вам не будзе.

Аны ўсё сказалі. Так пашлі́ до мурауя́, одкопалі, да зрабілі труну — усё чысто — і поховалі на могілках.

## *Блізняты*

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Быў каро́ль з каралёву. Мелі аны́ сына́. Взяў той сын, ажэніўсе. Побылі аны́ самі з сабою гадо́ў тры — дай ана́ в ценжы. А ему́ трэба ехаць. Паеха́ў он, а ана́ мела блізьнята, два сынкі́ — надто красі́вые! На потыліцы месяц, а на лобе г'ве́здочка. Напісала до мужа пісьмо, што так і так, і послала сваі́м па́робком — што даў Бог два сынкі́ красі́вые, на потыліцы месяц, а на лобе г'ве́здочка. Той па́робок нёс, нёс тое пісьмо́, да зайшо́ў на ноч. У лесе хатка стаі́ць, так зайшо́ў. А там жы́ла ведзьма, і ў ей була́ дочка. Дак е́тая ведзьма, як толькі па́робок засну́ў, адняла ў его́ пісьмо́ — перэчытала, да тое кі́нула ў печку, а напісала другое: што родзі́лосе дзіця́ ні воук, ні звер. Бог ве́дае што! Дай па́робок панёс. Ве́домо, чыта́ць не ўмее, не ве́дае, што несе́. Як прышо́ў, адда́ў пісьмо́. Да той муж — каралевіч — перэчыта́ў, дай на-

пісáў зараз: штоб іх не було́, паку́ль до дому прыедзе. Стыд! Як не людзям! Да позабівалі тые сынкí, у саду поховалі. Вы́росьлі на могілках два я́воры. Прыехаў каралевіч до дому — сынкоў нема́. Да кажэ до жонкі:

— Што ты мела! Ні воук, ні звер! Бог ве́дае што!

Взяў і ее́ прогна́ў. Пашла́ ана́ бе́дненька, а он взяў ажэніўсе з той ве́дзьміной дочкой. Жыву́ць аны́, жыву́ць. Да тая ве́дзьміна дочка́ гаворыць:

— Нашто тые я́воры седзя́ць! Трэба зсеч іх да спаліць.

Спалілі тые я́воры, да попёў у́кінулі на двуор. Гоніць пасту́х авечкі. Взяла́ авечка, лізнула таго́ попельца́ — зрадзілісе ў ей блізьнята, два бара́нчыкі, харошы не жарты. Рослі аны́ — да не бара́нчыкі, а зрабілісе сынкí. Тые самые — месяц на потыліцы, а на лобе г'ве́здочка. Ідзе́ тая іх матка абадраушысе, ашарг'аушысе, про́сіцса до іх на службу. Ну, добрэ — стала ў іх служыць, дай познала іх, што ето ей сынкí. Жыву́ць аны́, жыву́ць. Да той каралевіч хочэ, штоб ему́ хто байку сказа́ў — лежы́ць на ложку, дай кажэ:

— От, хаце́ў бы, каб хто байку збаяў.

Ніхто́ тако́й байкі не ўмее, як тые два хло́пчыкі. Трэба іх заклíка́ць. Прышлі аны́ — дава́й баяць.

— Ото так було́: быў каро́ль з каралёвою, мелі аны́ сына́. Той каралевіч ажэніўсе, да тры годы былí з сабо́й — мусеў ён уехаць. Да ана́ ро́дзіла двох сынко́ў — месяц на потыліцэ, а на лобе г'вя́здочка.

Да той каралевіч кажэ:

— Так було́.

— Дак ана́ напісала пісьмо́, што так і так, даў Бог сынко́ў — і послала сваі́м па́робком. А той зайшо́ў на ноч у ве́дзьміну хату — дай лёг спаць.

Да той каралевіч кажэ:

— Так було́.

— А тая ведзьма пісьмо́ перэменіла і напісала, што родзілосе дзіця́ ні воук, ні звер, неве́домо што.

Дай он кажэ:

— Так було́.

— Так той каралевіч напіса́ў, штоб сыно́ў стра́цілі, а пато́м і жонку прагоніў і з ве́дзьміной дочкой ажэніўсе.

— Так було́.

— А гэтых сынко́ў забілі, дай ў садзе закопалі, а на могілках вы́рослі два я́воры. Да тая ве́дзьміна дочка́ сказала, штобы іх зсеклі́, да спалілі на попёў.

— Так було́.

— А той попёў ўкінулі на двуор і авечка зліза-ла, і прывела́ два бара́нчыкі.

— Так було́.

— А з етых бара́нчыкоў зрабілісе два хло́пчыкі, на потыліцы месяц, а на лобе г'вя́здочка. Дак тые хло́пчыкі знялі ша́почкі — асьвецілі пако́й. А той каралевіч схваціўсе:

— Ах, я нешчасьлівы! То ж мае́ сынкі́!

Взяў гэту другую жонку, ве́дзьміну дочку́, на жэлезну барону разцягну́ў — дай коньмі порозрыва́ў — начысто. А гэту первою взяў ізно́ў до себе́ — і жыву́ць аны́ разэм — дай цепе́р жыву́ць.

# Рыбалоў і ліса

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Паехаў рыболо́ў по рыбу. Наловіў цэлый воз. А ліса́ погледае. Забегла́ на дарогу, зрабіласе нежы́вою. Прыехаў он, ўкінуў на воз.

— Неха́й будзе — зраблю́ калні́р до шубы.

Едзе он далей, а ана́ продрала дзюрочку ў меху́, рыбкі выкідае. Он не агледзіўсе. Прыехаў до дому, клічэ жонку:

— Рыбы выймай!

А тут рыб нема́. А ліса ўско́чыла, пабегла́, рыбкі повыкідаўшы. Позберала, смакуе яка смачнейша. Прыходзіць до ее́ воук, кажэ:

— Кумко, галубко, што ты еш? Дай мне.

— Ага, зараз! Так пайдзі́, налові́.

— А дзе ж, кумко, голубко, ловіць?

— Пайдзе́м, я табе́ покажу́.

Павела́ его там, дзе быў перэсечо́н лёд.

— Тыч хвост у рэку.

— Кумко, галубко, а як мне казаці?

— Кажы́: берысе рыбка веліка, малая! Берысе рыбка веліка, малая.

А сама сабе́ бега́ючы кажэ:

— Мерзні́, мерзні́.

Стаў хвост умерза́ць. Цяжко ему́ подума́ць.

— Не, не руш. Неха́й набераецса шмат.

Як умёрз саусі́м, подскакуе.

— Цягні́, цягні́.

А ён не можэ. Дай ана́ пабегла́ до села́, крычы́ць:

— Людзе, людзе, ідзеце́ воўка біць.

Набеглі з кочэ́ргамі, з поме́ламі — воўка забілі. Да кума воўка звела́.

# Хлопчык і воўк

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Быў дзед з ба́бою — не мелі аны́ дзецей. Взяў дзед, адсе́к сабе́ палец і паложыў в печу́рэчцэ*. Пальчык лежа́ў, лежа́ў, да зрабіўсе хлопчык. Ідзе́ дзед ара́ць. А той хлопчык уро́с ужэ́ — гаворыць:

— Дзедку мой галу́бочку, пайду́ з табо́й.

— Ці ты, — кажэ, — сынку, пойдзеш? Ці ж ты здолееш? Гэто далеко́!

— Дарма́, дзедку, пайду́.

Взялі аны́, пашлі́. Ару́ць аны́, ару́ць — а хлопчык одста́ў. Прыходзіць до его́ воук. Взяў дай зьеў. Дай хлопчык у том воуку седзячы, не дае́ ему́ прыпо́ніцьса, мучыць его́, по́рае. Воук рад бы его́ вы́кінуць, да хлопчык кажэ до его́:

— Несі́ мне на дзедово поле.

Прынёс на дзедово поле, кажэ:

— Лезь з мене́.

— Не, не полезу — несі́ ў дзедовый двуор.

Прынёс он его́ на двуор, кажэ:

— Лезь з мене́.

— Не, не полезу — несі́ ў дзедо́вые сені.

Прынёс его́ ў сені. Дзверы адчы́нены, да дзед не чуе. Кажэ воук:

— Лезь з мене́.

— Не, не полезу — несі́ ў дзедову хату.

Вайшо́ў воук у хату. Дзед як зерне — воук! Як схваціўсе, дзьверы зачыні́ў. Біў, біў, паку́ль не забі́ў. Хлопчык тады́ вылёз з воука. І жыве́ з дзедом добрэ — да надто багато!

* Печурэчка — малая ямка на правым баку ў печы.

# Вядзьмак і ведзьма́

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Быў дзед з ба́бою. Баба була́ ведзьма, а дзед ведзьма́р. Взяў дзед дай помер. Баба кажэ:

— Кабы хто пры дзеду ночэва́ў, я б ему́ дала́ чорну кароўку, і шчэ грошы трошкі.

А була там сероцінка бе́дненька. Кажэ:

— Я магу́ перэночэва́ць.

— Ці ж можэш?

— Да я магу́, перэночую.

Ну, добрэ. Взяла тая ведзьма, дала ей прасьці тры фунты кудзелі і поставіла рэшото верэцён.

— Ну, прадзі́, каб не заснула.

Сероцінка села пры небо́шчыку, дай прадзе. Да ру́шыцса небошчык — ве́домо, ведзьма́р! Да кажэ:

— Дзеўка-дзевіца, а што ты робіш?

— Праду́ — за бело млічко, за чорну кароўку.

Поворо́чыўсе дай встаў.

— Дзеўка-дзевіца, а што ты тут робіш?

— Праду́, за бело млічко, за чорну кароўку.

Сеў.

— Дзеўка-дзевіца, а што ты тут робіш?

— Праду́, за бело млічко, за чорну кароўку.

— Я цебе́ зьем,— кажэ.

Моўчы́ць ана́ — да прадзе. Ру́шыцьса он к ёй— дак ана́ на пры́печэк.

— Я цебе́ зьем.

На пры́печэк лезе за ею. Дак ана́ на печку.

— Я цебе́ зьем.

На печ лезе. Да: Гам! І зьеў. Да надто ведзьма́р быў. Ду́рная сероцінка ду́мала, што ей нічого не будзе. От, і байкі канец.

# Кум і кума

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Быў дзед з бáбою. Не годовалісе ў іх дзеткі. Научылі іх, кабы вышлі на дарогу і попрóсілі на куму кагó сустрэчаюць. Сталі аны́ на дарозе. Бачуць — ідзé Бог — старый чэлавечэк. Гаворыць той дзед:

— Хто ідзé?

— Я Бог.

— Прашу́ Бога ў кумы до магó дзіцяці.

Ну, добрэ. Да шчэ кумы немá. Бачыць дзед— ідзé кабета.

— Куды́, кабетко, ідзецé?

— А я туды́, у селó, іду́.

Да гэто булá смерць.

— Прашу́ вас ў кумы до магó дзіцяці.

Ну, пашлі аны́, забралі дзіця́, хрэсьцілі. Да той дзед быў вельмі бедный — нічого ў егó не булó. Дак смерць ему́ кажэ:

— Я табé скажу — ты будзь за дóхтора. Як прыдзéш до хвóраго, поглядзí: калі я буду ў гóловах стáяць, то ачунее, а калі ў ногах — помрэ́.

Ну, добрэ. Стаў он за дóхтора. Позвалі егó до пана. Прыходзіць, гледзíць, пан в ложку ляжы́ць, а смерць в головáх. Дак он гаворыць:

— Дайце пану арбаты.

Далі арбаты, встаў пан, ходзіць. Так ему́ наклалі вшэля́каго добрá, до дому пашóў. Велікі богаты́р зрабіўсе! Захварэ́ў у аднóм месьце кароль. Нарáілі ему́ тагó дзеда. Посылае карóль хфу́рмана по егó. Прыехаў, побачыў, дай карóль выздоровéў. Далі ему́ грошы багато, усегó — дай коні запраглí. Едзе до дому. Прыежае ў ве-

лікі лес — стаіць хатка. Зайшоў до тое хаткі. Нікого нема́, толькі на столе́ абру́с і хлеб ляжы́ць. Зайшо́ў далей — а тут свечы гара́ць. Дай сустрэкае куму сваю́.

— Почэму́,— кажэ,— у цебе́ нікого нема́, толькі свечы гара́ць?

— А то,— кажэ ана́,— і́нные загарыва́юцса, а і́нные потухаюць.

Адна́ кончыласе гары́ць. Кума кажэ:

— Бачыш — то твая́ свечка — ты зараз помрэ́ш.

— А мая́ ж кумко, мая́ галубко, хоця́ б я шчэ гуод пожы́ў.

Прасі́ўсе он, прасіўсе, шчэ хоць на гадо́к.

— Ну, добрэ,— ана́ кажэ,— но я за гуод по цебе́ прыду́.

Пашо́ў ён до дому, думаў, думаў — да взяў, зрабіў ложко на адно́й нозе. За гуод прыходзіць смерць — да он у ложку ляжы́ць, да круці́ць. Як ана́ ў ногах, он пакруціць, да смерць у го́ловах стаі́ць. Хадзіла ана́, хадзіла, дай он круці́ў і круці́ў. Відзіць смерць, што рады нема́ ніякей — взяла́ дай зарэ́зала.

## *Чорт*

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

На адселені тры хаткі. У адно́й поп жыве́, а ў дзьвох господары́. У ўся́каго було́ по сыне́. Пашлі́ тые тры сыны́ служыць. Іду́ць, іду́ць — стаі́ць жэлезная хатка. Зайшлі́ аны́ до тое хаткі — нікого нема́. Пашлі ў хлеў — стая́ць волы́. Адзі́н астаўсе ў той хатцэ, а дзьвох пашло́ ў лес. Пазірае он у акно — ідзе́

старый чорт, сівый, а барада на тры сажэні доўга. Двадцаць пудоў сена несе на сабе, і пядзесят каромыслоў вады. Кажэ гэтой чорт:

— Чэго ты тут у маей хатцэ?

Взяў его, забіў да всадзіў у печку — і пашоў зноў. Прыходзяць гэтые два. Бачуць — товарыш у печы. Выцягнулі его, ачунілі, да вола зарэзалі і всадзілі ў печку. Аставілі аны тут другого, штобы пілноваў, а ўдваіх пашлі ў лес. Прыходзіць ізноў старый чорт. Несе двадцаць пудоў сена і пядзесят каромыслоў вады.

— Чэго ты,— кажэ, —ў маей хатцэ?

Взяў таго хлопчыка, забіў і подопхнуў под хату. Дай пашоў сабе. Прыходзяць тые два з лесу— бачуць — товарыш забіты лежыць под хаткой. Вынялі его, ачунілі. Гледзяць у печку — волы шчэ не попеклісе. Так аставілі трэцяго пільноваць, дай пашлі зноў. А ён називаўсе Іван. Бачыць — ідзе старый чорт, несе двадцаць пудоў сена і пядзесят каромыслоў вады.

— Чэго ты,— кажэ,— у маей хатцэ?

— Я табе,— Іван гаворыць — мяса спёк, штоб ты наеўсе.

Даў ему таго мяса, да той еў, еў, да залез за печку, дай заснуў. А ў его була барада тры сажэні доўга. Так той Іван взяў за бараду, мяньціў, мяньціў, выцягнуў у поле, дай кінуў его з горы — ён лецеў, лецеў з горы — дай упаў угору, дай палецеў на той сьвет. Вороціўсе Іван до хаты і кажэ на товарышоў:

— Скруцім мы вероўку на тры сажэні доўгу.

Скруцілі аны вероўку і пашлі до тое горы. Купіў он ім карты і гаворыць:

— Сядзьце тутока — грайце. Мо мене гуод, мо мене месяц не будзе.

Взялі, спусьцілі его до той горы, на той

сьвет, да самі селі в карты грацъ. Да он як спусьціўсе на той сьвет, так пашоў. Ідзе ён, ідзе — стаіць веліка яліна. Влез на яліну, а там сакол з саколенятамі. Хацеў саколенята пабраць, да сакол просіць кабы не рухаў.

— Табе,— кажэ,— шчасьлівей будзе.

Покінуў іх не рухаушы. Ідзе, ідзе — стаіць медзяный дом, а ў том доме седзіць красіва панна, каралёва дочка. Пашоў ён далей —стаіць серэбраный дом, а ў том доме седзіць красіва панна, серэдульша каралёва дочка. Пашоў шчэ далей. Стаіць залатой дом, а ў том доме седзіць меньша каралёва дочка, такая пекна, што ах! А гэто чорт з барадою іх зачараваў усе тры і заволочыў на той сьвет. Дак тая меньша гаворыць до Івана:

— Чэго тут ходзіш? Цебе зараз на сьвеце не будзе.

А ён кажэ:

— Напойце, накорміце — тады разпрашыце.

Напоіла, накарміла і так научыла его:

— Падзі ты, — кажэ, — у каморку — стаяць дзьве бочкі віна. На левой старане немоцна, а на правой моцна бочка віна. Перэкаці моцну на левую старану, а немоцну на правую. Ето моцное віно хто выпіе, вдвойне сілы прыбудзе, а немоцное — вдвойне адбудзе.

Он взяў, перэкаціў моцную бочку налево, а немоцную направо. Да взяла ана его, сховала ў каробку. Леціць той чорт з барадою. Іван вылез із каробкі, давай біцьса з чортом. Білісе, білісе, уморылісе. Чорт кажэ:

— Пайдом, віна попьём.

Прышлі до тых бочэк. Чорт піе з правой, Іван да з левой. Чорт напіўсе немоцнаго, а Іван моцнаго. Іван як напіўсе — вдвойне сілы прыбыло. Як взяў за бараду, так разтрас, побіў, саўсім

начысто забіў таго́ чорта. Прышо́ў ён до тых красных панен, каралеўскіх дочэк. Почастова́лісе, дай іду́ць ужэ на той сьвет. Да той Іва́н усё агледаецса:

— Чэго́ ты, Іване, агледа́ешса?

— Як мне,— кажэ, —не агледацьса? Дом красівы, як мне его́ покінуць?

— На табе,— кажэ меньша,— ху́сточку. Як махнеш направо, такі́й жэ самый дом будзе.

А серэдульша сестра́ дала́ ему́ каро́бочку.

— Як повернеш,— кажэ,— направо, стане, што сабе́ хочэш.

А старша сестра́ дала́ ему́ ду́дочку:

— Як зайграеш,— кажэ,— што сабе́ хочэш.

Прышлі́ аны́ до горы. Клікну́ў Іва́н на това́рышоў, кабы вероўку кінулі. Посадзіў старшу — выця́гнулі. Вельмі ім спадоба́ласе. Посадзіў серэдульшу — выця́гнулі, дай такжэ сподоба́ласе ім. Дай і трэцю меньшу выця́гнулі — а ана́ ж была́ найпекнейша. Да про́сіцьса Іва́н, кабы і ему́ вероўку спусьцілі, штоб ён выле́з. Спусьцілі ему́, і он стаў лезьці. Аж тут праходзіў Цыга́н. Кажэ:

— Не вуцягайце, астаўце ў яме. Мне будзе адна́ паненка, і вам по адно́й.

Да аны́ як пусьцілі вероўку, так ён і ўпа́ў і зарыўсе ў сажэнь в землю. Ду́мае — што мне тут рабі́ць? Взяў, выпіў мо́цнаго віна́, дай ву́скочыў наверх. Но на той свет не можэ ву́скочыць. Ідзе́ он, ідзе́ — лецíць сако́л.

— Падзі́,— кажэ,— набі́й малых птушэк дзьве кадушкі. Я цебе́ поратую.

Он взяў набіў дзьве кадушкі малых птушэк.

— Да ты,— сако́л кажэ, — сядзь на мене́. Як я буду лецёць, так ты мне по птушцэ ў горло кіда́й.

Сеў на его́, дай кідаў ему́ птушкі ў горло. І он его́ із той горы вынёс. Ну, добрэ. Ідзе́ он, ідзе́. Прыходзіць до адно́й хаткі. Там жыву́ць дзед з бабою. Зайшо́ў перэночэваць. Назаутра кажэ до таго́ дзеда:

— Пайдзі ты, дзе́духно, мо ты в го́родзе што почуеш.

Пашо́ў той дзед у город. Каро́ль г'азэты посла́ў, штоб дочкам харошэ кашулі пашылі.

— Пайдзі́ ты, дзеду,— Іва́н гаворыць,— скажы́, што ты добрый краве́ц.

Пашо́ў стары́й, згодзіўсе кашулі пашыць. Каро́ль даў ему́ сто рублёў на адзене, а за работу двесьце рублёў дась як зробіш. Да Іва́н ето адзене взяў, подра́ў, кінуў, стопта́ў. Плачэ дзед ходзячы:

— Заутра до короля́ трэба го́лову несьці́.

Іва́н встаў уночы, загра́ў на сваёй ду́дочцэ — кашулі таке пе́кные сталі! Занёс дзед тые кашулі, даў ему каро́ль двесьце рублёў за работу. Іва́н кажэ:

— Падзі́ ты, дзе́духно, до го́рода — до Нава́грудка — мо што почуеш?

Пашо́ў ізно́ў. Каро́ль г'азэты посла́ў, штоб пекне чэрэвікі для дочэк пашылі.

— Падзі́ ты, дзе́духно, — Іва́н гаворыць, — скажы́, што ты добры шэуц.

Пашо́ў стары́к, згодзіўсе чэрэвікі для королеускіх дочэк пашы́ць. Даў ему́ каро́ль грошы, штоб товару накупіў. Да Іва́н той това́р взяў подра́ў, стопта́ў. Плачэ дзед ходзячы:

— Заутра до короля́ трэба го́лову несьці́.

Іва́н встаў уночы, поверну́ў сваю́ каро́бочку — сталі чэрэвікі таке пе́кные, што ўх! Занёс дзед каролю́, грошы багато доста́ў. Рад вельмі, што забогацёў. Пасылае Іва́н зноў его́ ў город.

— Падзі ты, дзе́духно, мо што почуеш.

Ажно тут каро́ль посла́ў г'азэты, кабы хароша му́зыка була́. Жэніць он сває́ дочкі з е́тымі хло́пчыкамі, това́рышамі, што в карты гралі. А меньшу жэніць з гэтым Цыганом.

— Падзі ты,— Іва́н кажэ,— скажы́, што ты добры музыка́нт.

Пашо́ў дзед, зго́дзіўсе з каралём. Каро́ль даў ему́ сто рублёў на скрыпку. Да он у купца вытаргова́ў, за два рубля́ купі́ў. Дай Іва́н ту скрыпку взяў, побі́ў, кінуў. Дзед плачэ, да смо́лою лечы́ў скрыпку, кабы грала — не хочэ.

— Заутра́ до короля́ трэба го́лову несьці́.

Іва́н встаў уночы, ху́сточку махну́ў направо. А тут музыканты зэ скрыпкамі, з трубамі, з цымбаламі, з орга́намі. Загралі, заглушылі. Дзед думае, што хата гары́ць. Схапіўсе — бачыць, му́зыка ў его! Павёў он гэту му́зыку до короля́, і Іван ідзе. Научыў его́:

— Ты стань на адно́й старане́, а я на другой, а музыканты ў серэдзіне.

Сталі аны, да дочкі і кагуць:

— Трэба, папо, музыкантам водкі даць.

Далі ім водкі — да трохі познaлі, што Іван.

— Трэба даць ім, папо, по другому келішку.

Да добро познaлі. Кагуць:

— Трэба, папо, шчэ по трэцім келішку ім даць, то добрэ будуць граць.

Да цепе́р меньша познала саусі́м Івана, да на шыю зачэперыласе, а дзьве другіе на коленках перэд ім сталі.

— От, папо,— гаворaць, — хто нас з таго сьвета выбавіў. Да Цыган перэшкодзі́ў.

Дай каро́ль адда́ў меньшу дочку Івану, а дзьве другіе гэтым това́рышам. А Цыгана прывязалі до слупа — і цалый полк солдатоў стрэляло да его.

# *Спрытная жонка*

Павет Навагрудскі, вёска Сянежыцы

Быў у лесе стражнік, да велікі пья́ніца. А жонка ў его́ хароша була́. Пашла ана́ до двора́, до пана, дай просіць:

— Мой паночку, мой залаценькі, мой мужы́к усё пье — нема́ чэго́ есьці.

Да вельмі пану сподобаласе. Кажэ:

— Я ўвечор прыду́, прынесу́.

Пашла́ ана́ до аконома:

— Ці не даце мне чэго́ зьесьці. Нема́ ў нас нічого.

— Я,— кажэ,— увечор прыду, прынесу́.

Пашла́ ана́ до комісара. Просіць чэго́ есьці. Комісáр кажэ:

— Я ўвечор прыду́, прынесу́.

Пашла́ до ці́вуна. Он пшэніцу бье. Кажэ:

— Ідзі́, я ўвечор прыйду́ — табе́ прынесу́ пшэніцы.

Не ве́даюць адзі́н аднаго́, што попрыходзяць. Дай ана́ научыла сваго́ мужыка́, што як пан войдзе, то ты нібы пьяны ідзі́ з кало́м у хату. Ну, добрэ. Напаліла ана́ ў печку так, што неможна ву́трымаць. Чэкае. Ідзе́ ціву́н, пшэніцу несе́. Поставіў ё ў спіжарні, дай горачо — страх! Так і адзене скінуў. Аж тут гледзі́ць у акно́ — ідзе́ комісáр.

— Што мне рабі́ць — он мне тут забіе́, што я гумна́ не пільную.

Дала́ ему́ гарнец ячменя і поставіла ў кутку за жарнамі — ячме́нь меле. Комісáр прынёс ўсего́ есьці і піці. Да горачо ў хаце.

— Скінь адзене, — ана́ кажэ.

Ну, добрэ. Скінуў он адзене, да голый астаўсе.

Гледзіць у акно́ — ідзе́ аконо́м.

— Дзе мне дзецьса цяпе́р! Он мне забіе́, што я хфо́льварка не пільную.

— Лезі́ на печку, седзі́.

Он поле́з на печку, дай ана́ усё посховала до спіжарні. Аконо́м прынёс усего́ добра́, едзя́ць, пьюць.

— Вельмі тут горачо.

— Скінь адзене, будзе лепей.

Скінуў он адзене, дай ана́ ў спіжарні сховала. Гледзя́ць у акно́ — ідзе́ сам пан.

— Дзе мне дзецьса цяпе́р! Он мне забіе́, што я двора не пільную.

— Кладзісе ў каробку — веком зачыню.

Влез он у каробку, зачыніла веко. Седзіць.

Пан прышо́ў, прынёс мяса, келбасы — пьюць, гуляюць.

— Страшэнно тут горачо.

— Скіньце,— кажэ,— адзене.

Скінуў он адзене да голый седзі́ць. Бачуць — ідзе́ мужы́к з хфу́рэю.

— Божэ мой, дзе мне схавацьса!

— Станьце на по́куці за святого — он пьяный, не познае.

Стаў пан на по́куці. Прыходзіць мужы́к.

— От, бач,— ана́ кажэ,—якого я святого сабе́ купіла!

Дай мужы́к взяў, наме́рыўсе хфурей.

— Да не, не стрэля́й до святого. Лепей адчыні веко ад каробкі, дай у веко стрэля́й.

Як адчынілі веко, так аконо́м голый вускочыў, а пан з-за стола, а коміса́р з-за печкі, а ціву́н з кутка, поспужа́лісе. Го́лые, бо́сые, поуцекалі — дай і адзене аста́вілі і ўсё дабро́. Дай стражнік з жонкой забогацелі.

# Слоўнік

## А

*Абаліць* абярнуць, перакуліць.
*Абалонь* балонка.
*Адбіць* адкрыць.
*Адваліваць* (лес) сплаўляць.
*Адвалівацьса* (пра лес) сплаўляцца.
*Адналетак* аднагадовы.
*Адный* адзін.
*Адправіць* справіць.
*Адселене* водшыб.
*Ажось* аж.
*Акуратно* акурат.
*Амэн* амін.
*Ацецкі* бацькаў.
*Ашарг'аца* абшморгацца.

## Б

*Бавляцса* бавіцца.
*Бардзо* вельмі.
*Батэрыя* батарэя.
*Бегнуць* бегчы.
*Біць* малаціць.
*Боровый* лясны.
*Браціха* бpатавая.
*Брыка* брычка.
*Брэмінная* цяжарная.
*Бэрліна* барка, барліна.

## В

*Вавесці* увесці.
*Важно* вельмі.
*Ведзець* ведаць.
*Взмогцісе* натужыцца.
*Віць* (пра завіруху) месці.
*Владжаць* улазіць.
*Вовесці* завесці, павесці.
*Водзіцса*важдацца.
*Ворочываца* варочацца.
*Ворухаты* паваротлівы.
*Вроціць* вярнуцца.
*Вскураць* дымець, курыцца.
*Вшэлякі* усякі, усялякі.
*Выймаць, вымаць* вынімаць.
*Вьшерадзіць* перагнаць.
*Выплынуць* выплысці.

*Высохнуць* пахудзець.
*Высунуць* выбіць.
*Высыпаць* насыпаць.
*Выяць* выняць.

## Г

*Гіляра* баржа, лайба, барка.
*Гладкій* сыты.
*Глуміцсе* насмяхацца, паджартоўваць.
*Голье* галлё.
*Гоніць* гнаць.
*Груб* магіла.
*Грумацець* грукацець.
*Г'вездочка, г'вяздочка* зорачка.
*Г'енба* губа.

## Д

*Дак* дык.
*Дацъ* стукнуць.
*Двойка* два разы.
*Дзбан* збан.
*Дзерэвіна* кавалак дрэва.
*Дзяць* дзець.
*Доўбіць* стукаць.
*Доча* дачка.
*Дуроваты* дурнаваты.
*Дыба* дыбкі.

## Е

*Ерба* вярба.
*Ербіна* вярбіна.

## Ж

*Жалаваць* шкадаваць.
*Жарніца* жароўня.
*Жрэбчык* жарэбчык.
*Жэноцкі* жаночы.

## З

*Заберацса* збірацца.
*Завінуць* захутаць.
*Загарывацса* загарацца.
*Загарэць* згарэць.
*Загрэбці* забраць.
*Задеваць* спраўляць.
*Зажэнуць* загнаць.
*Зайзяць* заззяць.
*Закраса* прыправа.
*Замерыцсе* намерыцца.
*Замчысты* вялікі, раскошны.
*Замяш* замест.
*Заняцца* зацяжарыць; загарэцца.
*Запасці* заспець, застаць.
*Запечатаць* замкнуць.
*Запомогчы* дапамагчы.
*Запрысягнуцса* паклясціся.
*Захрапаць* захрапці.
*Зачаць* пачаць.
*Зачэперыцса* учапіцца.
*Збегаць* аббегаць.
*Збіцсе* сабрацца.
*Зблудзіць* заблудзіць.
*Звінуцса* адступіцца.
*Згадываць* адгадваць.
*Зглошыцса* унесці прапанову.
*Зголосіцса* згадзіцца.
*Зложыцсе* нацэліцца.
*Знаць* відаць, напэўна.
*Зняць* (рашчот) атрымаць, узяць.
*Зобрацсе* сабрацца.
*Зэрваць* сарваць.
*Зяўзюля* зязюля. Пар. к а ў к а, к у к о ў к а.

## І

*Ізгубніца* згубіцелька.
*Імаць* мець.
*Імперъял* залатая манета (10 рублёў серабром).

## К

*Кабы* каб.
*Кавеня* палка.
*Кагаць* казаць.
*Калнір* каўнер.
*Карбованец* рубель.
*Каток* коцік.
*Кеп* дурань.
*Кідацса* ператварацца.
*Кілька* колькі.
*Кічка* дубец.
*Клекаць* клекатаць.
*Клеця* клець.
*Коло* каля.
*Коча* экіпаж.
*Крам* крамніна.
*Красный* прыгожы.
*Кружкі* кругом.
*Крысло* крэсла.
*Кторы, кторый* каторы, які.
*Кукайка* зязюля. Пар. з я ў з ю л я, к у к о ў к а.
*Курца* курыца.
*Кучлівый* куслівы.

## Л

*Лавіча* лаўка.
*Латун* абадранец.
*Ле* каля.
*Ледво* ледзь.
*Лесовый* лясны.
*Лопнуць* (крылом) махнуць.
*Лошак* гадавалае жарабя.
*Лунуць* лінуць.
*Лучш* лепш.
*Любовацса* любіцца.
*Любоўства* любоў.
*Лякацса* палохацца, пужацца.

## М

*Макотка, макотра* макацёр.
*Место, месца* горад.
*Мліко* малако.
*Мужчызна* мужчына.
*Мужычка* служанка.
*Муравей* муравейнік.
*Мяньціць* мучыць, цягаць

## Н

*Навернуцса* накрыцца.
*Навернуць* накрыць. Пар. п р ы в е р н у ц ь.
*Нагле* нечакана.
*Нагорода* узнагарода.
*Назорыць* нагледзець.
*Найці* трапіць.
*Наковаць* навастрыць.
*Накукаць* накукаваць.
*Накуповаць* накупляць.
*Наодлів* наводмаш.
*Напотыкаць* напакаваць.
*Напроцій* (воскрэсенья) напярэдадні.
*Нароў* нораў.
*Насадзіць* (на багацтва) пасяліць, прызначыць; (пяць коп) пасласць.
*Настаць* настаяць.
*Натыкаць* падбухторваць, правакаваць.
*Немаш, немашака* няма.
*Нерушоный* некрануты.
*Нікогонько* нікога.
*Ніц, нічэнька* нічога.
*Нішчэнка* жабрачка.

## О

*Обаліць* абярнуць, заваліць.
*Обачыць* пабачыць, убачыць.
*Обродзіцса* радзіць.
*Оброк* корм для каня.
*Одкрасці* украсці.
*Одповедзіць* адказаць.
*Одратоваць* выратаваць.
*Ознайміць* абвясціць.
*Ослухаць* падслухаць.
*Оступіць* абступіць.
*Ося* (у коле) вось.
*Осягацса* спыняцца.
*Ото* вось.

## П

*Падзеяць* падзець.
*Палаш* шабля.
*Пальнуць* стрэліць.
*Пасага* пасаг.
*Патопа* патоп.
*Пацер* малітва.
*Пашня* збожжа.
*Пекны, пекный* прыгожы.
*Пенендзы* грошы.
*Перавезці* знішчыць.
*Перавесці* абвесці, перахітрыць.
*Первей* раней, спачатку, спярша. Пар. у п е р в о.
*Перэдаднем* досвіткам.
*Перэжэгнацса* перахрысціцца.
*Перэк* перад.
*Перэменіцсе* пераўтварыцца.
*Печэня* печань.
*Піун, піунь* певень.
*Плашыць* пляскаць.
*Плетня* плётка, пляцёнка.
*Побрацса* ажаніцца.
*Поведзіць* сказаць.
*Поверыць* праверыць.
*Повыпекаць* выпаліць.
*Подворье* дом з дваром і дваровымі будынкамі.
*Подзеець* падзець.
*Подмоўвочка* падбухторшчыца.
*Подойміцса* падняцца.
*Подолаць* здолець.
*Подтыкаць* прыпадымаць.
*Поены* напоены.
*Поець* паесці.
*Поздороўляцсе* прывітацца.
*Позьміраць* паміраць.
*Поланцоваць* закаваць у ланцугі.
*Полкватэркі* пасудзіна (паўчвэрць літра).
*Помост* падлога.
*Понастроіцса* нацэліцца.
*Поперэд* уперадзе.
*Поплынуць* паплысці.
*Попрыкорчываць* падкручваць.
*Порухаты* паршывы.
*Посмароваць* памазаць.
*Поссуваць* зняць.
*Постáць* спыніцца.
*Поступіць* дзяваць.
*Потрава* страва.
*Потрактоваць, потрахтоваць* пачаставаць.
*Поўроку* паўгода.
*Поўставаць* уставаць.
*Похажаць* пахаджваць.
*Поцягці* пацягнуць.
*Прабудзіць* узбудзіць.
*Прагнаць* перагнаць.
*Прасечка* палонка.
*Прокулуць* праглынуць.
*Прослаць* пасалаць.

*Просьле* пасля.
*Протворыць* прачыніць (вочы), адкрыць.
*Процягці* працягнуць.
*Прыкмеціцса* нацэліцца.
*Прыперці* прынесці.
*Прыпомніцса* апамятацца.
*Прыраіць* параіць.
*Прыценуць* прыцягнуць.
*Прыцягці* прыцягнуць.
*Прэд* перад.
*Прэндко* хутка.
*Публікацья* ліст.
*Пяна* пена.

## Р

*Рада* парад.
*Разапяць* (сець) закінуць, расставіць.
*Разгарывацса* разгарацца.
*Разпінаць* (сець) закідваць, расстаўляць.
*Разпоцыкаць* (мядзведзя) раззлаваць, узварушыць.
*Разпрашаць, распутываць* распытваць.
*Разцелаць* рассцілаць.
*Разчыніць* (цеста) разбоўтаць; (агонь) запаліць.
*Родзіць* расці.
*Рожоный* родны.
*Розчына* (цеста) раствор.
*Рок* год.
*Росолок* суп, булён.

## С

*Самый* (пра золата) чысты.
*Свіронак* свіран.
*Серэдульшы* сярэдні.
*Скепка* шчэпка.
*Скідацса* пераўтварацца.
*Скінуцса* пераўтварыцца.
*Скрычаць* закрычаць.
*Скуць* скаваць.
*Словечно* славесна.
*Соромотовацса* сароміцца.
*Соўнца* сонца.
*Спалявацъ* застрэліць.
*Спірацса* спрачацца.
*Сплаціць* заплаціць; сабраць.
*Сплоніцса* пачырванець.
*Спойсці* пайсці.
*Спраціўляцса* супраціўляцца.
*Срыбны* срэбраны.
*Сто* што.
*Страцене* страта.
*Строна* бок.
*Суняць* спыніць.
*Схацець* захацець.
*Сценуцса* кінуцца.
*Сцягнуць* сцебануць.
*Сьвенціцса* пасвячацца.

## Т

*Тагды* тады.
*Таньчыць* танцаваць.
*Товарыства* чарада.
*Трактоваць* частаваць.
*Трэ* трэба.
*Тудою* туды.
*Тулуб* тулава.
*Тутак, тутака, тутка, тутова* тут.

## У

*Уберанный* убраны.
*Убірацса* збірацца.
*Убрацса* сабрацца; узабрацца.
*Угленуць* убачыць.

*Угнаць* выгнаць.
*Угода* выгада.
*Угон* выган.
*Удаваца* трапляцца.
*Удзевяцеро* удзевяцёх.
*Удзерэный* падраны.
*Удырыць* ударыць.
*Узрэзаць* зарэзаць.
*Укленчыць* выкленчыць.
*Укрэстованый* упрыгожаны.
*Умерзнуць* замерзнуць.
*Уняць* супакоіць.
*Уот* вось.
*Упекці* падсмажыць.
*Уперво* тое, што п е р в е й.
*Уперэдку* уперадзе.
*Упечоны* падсмажаны.
*Упраўляць* выпраўляць.
*Уроўні* нароўні.
*Уседзіць* выседзіць.
*Усокі, усокій* высокі.
*Усоко* высока.
*Успаковаць* напакаваць.
*Уткаць* выткаць.
*Утрымаць* вытрымаць.
*Уцекці* уцячы.
*Уцягці* уцягнуць.
*Учоўкаць* з'есці.
*Учуць* пачуць.

## Х

*Хаба* завіруха.
*Хвузея, хвурея, хфурэя* стрэльба.
*Хучшэ* хутчэй.
*Хцэць* хацець.

## Ц

*Цалый* цэлы.
*Целяшок* палена.
*Ценжа* цяжарнасць.
*Цурка* дачка.
*Цьма* процьма
*Цяліца* цёлка.

## Ч

*Чаўнок* човен.
*Чобот* сапог.
*Чтыры* чатыры.
*Чувалы* чуткі.
*Чы* ці.
*Чыніць* начыняць.
*Чэрапнуць* схапіць.

## Ш

*Шаснуць* запаліць.
*Шляк* бабка (10 снапоў).
*Шчэ* яшчэ.
*Шчэпіць* сашчапіць.
*Шэўц* шавец.

# Змест

**Беларускі** казачны эпас. Склад.
Б43 У. В. Анічэнка. Мн., Выд-ва БДУ, 1976.
207 с.

«Беларускі казачны эпас» складаюць разнастайныя па зместу і форме празаічныя творы, запісаныя на беларускай мове да рэвалюцыі. Казачны рэпертуар зборніка насычан глыбокім сацыяльным зместам і своеасаблівым моўнастылістычным каларытам. Фальклорны зборнік друкуецца ўпершыню па рукапісу, які знаходзіцца ў бібліятэцы польскай Акадэміі навук у Кракаве.

Мае вялікае пазнавальнае значэнне для гісторыкаў, літаратараў, моваведаў. Казкі будуць цікавы масаваму чытачу, усім тым, хто беражліва і з чуласцю адносіцца да роднага слова.

Б $\frac{70202-041}{М\,317-76}$ 48—76 **Бел Ф**

**БЕЛОРУССКИЙ СКАЗОЧНЫЙ ЭПОС**

Составитель
*Владимир Васильевич Аниченко*

Издательство Белорусского государственного университета им. В. И. Ленина
Минск, ул. Кирова, 24

*На белорусском языке*

Рэдактар *Л. М. Самасейка.* Мастацкае рэдагаванне *Л. Г. Мядзведзевай.* Тэхнічны рэдактар *В. П. Безбародава.* Карэктары *В. А. Ждановіч, С. А. Татрышвілі.* АТ 21087. Здадзена ў набор 10/XI 1975 г. Падпісана да друку 8/VII 1976 г. Фармат $70 \times 90^{1}/_{32}$. Папера друкарская № 1. Ум. друк. арк. 7,6. Ул.-выд. арк. 7,48. Тыраж 10 000 экз. Заказ 2757. Цана 45 кап. Выдавецтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Мінск, вул. Кірава, 24. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, вул. Чырвоная, 23.

